## ПРАЎДА

Жыўцом палілі праўду на лаўжах,
Свінцом гарачым залівалі глоткі,
За праўду распіналі на крыжах,
Закоўвалі на катарзе ў калодкі.

Круцілі рукі, адымалі зрок,
Зірнуць у вочы праўдзе баючыся,
І, за спіною ўзводзячы курок,
Апошні раз казалі: «Адрачыся!»

Ішлі ў душагубкі, на крыжы
Падпольшчыкі, байцы, парашутысты,
І грозна на апошнім рубяжы
За праўду паміралі камуністы.

Жыццём не паскупіліся яны,
Зямлю крывёй гарачай акрапілі,
Каб іх паплечнікі і верныя сыны
Заўсёды толькі праўду гаварылі.

1966 г.

## ДАБРАТА

Нялёгка быць даверлівым і шчырым,
Нялёгка крыўды, даўнія забыць;
Яны звісаюць, як цяжкія гіры,
І замінаюць верыць і любіць.

Нялёгка добрым быць,
хоць нам не трэба
Ні лёгка запрацованага хлеба,
Ні тайных поспехаў, ні скідак, ні удач,
Ні вырашаных іншымі задач,

Ні тых пахвал, што лёгка раздаюцца
Сябрамі за абедзенным сталом,
Ні плётак, што вужакамі віюцца
І патыхаюць зайздрасцю і злом.

Усё праходзіць, быццам дождж няроўны,
І боль, і злосць, і дробная брыда,
А застаецца важны і галоўны
І самы светлы талент — дабрата.

*1963 г.*

## ЛЮБОЎ

Мой даўні боль —
Любоў мая,
І радасці, і клопат
Растуць і множацца ўдвая,
Нібы на шчасце попыт.

З чаго прызнанне мне пачаць?
Як да цябе звярнуцца?
Бо пра любоў часцей маўчаць
Ці шэптам прызнаюцца.

Любоў мая —
Зямля мая,
Адзіная да болю,
На ўсё жыццё прыкуты я
К табе па ўласнай волі.

Твае узлёты —
Мой узлёт,
Пралік —
Мае пралікі,
Таму і сэрца з году ў год,
Нібыта звон вялікі,

У грудзі б'ецца і гудзе,
І спаць яго не ўкласці —
Яно пакутуе ў бядзе
І радуецца ў шчасці.

*1966 г.*

* * *

Праверыць можна нервы, склад крыві,
Убачыць мозг і сэрца на рэнтгене,
А па якіх зубцах або крывых
Праверыць можна чысціню сумлення?

Як зазірнуць у глыбіню душы
І як узважыць шчодрасць чалавека?
Якія тут рэцэпты ні пішы,
Ніякая не выручыць аптэка.

Я разгадаць сябе як след хачу
І плямы ўсе з душы сваёй сціраю,
Бо ўсё жыццё па Ільічу
Уласнае сумленне правяраю.

*1964 г.*

## МАЁ ПАКАЛЕННЕ

І я у дзяцінстве не ведаў калыскі,
Не ведаў утульнае цёплае хаты,
Замест калыханкі, схіліўшыся нізка,
Спяваў у цяплушцы салдат барадаты:

«Віхуры варожыя веюць над намі»...
І ў нашай цяплушцы свісталі вятры,
Смяяліся хлопцы: «Пакончым з панамі,
Як толькі усе даядзім сухары».

І мне аддавалі шурпаты і горкі
Сухар са свайго баявога пайка,
А самі круцілі цыгаркі з махоркі
І песню зацягвалі пра Ермака.

Пасля, пасадзіўшы на мулкім калене,
Чырвонаармеец пытаўся не раз:
«Ты ведаеш, браце, а хто такі Ленін
І што ён гаворыць пра нас?»

І я, ашчаперыўшы шыю худую,
Услед паўтараю за ім:
«Мы наш, мы новы свет збудуем,
Хто быў нічым, той стане ўсім!»

Салдацкія вочы адразу цяплелі
І бачылі заўтрашні дзень прад сабой,
А побач матросы натхнёныя пелі,
Што гэта апошні, рашаючы бой.

Вось так у цяплушках, у дымных бараках
Мае аднагодкі раслі.
Не ведалі мы, што ужо аб рабфаках
Ільіч гаварыў у Крамлі.

Што ён ужо бачыў агні Днепрагэса,
Адзначыў на карце Кузбас
І марыў, што ў нетрах сібірскага лесу

Уздымецца горад для нас.

І разам з бацькамі мае пакаленне
Валіла тайгу і драбіла каменне,
Закладвала домны, капала каналы —
Лажылася позна, а рана уставала,

Жыло у палатках у сцюжы і ў буры,
Каб горад узняўся хутчэй на Амуры,
Стаяла на варце дзяржаўнай граніцы
І помніла: трэба вучыцца, вучыцца.

Трымала вінтоўку, кайло і лапату
І слухала лекцыі па сапрамату,
Ішло вечарамі ў партыйную школу
І ворагаў біла каля Халхін-Гола.

Маё пакаленне, мае аднагодкі,
Пачуўшы трывогу, надзелі пілоткі
І ў цеснай зямлянцы кляліся ўрачыста:
— Лічыце
мяне
камуністам!

І кожны быў братам,
І кожны быў другам
Ля сцен Ленінграда,
У пекле над Бугам.

Куды б ні вяла нас крутая дарога,
За намі заўсёды ідзе перамога —
У льды Антарктыды, у неба прасторы,
Дзе новыя ўсходзяць савецкія зоры.

*1957 г.*

## КАМІСАРЫ

Тачанкі і коні знікаюць за хмары —
У дыме і ў пыле ляцяць камісары:
На чорных скуранках — чырвоныя банты,
А ў сёлах гуляюць кулацкія банды.

Па ўсім небасхіле шугаюць пажары...
Ляцяць конармейцы, ляцяць камісары.
Грукочуць тачанкі, напяліся лейцы,
Шалёныя коні ірвуць павады,
Чырвонагвардзейцы, чырвонаармейцы
У дыме і ў пыле ляцяць праз гады.

На шапках сузор'і гараць, як стажары,
Над сцягам чырвоным у першых радах
У полымя бою ідуць камісары,
І дым асядае ў дваццатых гадах.

Як толькі на Захадзе хмары навіслі,
Крывёй замуціліся хвалі на Вісле
І бомбы на брэсцкія ўпалі бульвары,
Зноў першымі сталі у строй камісары.

Чубы пасівелі, прыгнуліся спіны,
Пакуль распісацца дайшлі да Берліна.
Гарачыя коні знікаюць за хмары —
І толькі ў адстаўку не йдуць камісары.

*1966 г.*

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Яшчэ на ўзлессі снег ляжыць,
Але шпакі ужо шчабечуць,
Звіняць да змроку капяжы,
І кроплі падаюць на плечы.

Ідзе вясна, а Не адліга,
З вятрамі, ліўнямі, цяплом:
І крыгі крушацца аб крыгі,
А хутка грымне першы гром.

Плывуць над Волгай хмары нізк а>
Маланкі тушачы ў вадзе.
Вось у такі вясновы дзень
Радзіўся хлопчык у Сімбірску.

У свет з'явіўся чалавек
З вялікім сэрцам і натхненнем.
І ў дзень ягоны нараджэння
Пачаўся новы светлы век.

*1957 г.*

## НА ВОЛЗЕ

На Волзе непагадзь.
Ляцяць на бераг пырскі,
Над Волгай не змаўкае ветру свіст.
Завулкамі купецкага Сімбірска
Ідзе на стромкі бераг гімназіст.

Яму ад нараджэння дарагая
Вялікая расійская рака.
Ён бачыць, як у змроку дагарае
На тым баку агеньчык рыбака,
Ён бачыць, як у непагадзь і спёку
На узбярэжжах бурлакі снуюць,
І чуе, як над Волгаю шырокай
Тужлівую «Дубінушку» пяюць.

Ён бачыць вочы гнеўныя і шыі
У пісягах ад мулкага ярма.
Яму здаецца, што уся Расія
Прыйшла сюды, а ёй канца няма;

Няма канца і краю цяжкім стратам
І песням пра пакуты і бяду,
Няма канца і тым, што брат за братам
У турмы і на катаргу брыдуць.

Яны праходзяць, скутыя у пары,
З узнятаю высока галавой...
Гарцуюць захмялелыя жандары,
І ляскае затворамі канвой.
Стаіць адзін хлапчук каржакаваты,
І бліскаюць агеньчыкі ў вачах.
Ён паўтарае сам сабе, як клятву:
«Мы адшукаем самы пэўны шлях».

Над Волгаю заняўся золак сіні,
Над Волгай непагадзь, над Волгай ветру свіст...
Глядзіць і бачыць заўтрае Расіі
Пакуль што невядомы гімназіст.
*1957 г.*

## АГАНЁК УНАЧЫ

Ідуць дажджы і днём і ноччу,
Апалі мокрыя лісты,
Вада асенняя булькоча,
Старыя зносячы масты.

Размокла на дарозе гліна,
Канавы поўныя вады,
І у разбітых каляінах
Па трубкі грузнуць абады.

Світае днём, і днём змяркае,
Куды ні глянеш — змрок і змрок,
Нібы над Енісейскім краем
Замкнулі сонца на замок.

І ночы чорныя, як сажа,
Здаецца, бездань за сцяной.
Ніхто дарогу не пакажа,
Ніхто не пусціць на пастой.

А ты ідзеш, прамок дазвання,
Закляклі ногі, ледзь жывы.
Цябе, нібы на пакаранне,
У воласць кліча станавы.

Збіраўся дабрысці да ночы,
Ды не прайшоў і тры вярсты,
Як зніклі сцежкі ля абочын,
Як раптам выраслі кусты.

Куды ісці?
У чорным полі
Адзін блукаеш, як сляпы,
Табе шыпшыннік шчокі коле,
Малоціць дождж у тры цапы.

На паўаршына грузнуць ногі,
Чыркі размоклі у вадзе.

Ды па загаду станавога
У воласць Пронікаў ідзе.

Кляне і цемрадзь, і парадкі,
Ураднікаў, і станавых,
Што за патравы і падаткі
У воласць гоняць ледзь жывых.

Ды болей не ступіць ні кроку,
Прысеў, намацаўшы пянёк,
Зірнуў навокал:
дзесь далёка
Мільгнуў маленькі аганёк.

Жывы, трапечацца, палае,
Яго й дажджы не залілі,
Нібыта зорачка малая
Адна гарыць на ўсёй зямлі.

Рукамі расхінуўшы веццe,
Устаў стары, прыбавіў крок,
Ідзе туды, дзе ярка свеціць
Жывы маленькі аганёк.

Канавы, зараснікі глогу
Ужо мінуў стары даўно.
Яму паказвае дарогу
Чыёсьці светлае акно.

У раму стукнуў асцярожна
І кажа:
— Госпадам прашу,
Пусціце ў хату, калі можна,
Ратуйце грэшную душу.

— Хутчэй заходзьце, калі ласка...
Усё, усё здымайце прэч,
Чыркі сушыце,
апаяску
І світку вешайце на печ.

Сядайце, вось і чай дарэчы,
Кладзіце цукар... ну, ніпіто? —
І гаспадар яму на плечы
Сваё накінуў паліто.

І чай гарачы уиакладку
Спакойна сёрбае стары,
Вядзе размову пра падаткі
І беззямельныя двары:

— Прапала матухна-Расея,
Жабрачыць з восені сяло.
Яшчэ у нас на Енісеі
Такога зроду не было.

А гаспадар прыжмурыў вока,
Па светлай гладзіць барадзе,
Устаў, прайшоў шырокім крокам
І кажа:
— Не, не прападзе!

Мы не дазволім ёй прапасці,
І вы, і. вашы землякі.
У нас такое будзе шчасце,
Настане лад у нас такі,

Што свет Расіі пазайздросціць,
Унукам нашым і сынам.
Патрэбна толькі болей злосці,
І болей сілы трэба нам!

...На дзень займалася патроху
У глухой сібірскай старане.
Усім паказвала дарогу
Святло у ленінскім акне.

*1960 г.*

## САЛДАЦКІ ХЛЕБ

У салдата груз не цяжкі,
Бо ідзе не на кірмаш,—
Скатка, торбачка, біклажка,
Стрэльба, штык і патранташ.

Вось і ўсё яго багацце.
Каптэнармус сухары
Выдае яму не ў хаце,
А на полі ці ў бары.

Не заўсёды ёсць махорка,
Не заўсёды ёсць вада.
Паліняла гімнасцёрка,
Пасівела барада.

Месяц солі ён не бачыў
У Палескай старане,
Хоць яна ў баях гарачых
Выступала на спіне.

Не было калі уцерці
Рукавом крывавы пот.
І не раз у вочы смерці
Ён глядзеў за гэты год.

Біў Дзянікіна, Марусю,
Адмірала Калчака,
А цяпер у Беларусі
Стаў разведчыкам палка.

Ён тут ведаў кожны мосцік
Ад Бярозы да Дзвіны...
Застагналі ягамосці,
Заспяшаліся паны.

Не шукаючы, дзе мелка,
Не пытаючы, дзе брод,
З Мінска, з Глуска, з Рудабелкі

Пакаціўся гэты зброд.

А разведчык той, вядомы
З грамадзянскае вайны,
На дзянёк зайшоў дадому,
У мястэчка Курганы.

Пазбіраліся суседзі,
І суседкі, і дзяды.
Далажыў салдат, што едзе
У Маскву на два гады.

— Трэба трохі падвучыцца,
І таму мяне з палка
Пасылаюць у сталіцу,
Аж у школу ЦБК.

Зажурыліся кабеты:
— Гэта ж госць у нас такі,
А у беднае Альжбеты —
Ані круп, ані мукі.

І панеслі хто што мае:
Скварку, шклянку малака,
Тут і каша прасяная,
Тут і жытняя мука.

Завіхаюцца салдаткі.
Печ гудзе, звіняць нажы.
На сталы нясуць аладкі,
Цеста месяць у дзяжы.

Бохан кмінам пасыпаюць:
Будзе смачны хлеб, круты,
І у печ яго саджаюць
На кляновыя лісты.

Стол накрылі так, як трэба,
Як бывала да вайны.
І запахла свежым хлебам
Над мястэчкам Курганы.

Пасядзелі, паспявалі,
А на золку акурат
Хлеб у торбачку паклалі,
І пайшоў далей салдат.

У салдата груз не цяжкі,
Бо ідзе не на кірмаш,—
Хлеб у торбачцы, біклажка,
Тытуню на тры зацяжкі,
Стрэльба, штык і патранташ.

Дзе пад'едзе, дзе падыдзе,
Дзе задрэмле на траве,
І не болей як за тыдзень
Апынуўся у Маскве.

Тут сустрэлі на вакзале,
Да начальства павялі,
Накармілі і сказалі,
Што служыць яму ў Крамлі.

Ён прыйшоў. Наўкол палацы,
За сцяной цячэ рака.
У каго б яму спытацца,
Дзе тут школа ЦБК.

А насустрач невысокі
Чалавек якраз ідзе.
Паглядзеў, прыжмурыў вока,
І салдат яму здалёку
Крыкнуў:
— Браце, школа дзе?

Незнаёмы ўсміхнуўся
І гаворыць на хаду:
— Калі так, дык я вярнуся,
Вас да месца давяду.

Вы адкуль, з якога фронту?..
Што там добрага чуваць?

— Добра ўсё. Шкада, што з контрай
Не далі даваяваць.

Кажуць: «Трэба падвучыцца».
— Так, вучыцца трэба ўсім...
— Але брацца за табліцу
Не з характарам маім:

Гаспадарка ж не ў парадку,
Жонка колькі год адна.
А цяпер — ізноў салдатка,
Хоць і кончыцца вайна.

Прыпыніліся ля дома
З нейкай шыльдай на сцяне,
І гаворыць незнаёмы:
— Можа зойдзем да мяне?

Абмяркуем гаспарадку,
Як жывуць у вас, і чым
Не адной, а ўсім салдаткам
Трэба нам дапамагчы.

У прасторным кабінеце
Сеў салдат каля стала.
І пра ўсё, што ёсць на свеце,
Лёгка гутарка пайшла.

Пра зямлю, пра хлеб і школы
Доўга гутараць яны,
Пра ячэйку камсамола
У мястэчку Курганы.

Увайшла ў пакой дзяўчына,
Азірнулася наўкол,
Чай прынесла і нішчымны
Хлеб паставіла на стол.

— Калі ласка чым багаты...—
Прапануе гаспадар
І падсоўвае салдату

Хлеб шурпаты, як сухар.

Зняў салдат мяшэчак, скатку,
Аж забыўся: што ў Крамлі,
Хлеб вымае што салдаткі
На дарогу напяклі,

Падае суседу лусту:
— Не пагрэбуйце і вы,
Можа прыйдзецца па густу
Хлеб салдацкі, франтавы.

— Хлеб адменны, скажам прама.
Хто яго пячэ і дзе? —
А салдат ніяк не ўцяміць,
З кім ён гутарку вядзе.

Развітаўшыся, гаворыць
Клапатлівы гаспадар:
— Вас чакае ў калідоры
З вашай школы камісар.

Камісар на тратуары
Дакрануўся да пляча
І спытаў:
— Ну як, таварыш,
Гасцяваў у Ільіча?

*1958 г.*

## ТРЫ ВЫМЯРЭННІ

Апоўначы, калі сціхае горад
І тухнуць вокны у суседнім доме,
Калі ляцяць апошнія сняжынкі
І гімн яшчэ ў прыёмніку гучыць,

Дачка дамоў прыходзіць з інстытута,
Прыносіць коцікі і весела жартуе,
Што пахне снег вясноваю вадою,
А снегам пахне ранняя вясна.

Яна прыносіць тоўстыя канспекты,
Тугія скруткі ватманскай паперы,
Бярэ лагарыфмічную лінейку
І, мабыць, да світання не засне.

А на стале — часопіс «Юны тэхнік»
І карта нашай сонечнай сістэмы,
Цвічкі, стамескі, лобзікі, свярдзёлкі
І сынаў папяровы самалёт.

Пра што сягоння мараць нашы дзеці?
Іх вабяць электроніка і космас,
У іх свае праблемы і трывогі,
Якія нам нялёгка зразумець.

А каб зірнуць на іх гадоў праз дваццаць,
Дазнацца, што яны зрабіць паспелі,
Куды праклалі новыя дарогі,
І ці не вельмі збіты Млечны Шлях,

Узяць білеты на касмічны лайнер
І паляцець у госці к марсіянам...
Фантастыка?
А колькі год мінула,
Як першы спадарожнік стартаваў?

І тут я ўспомніў пра сваё дзяцінства
Пад цёмнай саламянаю страхою,

З шаптухамі, папамі, знахарамі
І невялічкім дымным каганцом.

Здаецца гэта мне былым стагоддзем.
Здаецца, нешта каляндар наблытаў:
Калі лічыць па зробленай рабоце,—
Прайшло не пяцьдзесят, а дзвесце год.

Я азіраюся і думаю заўсёды:
А што было б, каб не радзіўся Ленін,
Каб у кастрычніку не паднялі паўстанне,
Каб не ўвайшла «Аўрора» у Няву?

Сядзеў бы я і сёння ў курнай хаце,
Тачыў бы верацёны пры лучыне,
Насіў бы лапці, зрэбныя кашулі
І вечным бы нядоімшчыкам быў,

Баяўся б старасты, урадніка і бога,
Глядзеў бы на чыгунку, як на дзіва,
Насіў бы крыж усё жыццё на шыі,
Як цяжкае і мулкае ярмо.

А белы свет канчаўся б за узгоркам,
І толькі б не канчаліся нястачы,
І толькі крыўды, гора і зняважі
Я ў спадчыну б унукам перадаў.

Не ведаў бы ні Пушкіна, ні Гётэ,
Не бачыў бы палотнаў Рафаэля,
Застаўся б невядомым Цыялкоўскі,
А Маякоўскі кайданы б насіў.

Галоўнага канструктара не мелі б,
Не сустракалі б нашых касманаўтаў,
Не рыхтавалі б новых да палётаў,
Бо іх у нас напэўна б не было.

Калі б не рэвалюцыя, не Ленін,
Калі б не камсамольскія пуцёўкі,
Не светлыя чытальні інстытутаў,

Нам бы сваіх каханых не сустрэць.

Усё жыццё тады пайшло б іначай:
Былі б у нас цяпер другія сем'і,
Другія дзеці і сябры другія,
А тых, што ёсць, ніколі б не было.

Руда рудзела б пад гарой Магнітнай,
Гула б тайга на берагах Амура,
Каля Старобіна ляжалі б сільвініты,
А на Палессі панаваў каўтун.

Вякамі людзі марылі пра шчасце,
Складалі казкі пра сваё збавенне,
Шукалі мужных волатаў, а потым
За імі ўслед на катаргу ішлі.

Павінен стаць быў Леніным Ульянаў,
Каб увабраць любоў і гнеў народа,
Паклікаць самых дужых і адважных
І павярнуць усёй планеты лёс.

Мы ўсе яго сучаснікі і сведкі,
Як ён жыццё і лёсы перайначыў.
І нашыя нашчадкі пазайздросцяць,
Што продкі іх пры Леніне жылі,

Што бачылі той самы дождж і хмары,
Якія бачыў Ленін над Масквою,
Чыталі тыя самыя газеты,
Што Ленін кожнай раніцай чытаў.

Той самы хлеб, цяжкі, шурпаты, глёўкі,
Што еў Ільіч і мы ў дзяцінстве елі,
І пакляліся Леніну жывому
Быць гэтай клятве вернымі заўжды.

Апошні раз мы не стрымалі слёзы
У студзені, калі гулі сірэны,
І сцюжа лютавала над зямлёю,
І ўпершыню пачулі — Маўзалей.

Мы ўсе за тую зіму пасталелі
Так, як у горы сіраты сталеюць,
І сталі вочы вострымі, сухімі,
А плечы і дужэй, і трывалей.

Здавалася, што ленінская воля
І сіла перайшлі ў мільёны сэрцаў,
Што гэтай сілы, мужнасці і веры
І гэтай праўды хопіць на вякі.

Нам стала неабходна, як паветра,
Нялёгкая гарачая работа,
Бо сэнс жыцця, і нашае бяссмерце,
І шчасце пакаленняў толькі ў ёй.

Прымаюць нашы дзеці эстафету
Ад першых трактарыстаў і вучоных,
Ад сталявараў, дойлідаў, хірургаў,
Каб новым пакаленням перадаць.

Спрачаецца, працуе, марыць Ленін,
І кожны з нас, калі бывае цяжка,
К яму ідзе па мудрую параду,
Бо ён вось тут, у сэрцы і ў душы.

Ён выступае на Дваццатым з'ездзе,
Усе мы чуем ленінскую праўду,
Суровую, адкрытую, святую,
Што вучыць нас, вядзе і беражэ,

Што адкрывае нам такія далі,
Дае такую ўпэўненасць і сілу,
Такую мудрасць і такую волю,
Якая зможа ўсё перамагчы.

То свеціцца блакітнымі агнямі,
Гартуе сталь, то праз сівую сцюжу
Вядзе цяжкія гулкія саставы
Энергія жывога Ільіча.

Мы Леніна маглі б і сёння бачыць
Не ў гранітным строгім Маўзалеі,
А на трыбуне, на Чырвонай плошчы,
З заціснутаю кепкаю ў руцэ.

Ён мог бы жыць не толькі ў нашых сэрцах,
А і ў сваёй маленечкай кватэры,
Убачыць Брацк і зорныя вышыні
І слухаць бой курантаў у Крамлі.

А мы за гэты час прайсці паспелі б
Яшчэ далей, яшчэ вышэй узняцца,
Калі б хоць два ці тры дзесяцігоддзі
Ён з намі жыў і з намі працаваў.

Яшчэ ж яго паплечнікі працуюць
І выступаюць на партыйных з'ездах,
Любуюцца святочнаю Масквою.
Яшчэ яго равеснікі жывуць.

А што было б, каб Ленін жыў дагэтуль?
Нікога б мы не страцілі ніколі,
Пабудавалі б, што збудуем заўтра,
Зрабілі больш і менш перажылі б.

Магчыма, што фашысцкая навала
Не падпаўзла б да нашага парога,
А каб адважылася, каб паспрабавала,
Ніколі б не пусцілі за парог;

Не ведалі б трывог і недаверу,
Не чулі б пра унжлагі і сіблагі,
А Постышаў, Якір і Тухачэўскі
Былі б заўсёды ў баявым страі.

Салдаты, што загінулі пад Брэстам,
Касілі б сена і стагі вяршылі,
Заводы і плаціны будавалі б
І адпраўлялі ў космас караблі.

Слупкі дагэтуль невядомых формул,

Сімфоніі і оперы пісалі б,
Карціны і натхнёныя паэмы,
Якіх за іх ніхто не напісаў.

Мы іх напішам, мы усё здабудзем,
Бы кожны сёння за траіх працуе,
Бо кожны прагне ўсё зрабіць, што трэба,
І нават немагчымае зрабіць.

Бо кожная цагліна, кожны колас,
Сагрэтыя шурпатымі рукамі
І клопатамі партыі пра шчасце,
А шчасце ў нас завецца — Камунізм.

Заўжды жыве у нашых сэрцах Ленін,
Што свет і нашы лёсы перайначыў,
Што нам адкрыў бязмежныя вышыні,
Што партыю ў баях загартаваў.

Яна — наш розум, нашае сумленне,
І праўда непадкупная, і вера,
Надзейны компас у цяжкой дарозе
І самы ясны, самы мудры зрок.

Мы ведаем, што наша пакаленне
Узыдзе на вышыні камунізма
Пад ленінскім непераможным сцягам,
І ўслед за намі пойдзе цэлы свет.

Няхай растуць спакойна нашы дзеці,
Няхай рашаюць цяжкія задачы,
Няхай працуюць, думаюць і мараць
Пра новы дзень і пра наступны век.

*1964 г.*

## ПАМЯЦЬ

За ўсё жыццё я столькі слоў сказаў
І выслухаў, што іх ніхто не злічыць,
Што іх ніхто ніколі не запомніць,
Ды і ці варта іх запамінаць?

Яны знікаюць, як у полі вецер,
І галасы змаўкаюць назаўсёды,
Што мне калісьці сэрца хвалявалі
І не давалі да зары заснуць.

А ў памяці жывуць сяброў аблічча:
На іх то боль, то радасць, то усмешка,
Святыя слёзы першага кахання,
Адкрыты рот, як у нямым кіно.

Я зноў гляджу ў бяздонныя глыбіні
І хлопчыка маленькага гукаю...
У шарачку, у лапціках лазовых
Ён ажывае ў памяці маёй.

І я пазнаць у ім сябе спрабую,
Гляджу зусім старонні чалавекам,
Як ён у спёку баранує ляды,
Дужэе, і сталее, і расце.

Як ён ідзе мурожнымі лугамі,
Пад белымі аблокамі, з касою.
Як на узлессі спелыя суніцы
Губамі ловіць, лежачы ў траве.

То возіць дровы ён у завіруху
І падае ў сыпучыя сумёты,
Дрыжыць ад лютай сцюжы заінелы,
Аж слёзы прымярзаюць да шчакі.

А ўвечары гудзе агонь у печы,
Цвыркун тугу да раніцы пілуе,
Шуміць завея па замшэлых сценах

І вокны замятае да брывей.

Мігае кнот у трохлінейнай лямпе,
У цёплай хаце рошчынаю пахне,
Сухімі смалякамі, сырадоем
І снегам, што ў парозе растае.

Пяе паціху каля печы маці,
А чорны цень ад прасніцы здаецца
То лесуном, то казачнікам-дзедам
З кудлатаю густою барадой.

Такім жыве у памяці дзяцінства.
Няхай такім яно і астаецца
Да самае апошняе хвіліны
І да апошняй кропкі у жыцці.

Ідзе хлапчук асеннімі шляхамі
У свет прасторны і адкрыты насцеж.
А што ён знойдзе, што ён можа страціць?
Каго сустрэне? Пасябруе з кім?

Ніхто ж не чуў, што ён жыве на свеце,
Ніхто яго нікуды не чакае,
Ніхто у хату першы не запросіць,
А ён ідзе ў адкрыты насцеж свет.

Бо ўсюды ёсць прытулак чалавеку,
У сэрцы, за сталом і пад страхою,
І хлеб і соль дзяліць умеюць людзі
З далёкімі і з блізкімі людзьмі...

Ляцяць лісты па вуліцах Бабруйска,
Галосіць сівер у пустых завулках,
Я ўпершыню іду на біржу працы
І станаўлюся ў доўгую чаргу.

Яшчэ апошні ў горадзе рамізнік,
Па сумяшчэнню мабыць, кожны ранак
Пілсудскага і Чэмберлена лае
і прадае газету «Камуніст».

Дзяўчаты у юнгштурмаўках і ботах,
У паркалёвых хустачках чырвоных
Бягуць на сход, на маладзёжны дыспут,
І я за імі назіркам хаджу.

Ды нечакана сэрца засмылела
Па роднай хаце, па асеннім полі
З гусінымі чародамі ў тумане,
З трывожным крыкам позніх жураваў.

Падумалася з болем і надзеяй:
Адны ляцяць, другія астаюцца
І вышыню ніколі не пабачаць,
Не заляцяць за першы небасхіл.

А мне тады здаваўся вышынёю
Зашклёны дах у беладрэўным цэху,
Пракопчаны густым сталярным клеем,
Прапахлы пілавіннем і смалой.

Я не шукаў тут лёгкае работы...
З жалезнаю аднакалёснай тачкай
Мы абагнулі тры разы экватар,
Хоць і не выйшлі з цэхавых варот,

Мы цэлы лес за зіму перавезлі,
Набраклы шкіпінарам і жывіцай,
З чырвонымі празрыстымі сучкамі
І меткамі гарачае пілы.

Нам не ігралі урачыстых маршаў,
Не выдавалі граматаў і прэмій.
Ніхто пра іх ніколі і не думаў,
Ніхто сябе героем не лічыў.

А я хлапцам, бязвусым і бясслёзным,
Што мерзлі ў сцюжу першай пяцігодкі,
Дзяўчатам у пацёртых целагрэйках
Паставіў бы найлепшы манумент.

Цяпер адны спраўляюць юбілеі,
Другіх скасіла смерць пад Ленінградам,
Над Мінскам, пад Варшаваю, Берлінам,
А іншых — на дарогах Калымы.

Але жывуць у памяці заўсёды
Вясёлыя, гарачыя, худыя
Рамантыкі, паэты, алтымісты —
Далёкія равеснікі мае.

Я клічу вас, я запрашаю ў госці —
Прыходзьце да мяне хоць кожны вечар,
Хай будзе цесна, дымна, як калісьці, —
Нам з вамі ёсць пра што пагаварыць.

Вы, мабыць, не паверыце адразу,
Што мы кіруем электронным мозгам,
Што з Марса далятаюць пазыўныя,
А касманаўты — нашы землякі,

Што каля Мінска — атамны рэактар,
Што б'ецца сэрца у руках хірурга,
Што без пасадкі рэактыўны лайнер
Пералятае з лета у зіму.

Вы чуеце, як на далёкай Кубе
Чытаюць па складах: «Масква» і «Ленін»
Як на зямлі на ўсіх вядомых мовах
Даўно пяюць «Інтэрнацыянал»?

Вы чуеце?
            А мне паверыць цяжка,
Што вас няма сягоння побач з намі,
Што вы даўно замоўклі назаўсёды,
Што кожны толькі ў памяці жыве.

Здаецца мне, што бачу вашы спіны,
Прысыпаныя першым мяккім снегам,
Здаецца, вы бяжыце на работу
І не было вам часу пасівець...

Мы ведаем, што замянілі паўшых
На маршы, за канвеерам і ў полі.
А чым заменіш трапяткія сэрцы,
Што так любілі родную зямлю?

А чым заменіш неспакойны розум,
Што біўся да апошняе хвіліны,
Што ўрэзваўся ў глухую невядомасць,
Што мог бы неадкрытае адкрыць,

Што мог знайсці гаючую вакцыну
Ад страшнай неадольнае хваробы,
Што растапіў бы лёд у Запаляр'і,
Каб красавала і цвіла зямля?

А колькі фізікаў, паэтаў, астраномаў,
Няўрымслівых, лабастых, непакорных,
Сказаць галоўнай праўды не паспела.
І гэта ўсё — равеснікі мае.

Яны не прыйдуць болей на спатканне,
Яны нічога болей не адкрыюць,
І толькі маці доўгімі начамі
Ў трывожных снах усё калышуць іх.

Калышуць і спяваюць калыханкі,
То ў дальнюю дарогу выпраўляюць.
А дачакацца аніяк не могуць,
І ўсё глядзяць на захад і на ўсход.

І берагуць лісты і «пахаронкі»,
І кажуць: «Гэта ўсё, што асталося
Ад самых дарагіх і самых кроўных,
Што не прыйшлі з апошняе вайны».

Не!
Асталася нашая Радзіма,
Чырвоны сцягі ленінская праўда,
Што стала вечным компасам сумлення,
Што ў строй вярнула мёртвых і жывых.

Не!

Асталася дабрата людская,
Любоў і дружба, ласка і спагада.
І першыя сустрэчы, і каханне
Тых, што прыйшлі у свет пасля вайны.

Яны бягуць з ракеткамі на корты,
Гуляюць у футбол і пішуць вершы,
Даследуюць пратоны і нейтроны
І часта ў неба зорнае глядзяць.

А падрастуць, паходзяць з мазалямі,—
І поруч з намі стане пакаленне
Няўрымслівых, трывалых, неспакойных,
За ўсё адказных на зямлі людзей.

Я уяўляю змену пакаленняў
Жывою шматступенчатай ракетай:
Яшчэ адна ступень у поўнай сіле —
Наступная ўключаецца ступень

І працінае новыя вышыні,
Адвечныя знаходзіць таямніцы.
Што не паспела наша пакаленне,
Паспеюць дзеці нашыя зрабіць.

Яны, упартыя, цыбатыя, худыя,
Заўзятыя плыўцы і футбалісты —
Курчатавы, Гагарыны, Купалы
Спяшаюцца у дваццаць першы век.

Я ім зайздрошчу, і заўжды здаецца,
Што зноў іду з равеснікамі побач,
Вясёлымі і вечна маладымі,
І сам на дваццаць год памаладзеў.

*1963 г.*

## ПАЧАТАК ДАРОГІ

Я ў кажушку, што колісь маці
У спадчыну пакінуў дзед,
Апошні раз прайшоў па хаце
І выйшаў першы раз у свет.

Мне маці ў торбачку паклала
Ручнік, кашулю з палатна,
Скрылёк пазычанага сала
І жменьку цёплага пшана.

І павучала, як умела:
— Глядзі ж, сыночак, не зблудзі,
Калі спытаць прыйдзецца, смела
У вочы кожнаму глядзі.

І не лянуйся, не ад працы
Твой бацька жыў кароткі век.
Пачнеш вучыцца і старацца,
Глядзіш — і выйдзе чалавек.

Тут рукі матчыны худыя,
Што учарнелі ад зямлі,
Здаецца, ўпершыню за шыю
Мяне так моцна абнялі.

Так пачыналася дарога
У новы дзень, у новы свет,
Хоць я тады зусім нічога
Яшчэ не ўмеў рабіць як след.

Майго умельства і навукі
Адным пасведчаннем былі
З вясны парэпаныя рукі
І на далонях мазалі.

Былі маёй пуцёўкай мары
Пра тысячы работ і спраў.
І на паўстанку Камунары

Я ўпершыню заначаваў.

І не пытаючы парады,
Ісці далей ці можа не,
Прасіў хлапцоў, каб у брыгаду
Уключылі зранку і мяне.

Мы секлі лес, часалі шпалы,
Калолі тоўстыя камлі,
І к дваццаці гадам нямала
Ужо зрабілі на зямлі.

І грузчыкам, і лесарубам,
І грабаром быў кожны з нас.
Ад смагі трэскаліся губы,
І сівер твары сек не раз.

Так пачыналася дарога
У новы дзень, у новы свет.
Я не цураўся анічога,
Каб на зямлі пакінуць след,

Каб шпалы сто гадоў звінелі
І словы, што ў радкі ляглі,
Са мною разам не старэлі,
А каб мяне пражылі.

*1963 г.*

## ЗЯМЛЯНІН Я

Няхай не зарубцоўваецца памяць,
Няхай і кроваточыць, і баліць,
І смагай неўтаймованаю паліць,
Якой ніхто не можа наталіць.

Жыву нібыта тысячу стагоддзяў:
Пры мне, здаецца, маманты раўлі,
Раслі лясы на захадзе і ўсходзе
І не было ні жыта, ні раллі,

Паўзлі пачвар раз'ятраныя пашчы,
Звісаў з хвашча пражэрлівы павук,
І ўпершыню мой валасаты прашчур
Падняўся і сагнуў рагаты сук.

Не слухаліся скручаныя пальцы,
Не выпрастацца згорбленай спіне,
І ўсё ж перамаглі неандэртальцы
У бойцы за сябе і за мяне.

Я і цяпер яшчэ ад жаху стыну,
Хоць і не ўспомню, у каторы век,
Ад зайздрасці разгневаны,
дубіну
Падняў на чалавека чалавек.

Гартае памяць новыя стагоддзі,
Хоць я не бачны, але ўжо жыву,
І за мяне кладзе пры ўсім народзе
На плаху Сценька Разін галаву.

Гудзе казённых барабанаў пошчак.
Я помню год і ведаю, калі
Грымелі залпы на Сенацкай плошчы
І пяцярых на кару павялі.

Я ведаю заплаканыя вёскі
(Апроч жыцця, усё было ў цане).

Тады з пятлёй на шыі Каліноўскі
Апошні ліст пісаў і да мяне.

Наўкол палалі панскія палацы.
Сярод лясоў і здратаваных ніў
Ішоў і я з паўстанцамі ў паўстанцы,
А герцанаўскі «Колокол» званіў...

Я помню барыкады Краснай Прэсні,
У Смольным — воранёныя штыкі
І крокі Ільіча.
Па ўсходцах лесвіц
Яны вядуць у новыя вякі.

Як кроў у кроў, як пругкае дыханне,
Як вочы, бровы, як гарачы рот,
Удары сэрца, пачуццё кахання,
Так памяць пераходзіць з роду ў род.

Няхай свайго не ведаю пачатку,
Не ведаю апошняе мяжы,
Бо жыў у продку, бо жыву ў нашчадку
У чулым сэрцы, у жывой душы.

Я перадам святую праўду века,
Што ў промнях сонца, з дыму і крыві
Да новых зор узнесла чалавека
Для шчасця і вялікае любві.

Паклічу ў сведкі спаленых, распятых,
Але заўсёды юных і жывых,
Каб нашы ўнукі ў будні і у святы
Не забываліся пра іх.

Я раскажу пра пекла ў Хірасіме
Прапраўнуку прапраўнука майго,
І ні адзін разумны не падніме
Смяротны смерч адзін на аднаго.

Зямля жыве: у бераг б'юць прылівы,
У вырай адлятаюць жураўлі...

Зямлянін я. І я таму шчаслівы,
Што ўсім хапае месца на зямлі.

Мы не дадзім яе крывёй запляміць,
Жывое растаптаць і спапяліць!
Няхай не зарубцоўваецца памяць,
І не дае спакою, і баліць.

*1964 г.*

## ДУБОВЫ ЛІСТ

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Дарогі — у ячменнай пацярусе.
Дубовы ліст, у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Злілася з кожнай жылкай на далоні.

*1962 г.*

**БАБІНА ЛЕТА**

Ты часта казала, што песенька спета,—
Вясна мінавала, а бабіна лета
Цябе замятае сухімі лістамі,
Што болей ніхто не трывожыць лістамі,
Ніхто не чакае цябе на спатканне,
Ніхто на цябе, як калісьці, не гляне.

А колісь глядзелі, а колісь чакалі,
Спачатку ля школы, пасля на вакзале.
Ты ночы не спала, лічыла мінуты,
Калі ён прыедзе дамоў з інстытута.
Да рання сядзелі у скверы, ля клуба,
І доўга смылелі гарачыя губы.

Ты шчасцю свайму пазірала ў вочы,
Ты чула, як сэрца ля сэрца стукоча,
Любіла начамі пад ліўнямі мокнуць,
Хадзіць, аж пакуль салаўі не замоўкнуць,
Глядзець, як знікае каханы ў тумане,
І думаць: «А колькі гадзін да спаткання?»

Вы разам чыталі, смяяліся, пелі,
І ўсе гаварылі, што хутка вяселле.
Адна ты казала: «Ніколі не позна»
І бегла дахаты сцяжынкаю роснай.
Цяпер ты шкадуеш, што ў майскія ночы
Залішне сумленна заплюшчвала вочы,

Што сцерлася ў памяці нейкая рыса,
Што болей нікому не скажаш: «Вярніся»,
Другога не стрэнеш, другіх не шукаеш,
Калі аднаго назаўжды пакахаеш.
Табе нічыёй не патрэбна спагады,
Што бабіна лета, што час лістападу,

Што косы завеяла першая замець,
Што нумар застаўся на целе на памяць.
А памяць, яна не старэе ніколі:
Дарога ў Майданак, і голае голле,

І сівер насустрач, і тысячы босых,
Скаваныя рукі, абрэзаны косы.

А дым, нібы хмара, вісіць над парканам
«Як хутка мяне разлучылі з каханым,
Нявестай была, а зрабілі ўдавою...»
Ды свішча бізун над тваёй галавою.
Цябе бессаромна салдаты раздзелі —
Лічылі радзімыя плямкі на целе,

Глядзелі у вочы і з нейкаю мэтай
Запісвалі доўга імя і прыкметы.
Ты тройчы ўцякала ад смерці і згубы.
Свістала завея ў жалобныя трубы,
Як здані, стаялі сівыя фальваркі,
І рвалі дзявочае цела аўчаркі.

Цябе на світанні вялі ў крэматорый,
Апошняя хмарка плыла над табою...
Ды раптам аднекуль чырвоныя зоры
Уляцелі, як іскры гарачага бою.
Чырвоныя зоры, знаёмыя твары,
Знаёмыя вочы глядзелі з-пад каскі,
Засмяглыя губы шапталі: «Таварыш»,
І падалі слёзы ад братняе ласкі.

Чамусьці сягоння ты ўспомніла гэта —
У час лістападу, у бабіна лета.
Не ведаеш ты і паверыць не хочаш,
Што вернуцца зноў салаўіныя ночы,
Што познім каханнем зардзеюцца шчокі,
Калі ты пачуеш знаёмыя крокі.
Каханне ніколі само не знікае,
Каханы заўсёды цябе адшукае.
Ты чуеш, ты чуеш — асенняю ноччу
Ляцяць самалёты і поезд грукоча,
У дзверы твае асцярожна, нясмела
Пастукае любы, крыху пасівелы.
Ты скажаш, што песня яшчэ не прапета,
Што сёння вясна, а не бабіна лета.
*1958 г.*

## ВЕЧНЫ САЛДАТ

Тут цішыня.
Пад хвояю пахілай
Стаіць без каскі
Бронзавы салдат,
Як вартавы,
над брацкаю магілай.
Яго дажджы сякуць
І хвошча град.
Зімою снег лажыцца на нагоны,
А ён глядзіць на простыя імёны,
Нібы вядзе паверку,
Ці ў нарад
Гатоў паслаць таварышаў па роце,
Ці затрубіць пад'ём, як прыйдзе час.
Ён тут стаіць не па сваёй ахвоце.
Яго ніхто не зволіць у запас.
Яго сябры, як ён,
Навек салдаты,
На іх магілах
прозвішчы
і даты.

Апошнюю дату
паставіла куля...
А недзе пад Каневам плача матуля,
Суседскага сына убачыць здалёку,
І здасца, што гэта яе яснавокі,
Што вечарам прыйдзе, пастукае ў раму
І скажа паціху: «Прачніцеся, мама».
Цыгарку закурыць, адмовіцца есці
І будзе да рання ўздыхаць аб нявесце...

Хоць маці не верыць, а часам чакае,
Напэўна, ўжо матчына доля такая:
Сыноў гадаваць, выпраўляць у дарогу...
Пачуць, што нявестка ідзе за другога,
Насіць пачастункі маленькаму ўнучку,
Вадзіць, як ягонага бацьку за ручку

Калісьці вадзіла з сабою у поле
І зычыла самую лепшую долю,
І здымак паказваць на белай сцяне
Таго, што застаўся навек на вайне,
Таго, хто не прыйдзе у матчыну хату,
Чый вырасце сын, не пабачыўшы таты.

Растуць непрыкметна салдацкія дзеці.
Ім хопіць работы на нашай планеце,
Ім хопіць зямлі і блакітнага неба,
Крынічнай вады і духмянага хлеба.
Для шчасця растуць і мужнеюць яны,
Каб болей ніколі не ведаць вайны,
Каб болей не плакалі маці і ўдовы,
Каб іх не сівелі дачасна галовы,
Каб мір, што крывёю бацькі здабылі,
Ніхто не парушыў на нашай зямлі,
Каб слухалі дзеці, як песню, як казку,
Пра подзвіг салдата, што, скінуўшы каску,
Нязменна стаіць вартавым на пагосце
У грознай красе баявой маладосці.

*1957 г.*

## НОЧ НА ПЛОШЧЫ ПЕРАМОГІ

Сыходзяцца ваенныя дарогі
Ля вечнага агню, на плошчы Перамогі.

Сціхае горад, а жывыя сведкі
Вяртаюцца з далёкае разведкі.
Крыж-накрыж грудзі ў кулямётных лентах —
Заслонаўцы сыходзяць з пастамента,
У маскхалатах, белыя як здані,
Спяшаюцца на новае заданне.

А снег ляціць, і колкі вецер вые,
Стаяць да раніцы на плошчы вартавыя,
Схіліўся камандзір каля агня,
Ён чуе тупат вернага каня,
І высякаюць іскры капыты,
Гудуць пад імі плошчы і масты.
Захутаныя замеццю і сцюжай,
Ідуць услед за Вераю Харужай
Па Ленінскім праспекце к абеліску
Падпольшчыкі і Обаля і Мінска.
Ідуць танкісты энскага палка
І лётчыкі, што ў небе спапялелі,
Што дапісаць нявесце не паспелі
Апошняга галоўнага радка.

Гарыць агонь, і завіруха вые,
Ідуць па плошчы юнакі жывыя,
Разведчыкі, сапёры, партызаны,
Яны яшчэ не кончылі вайны,
Пакуль яшчэ баляць старыя раны,
Байцамі застаюцца і яны.
А на світанні па праспектах Мінска
Ідзе мой сын і партызан кубінскі,
Стаяць на плошчы і глядзяць штодня,
Як б'ецца сэрца вечнага агня.

*1961 г.*

## РАЗМОВА З МАЦІ

Я ўсё шукаю матчыну магілу
І не магу знайсці пасля вайны.
Дзе бэз буяў і крыж стаяў пахілы,
Сівыя адцвітаюць палыны.

На могільніку — бомбавыя ямы,
На соснах — абламаныя сукі,
Крышылі іх і «юнкерсы», і «рамы»
І ў чорных павуках штурмавікі.

Цяпер спакой і ціша на пагосце.
У добрую асеннюю пару
Прыходжу я сюды, нібыта ў госці,
І да змяркання з маці гавару.

Яна у памяці маёй жыве заўсёды,
Яна — ў крыві, у сэрцы і ў душы;
Здаецца, проса поле ў непагоду,
То месіць хлеб на досвітку ў дзяжы

То абувае лапці на узмежку,
То ціхенька ўздыхае па начах,
І радасці, і гора, і усмешку
Я пазнаю ў зажураных вачах.

Яна мяне люляла і лячыла,
Збірала зёлкі, травы і кару,
Яна мяне з маленства навучыла
Так гаварыць, як сёння гавару.

Такою ў памяці і асталася маці,
Калі ішла сцяжынкай за сяло,
Калі збірала збожжа да зярняці,
Каб кожнае сцяблінкай узышло.

Напэўна, ў жыце, што шуміць сягоння
І зіхаціць іскрынкамі расы,
Згінаюцца, калышуцца, гамоняць

З яе зярнят жывыя каласы.

Ты чуеш, маці, вось твае унукі;
З маленства ім цябе недастае;
Здаецца мне, што ў іх такія рукі
І валасы, і вочы, як твае.

Тваім унукам свет увесь адкрыты,
І сняцца ім сягоння нездарма
Далёкія блакітныя арбіты.
Жыццё ідзе.
Жыццю канца няма.

*1964 г.*

* * *

Баліць душа за кожнага калеку.
Сляпога праз ручай перавяду,
Бязногага сустрэну чалавека
І кланяцца гатовы на хаду.

Ідуць на мулкіх мыліцах салдаты
Апошняе сусветнае вайны,
А я пакутую, нібыта вінаваты,
Што за мяне пакутуюць яны.

З іх, мабыць, сніцца кожнаму начамі
Над полем сонца і на градах мак,
І дзеўчына з вільготнымі вачамі,
Што толькі з ім танцуе кракавяк.

Ім часта сніцца голас камандзіра
І зыркі бляск каля чужой ракі...
Таму хачу, каб дзве мае рукі
Заўсёды працавалі за чатыры.

*1962 г.*

## СЛЯДЫ

*Памяці Н.А. Войтка*

Месячныя ночы, як тады,
Калі мы, не верачы ў разлукі,
Па сцяжынцы беглі да вады
Удваіх, пабраўшыся за рукі.

Ты пытала: «Ну нашто, зачым
Гэтыя таемныя сустрэчы?»
Але зноў да берагу Пцічы
Мы з табой хадзілі кожны вечар.

Ты, нібы шукаючы гусей,
Берагам ішла ка мне з усмешкай,
І на дымнай чэрвеньекай расе
Засталіся толькі нашы сцежкі...

...Месячныя ночы на Пцічы
Пахнуць мёдам і мурожным сенам,
Але, даўняй сцежкай ідучы,
Я цябе ніколі не сустрэну.

Пахне свежым сенам на Пцічы,
Месяц за дуброваю знікае...
Я адзін блукаю уначы
І цябе да раніцы гукаю.

Дагараюць росы на траве,
Засцілае вочы горкім дымам.
Клічу я, хоць знаю, што табе
Не прыйсці ніколі з Асвенціма.

Пад вярбой ля самае вады
Двое незнаёмых абняліся,
Дзе тваe маленькія сляды
На пяску вільготным засталіся.

*1958 г.*

## РАВЕСНІЦА

Ужо не лета
і яшчэ не восень,
А павуцінне ў кропельках расы
Плыве, трымціць і туга заплялося
Табе у залатыя валасы.

Яшчэ цвіце і дзяцельнік і мята,
А плечы зводзіць першым халадком.
Ты помніш,
як калісьці у трыццатым
Хадзілі мы з табою у райком?

З далёкай камсамольскае ячэйкі
Паслалі нас даведацца сябры,
Калі і як і на якія рэйкі
Перавядуць сялянскія двары.

А нашы сходы, першыя лікбезы,
Пытанняў і адказаў вечары,
Калі на нас дзесяткамі абрэзаў
Кулацкія глядзелі хутары.

І на сяле хадзілі пагалоскі,
Што мы нібыта дзеці сатаны.
Тады яшчэ не вельмі дружна вёскі
Ішлі на свята першай баразны.

Мы самі уставалі да світання,
Аралі межы, кулакам на зло,
Збіралі сходы, толькі пра каханне
Пагаварыць нам часу не было...

Ты ганарышся сталымі сынамі,
Ты замуж аддаеш сваіх дачок,
Але і сёння побач з ардэнамі
Ляжыць маленькі кімаўскі значок.

*1958 г.*

## СЕЙБІТ

Плыве, як човен, вузкая труна
Над полем, над даспелымі жытамі —
Дзяды, кабеты і малыя дзеці
Хаваюць сейбіта, аратага, касца.

Хаваюць без аркестраў і вянкоў,
Без ганаровай варты і прамоўцаў.
Няма ні ардэноў, ні некралогаў,
І толькі ў полі гнуцца каласы.

Ён пяцьдзесят разоў пасеяў жыта
І пяцьдзесят разоў абмалаціў,
Ён пяцьдзесят гадоў карміў уволю
Людзей, якіх ні разу не сустрэў.

Ніхто яму не дзякаваў ніколі,
Не ўспамінаў за шумнаю бяседай
Імя таго, хто малаціў і сеяў
І аддаваў усё, што мог аддаць.

Хаваюць сейбіта. Маўчаць дзяды,
а дзеці
Нясуць у жменьках вялыя рамонкі,
І над палямі не заходзіць сонца,
Якое ён заўсёды сустракаў.

Стаяць прысады ў ганаровай варце,
А ластаўкі лятаюць нізка-нізка
Над пыльным шляхам, над высокім жытам,
І журацца пры студнях жураўлі.

Ён першы раз патурбаваў вяскоўцаў,
І ўпершыню яго ўзнялі высока
Мужчыны над жытнёвымі палямі...
А недзе песня жніўная звініць.

*1966 г.*

## ВЕРАСЕНЬ

І туманныя слівы і яблыкі — вось яны —
На саломе ляжаць у іскрынках расы,
Пахнуць мёдам і верасам сонечнай восені,
І рыпяць па дарогах цяжкія вазы.

Халадком задыміліся травы збуялыя.
З агародаў паўзуць праз платы гарбузы,
Шамаціць на іржэўніку лісце апалае,
І рыпяць па дарогах цяжкія вазы.

Аж здаецца, зямля пацяжэла за верасень,
Падабрэла, прыціхла ў асенняй красе.
Чалавек ёй з маленства да скону даверыўся,
Пра яе і турботы, і клопаты ўсе.

І яна адарыла пладамі багатымі
Працавітыя рукі шчаслівых людзей.
Чырванеюць рабіны над новымі хатамі,
Спелы верасень з мёдам і хлебам ідзе.

*1963 г.*

## МАЦІ ПРАВАФЛАНГОВАГА

Жанчыну ў старамодным плацці
Праз доўгі клубны калідор,
Пад руку ўзяўшы, нібы маці,
На сцэну вёў сівы маёр.

І без каманды, без загаду
Казах, літовец і грузін,—
Плячо к плячу, салдат к салдату,
Усе ўзняліся
як адзін.

Жанчына хустку развязала
І, глянуўшы на ўсе бакі,
На прывітанне адказала:
— Дзень добры, родныя сынкі!

Здалося ёй, што, зняўшы каскі,
Абтросшы горкі пыл вайны,
Па воінскаму абавязку
Сюды сабраліся яны.

І кожны ёй напомніў сына,
Таго, што пісем больш не шле,
Што ў сорак трэцім на хвіліну
Прылёг з гранатай на скале,

А ўстаў праз тры гады
з граніту
На скрыжаванні дзвюх дарог.
Шумела ядранае жыта,
А ён не чуў і чуць не мог.

І не сказала больш ні слова
Жанчына, ўспомніўшы сынка,
Што стаў навек правафланговым
Байцом гвардзейскага палка.

*1959 г.*

## КРЫЛАТЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

*Герою Савецкага Саюза*
*Надзеі Васільеўне Паповай*

Пасля санбатаў на гарачым целе
Яшчэ смылелі раны і рубцы.
І зноў на «кукурузніках» ляцелі
Дзяўчаты на Растоў і на Клінцы.

Для іх былі бранёй камбінезоны,
Іх прыкрывалі хмары з галавой.
А ўнізе дагаралі гарнізоны
І захлынаўся шквал перадавой.

Гарэзныя і грозныя дзяўчынкі,
Яшчэ не цалаваныя нікім,
Ляцелі ў пекла, і парой з аўчынку
Зямля і неба бачыліся ім.

Здавалася, іх абмінаюць кулі
У бітвах за Дняпро і за Дзясну,
Хоць кожнай з іх зеніткі, як зязюлі,
Прарочылі апошнюю вясну.

Яны ж ляцелі жураўліным клінам
Насустрач перамозе і агню.
І, зняўшы шлемафоны пад Берлінам,
Заплакалі ўпершыню,

*1963 г.*

## КАЛЯ КРЫНІЦЫ ХАРАСТВА

У ліпеньскай красе Друскінінкай
Стаіць над нёманскаю кручай.
Мне раілі: «Крыніцу адшукай
Жывой вады. празрыстай і гаючай».

І доўга я шукаў тае вады,
Што ад хваробы кожнаму паможа,
Што нават сівы стане маладым,
А малады — і дужым, і прыгожым.

І я хацеў крыху памаладзець,
Напіўшыся вады, як сырадою,
І думаў, што сцяжынка прывядзе
Мяне к таму людскому вадапою,

Дзе у чарзе чакаюць хараства,
І дужасці, і сілы чалавечай,
Дзе робіцца яснейшай галава
І маладзеюць згорбленыя плечы.

Шуміць лістамі старасвецкі парк,
Схіліўся лебедзь над вадой фантана.
Курортніцы двухмесячны загар
Паказваюць умела і старанна.

І толькі на узгорку, ля варот,
Дзе кветак і курортніц небагата,
Стаіць адна, ужо каторы год,
Маленькая дзяўчынка з аўтаматам.

Адкінуў пругкі вецер валасы,
На сонцы вылінялі бровы.
І я ніколі гэтакай красы
Не бачыў, светлай і суровай,

Не сустракаў такое чысціні,
І хараства, і шчырасці дзявочай,
Хоць і здаецца — тысячам зрадні

Яе прыжмураныя вочы.

Параіў мне літовец малады:
«Гаючую крыніцу не шукай ты...»
І хараство адчуў я сапраўды
Ля помніка Марытэ Мельнікайтэ.

*1958 г.*

## НАД СІВАШОМ

Мы з добрым другам — латышом
Часопісы гартаем.
Пілот сказаў:
— Над Сівашом
Мы зараз пралятаем.

Унізе сцелецца туман,
Як шэрыя папахі:
Здаецца, сотні партызан
Ідуць уброд па пахі,

Паўзуць, пакінуўшы акоп,
Смыляць рубцы на целе,
Каб за Сіваш і Перакоп
Спакойна мы ляцелі.

Унізе — горы і лясы
Затканы срэбнай пражай,
І толькі кропелькі расы
Дрыжаць на фюзеляжы.

І месяц да крыла прымёрз
Асколкам сіняй крыгі,
І самалёт яго давёз
Да старажытнай Рыгі.

*1963 г.*

## ГАНЧАР

Ганчарны круг без перадышкі
Гудзе, імчыцца з веку ў век,
І кожны дзень з яго гладышкі
Здымае добры чалавек.

То задуменны, то шчаслівы,
Ён грэе гліну ў руках
І сінім золатам палівы
Выводзіць зоры на гляках.

А потым у ганчарнай печы
Гаршкі, карчагі, гарлачы,
Расправіўшы крутыя плечы,
Гудуць, нібыта трубачы.

У зыркім полымі свіцяцца,
Як маладзіцы, гладышы,
Агонь стараецца дабрацца
Да іх вясёлае душы,

Каб над крынічнаю вадою
Звінела залатое дно,
Каб хмельнай сілай маладою
У іх іскрылася віно.

Каб у спякоту пад снапамі,
Падняўшы гладышы з зямлі,
Дзяўчаты прагнымі губамі
Густы бярозавік пілі,

А на світанні па суніцы
Пайшлі з гладышкамі ў гушчар.
Ім будзе мроіцца і сніцца
З усмешкай добраю ганчар.
Ён зноў бярэцца за работу,
Агонь у печы не патух,
І падаюць расінкі поту,
І зноў гудзе ганчарны круг.
*1964 г.*

## ПАТРЭБЕН ЧАЛАВЕКУ ЧАЛАВЕК

Заўжды хто-небудзь некага чакае,
Заўжды хто-небудзь некага шукае —
Патрэбен чалавеку чалавек,
Што прыйдзе у бядзе на дапамогу,
Што пракладзе надзейную дарогу
Над кручамі і над вірамі рэк,

Што стане часткай сэрца і сумлення,
Што прыйдзе, як высокае натхненне,
І цеплыню і ласку прынясе.
І я яму аддам усё дазвання:
Агонь душы, любоў, і хваляванне,
І радасці, і клопаты усе.

Хай свята дружбы лепшым будзе святам,
Хай векам дружбы наш завецца век,
Хай другу друг заўсёды будзе братам
І другам — чалавеку чалавек.

*1959 г.*

## ЯШЧЭ ЎСЕ ТРЫВОГІ НЕ ПРАЙШЛІ

Часамі нас хвалюе драбяза
І глупства нам трагедыяй здаецца:
То набяжыць гарачая сляза,
То ў сэрцы след надоўга застанецца,

Што не назвалі і тваё імя
У маленечкай газетнай справаздачы,
І самалюбства слізкая змяя
І дзень і ноч адразу перайначыць,

Што прэмію да свята не далі
І тры пустых білеты ў латарэі,
Што зноў дажджы падворак залілі,
А ў хаце слаба грэюць батарэі.

Вось так сваю разменьваеш душу
І тым жывеш, што крыўдзішся і лаеш
Бюро пагоды, дрэнную шашу
І толькі «фельетончыкі» чытаеш.

Прыслухайся, на ўсе бакі зірні:
Яшчэ
вайна
блукае па планеце,
Яшчэ паўстанцы курчацца ў агні
І ў Хірасіме паміраюць дзеці.

Яшчэ усе трывогі не прайшлі,
Яшчэ не ўсе развязаныя рукі,
Яшчэ жывуць на свеце каралі
І каты Гітлера, і кайзеравы ўнукі.

Разменьвацца на дробязі не час!
Заўсёды трэба памятаць пра гэта,
Каб не было трагедый больш у нас,
Каб не згарэла ў полымі планета.

*1966 г*

## СЕВАСТОПАЛЬ

Я тут дагэтуль не бываў ніколі,
Я не ступаў на гулкую панель
У горадзе, што стаў, як на прыколе
Вялікі акіянскі карабель.

Яго калыша шторм і лёгкі вецер
Ля самай чарнаморскае вады.
Але ніхто не чуў, што ёсць на свеце
Падобныя на гэты гарады.

Я узышоў на бераг, шапку зняўшы,
Нібы пераступіўшы праз вякі,
Равеснікам, сябрам і продкам нашым
На ўсе чатыры кланяўся бакі.

Світала на Малахавым кургане,
У бераг ледзьве стукаўся прыбой,
На крылах чаек зіхацела ранне,
А мне здалося, не сціхае бой.

Здавалася, што ў полымі і дыме
Яшчэ стаіць да гэтае пары
На ратным полі адмірал Нахімаў
І камсамолец на Сапун-гары,

Стаіць, шынель накінуўшы напашкі,
І прагна пазірае з-пад рукі,
Як навылёт прабітыя цяльняшкі
Прыкладамі прыкрылі маракі.

Здавалася, узяўшы з толам ношку,
Пад кулямі, па пнях, па лебядзе,
Даўно знаёмы чарнаморац Кошка
Маіх сяброў на подзвігі вядзе.

Здавалася, што ў ранішнім тумане
Не яхты і байдаркі праплылі,
А Шмідт вядзе пад сцягамі паўстання

З «Ачакавым» у мора караблі...

На курганах да самай Балаклавы,
Не згодныя ніколі паміраць,
Адлітыя не з бронзы, а са славы,
Героі Севастопаля стаяць.

Стаяць танкісты, лётчыкі, сапёры
І ў пехацінскіх ботах маракі,
Каб Ленін, углядаючыся ў мора,
Стаяў на гэтым беразе вякі.

Я думаў — пачынаецца світанне,
У горад славы трапіўшы да дня,
А гэта на Малахавым кургане
Гарыць паходня вечнага агня.

*1958 г.*

## ТРЫВОГА

Вайны няма, магчыма, і не будзе,
Калі зусім не звар'яцее свет,
Вайны няма, а паміраюць людзі
За сотні міль ад выбухаў ракет.

Імклівыю нячутнаю хадою,
Прыкінуўшыся снегам, ці дажджом,
Ці свежаю крынічнаю вадою,
Прыходзіць смерць неспадзявана ў дом

Яна паўзе у ранішнім тумане
То кропелькай, то чорным павуком,
То плешчацца у Ціхім акіяне
Спалоханым кстовым касяком.

Нябачаным праменьчыкам свідруе
Яна усё жывое навылёт,
Збівае з ног рыбачку маладую,
Спыняе сэрца радасны палёт.

Яна ляціць у снежнай крутаверці,—
Лупатая, сляпая, як сава.
І дзіўна, што дагэтуль востраў смерці
Яшчэ завецца «Востраў Раждҗаства».

*1962 г.*

## ВЕРА

*Ул. Мяжэвічу*

Ты помніш калючыя сінія зімы?
Ты помніш глухія сігналы адбою?
Ты помніш разлукі?
І толькі Радзіма
Была неразлучна, са мной і з табою.

Здавалася, ўсё засталося ў мінулым,
І мы анікога на свеце не мелі,
Мы клікалі... Ноч азывалася гулам,
І белыя сосны ў трывозе нямелі.

Мы трацілі ўсё да апошняе ніткі,
І толькі ніколі не трацілі веры,
Мы чулі здалёку, як білі зеніткі
І білася сцюжа ў настылыя дзверы.

Нам сніліся часта гудкі паравозаў,
Дарога на фронт і свінцовыя буры,
Мы марылі разам прайсці, як Матросаў,
Апошнія крокі к чужой амбразуры.

Ніхто не паслухаў, ніхто не паверыў,
І дзеці забыліся нашы імёны...
Ад рання да ночы грымелі сякеры
І падалі наўзніч бярозы са звонам.

Нас бачылі толькі глухія дарогі,
Сляды замяталі суровыя зімы.
Мы ў дні адступлення і ў Дзень Перамогі
Былі неразлучны з табою, Радзіма.

Бо верылі ў праўду тваю неадступна,
Таму і жылі і любілі без меры
Трывогі, салюты, і дзень твой наступны,
І сілу тваёй непадкупнае веры.

*1961 г.*

## СОН

*Міколу Аўрамчыку*

Ты рурскі пыл яшчэ не выдыхаў,
І, мабыць, сняцца па начах
Жывыя мошчы Янаў, Фрыдрыхаў
З адчаем у сухіх вачах.

І ваганеткі ў чорным змроку
Па штрэку, быццам па трубе,
Як прывіды з чырвоным вокам,
Паўзуць начамі на цябе.

Імчыцца клець, а канагонаў
Сякуць сырычныя бічы.
Ты дрот пілуеш, а з палону
Ніяк не можаш уцячы.

І толькі, як у жменьцы вугалю,
У душы агеньчык не пагас,
І мроіцца табе, што цуглі
Грызе не Тойфель, а Пегас.

Вільготных стоек дух смаловы
Дайшоў ад роднае зямлі,
І рыфма ў рыфму, слова ў слова,
Як куля ў кулю, увайшлі

І заіскрыліся радкамі,
Як трапяткі бікфордаў шнур.
Загаласіў, завыў гудкамі
Яшчэ дзядамі кляты Рур...

А ранкам белыя аблокі
І журавоў нясе вясна...
Пякельны Рур даўно далёка,
І толькі ў скронях сівізна.

*1964 г.*

* * *

Жыццё часамі мачахай было:
Сляпіла вочы, шчокі секла,
То праз чысцілішча вяло,
То зноў кідала нас у пекла.

А я не здаўся, не зачах,
Не набрыняў атрутай злосці,
Таму і сёння у вачах
Гарацць іскрынкі маладосці,

Таму так прагна я люблю
Жыццё, людзей.
І веру свята:
Што не паспеў зрабіць — зраблю
І пражыву другую рату.

*1962 г.*

* * *

Кароткі век у чалавека,
А ўсё ж такі завецца век.
Адзін задоўга да паўвека
Ужо сядзіць сярод калек,

Штодня штурмуе медыцыну,
Да слёз даводзіць дактароў
І без усякае прычыны
Псуе сабе і людзям кроў.

Другі збірае горы хлеба,
Шляхі пракладвае ў Сусвет
І падае, як зорка з неба,
Каб сто гадоў свяціўся след.

*1964 г.*

* * *

Мы ўсё пазналі і прайшлі —
Пакуты, радасці, трывогу,
І жменьку роднае зямлі
Заўсёды бралі у дарогу.

Тае зямлі, што поіць нас,
Што пахне росамі і хлебам,
Тае зямлі, што не аддасць
Нікога ў крыўду без патрэбы.

Зямлі, што не даруе здрад,
Што ад няпраўды халадзее,
Што і ў пару вялікіх страт
Не траціць лепшыя надзеі.

Надзея ратавала нас,
І мы яшчэ мацней любілі
Сваю зямлю ў той грозны час,
Калі трывогу пратрубілі.

І на дарогах Калымы
Мы свята помнілі прысягу,
І верылі заўсёды мы
Жывому ленінскаму сцягу.

*1961 г.*

## ДУША

Мяне выхоўвалі,
Мяне захоўвалі,
Я то з'яўляўся,
То знікаў,
Мяне вадзілі
І ахоўвалі,
Хоць я нікуды
Не ўцякаў.

І замыкалі,
І пад пломбамі,
Нібы каштоўнасць,
Берaглі,
І неба клеткамі
І ромбамі
Разлінавалі
Як маглі.

Мяне ўзважвалі
І мералі,
Здымалі ў профіль
І анфас,
Але ні разу
Не праверылі
Душы наяўнасць
І запас.

Шкада,
Што не здымаюць
З яе юрысты
І ўрачы,
І ні адна дактыласкопія
Не можа
Тут дапамагчы.

Мая душа
Супрацiўлялася,
Бо верыла і тым жыла,

Бо не чарсцвела,
Не ламалася —
Была такою, як была.

Хоць дзіўна,
У чым яна трымалася,
А паспрабуй
Яе сагні!
Яна ж з маленства
Гартавалася
На чыстым,
Праведным агні.

*1964 г.*

## ЦІШЫНЯ

Я слухаю начную цішыню:
Чуваць, як б'ецца сэрца птушаняці
І матылёк да зыркага агню
Ляціць і кружыцца, як на вялікім свяце.

Звініць, звініць начная цішыня,
З ліста на ліст скацілася расінка,
Чуваць — каля апаленага пня
Са скрыпам прабіваецца асінка.

Чуваць, як зоры сінія дрыжаць —
На небе і зямлі такая ціша!
Не хочацца ні думаць, ні зважаць,
Што ў гэты час сейсмограф недзе піша

Крывыя кожнага падземнага штуршка,
Што днём і ноччу кружацца радары,
Што можа застаецца паўвяршка
Да страшнага наступнага удара.

А ўсё чакае сонечнага дня,
Дрыжыць раса, і роўна сэрца б'ецца.
Няхай у ясным небе цішыня
Заўсёды цішынёю застаецца.

*1962 г.*

## ЖАДАННЕ

Ці пахаваў ты блізкага калі,
Ці ўмееш кулаком заціснуць спазмы плачу,
Калі расце грудок сырой зямлі
Над тым,
каго ніколі больш не ўбачыш?

Я пахаваў бацькоў і мацярок.
На іх магілах расцвітае рута.
Крывёю быў адзначан кожны крок
Ад Брэста да апошняга салюта.

Я пахаваў сто тысяч сваякоў —
Братоў, сясцёр, дзяцей і пабрацімаў
На скрыжаваннях сальскіх бальшакоў,
Над Нёманам і у цяснінах Крыма.

Калі цяпер дзяўчаты запяюць
І загудзе паводка на прадвесні,
Перад вачыма твары паўстаюць
Тых,
што сваёй не даспявалі песні.

Мы помнім іх жывыя галасы,
Усмешкі і задумлівыя вочы,
Хоць і не ўсіх знаходзім адрасы
Каля дарог і лугавых абочын.

Іх дзеці і унукі падраслі,
У іх такія ж вочы і усмешкі,
Яны ступаюць смела па зямлі,
Свае пратоптваючы сцежкі,

І ціха шэпчуць першае «люблю»
Дужэюць, распраўляюць крылле,
І любяць тое неба, і зямлю,
І тыя песні, што бацькі любілі.

*1960 г.*

## БЯССМЕРЦЕ

Ці забываецца навек,
Калі сканае чалавек?
Па-мойму, не,
Па-мойму, ў свет
Вядзе заўжды ягоны след.
Яго няма, а ён жыве
У даўняй песні і ў траве,
У цвеце веснавых садоў
І сто і тысячу гадоў.
Няхай яго няма між нас,
Няхай імя закрэсліў час,
А ён жыве ў маёй крыві
І мне загадвае: «Жыві
І за сябе і за мяне,
Каб соль трашчала на спіне,
Каб рукі стомаю гулі,
Каб песні кожны дзень былі».

Я п'ю бярозавік густы
З таго надрэзу, што і ты
Калісьці піў у даўні век,
Мой прашчур, добры чалавек.
І нада мной шумяць лісты
Прысадаў, што дагледзеў ты,
Галінку кожную і сук
Сагрэў цяплом шурпатых рук.
Гудуць пад коламі масты,
Дзе перакінуў кладку ты,
Красуюць жыта і авёс,
Што ты за пазухай прынёс
На ляды ў даўнюю вясну —

На колішнюю цаліну.
Ты ставіў хаты, дровы сек,
Мой дзед, рабочы чалавек,
Не шкадаваў ні рук, ні жыл —
Ты ўсё умеў, ты прагна жыў,
Твае сагрэлі мазалі

Пясчынку кожную зямлі.

Ідуць гады, шумяць гады,
Твае ж не сцерліся сляды.
Ты прагна жыў, жывеш, жыві
Крывінкай у маёй крыві.

А нашы ўнукі ўспомняць нас
На віражах касмічных трас.
Так у бяссмерце, з веку ў век,
Ідзе рабочы чалавек.

*1962 г.*

## ІСЦІНА

Я ўсё калісьці мудрасцю лічыў,
Хацеў дайсці да самае асновы,
Хацеў знайсці да ісціны ключы,
А паланілі формулы і словы.

І самы мудры пасміхаўся ў вус,
Вучыў, і павучаў, і быў прарокам,
Настаўнікам філосафаў і муз,
Адзіным і не адзінокім.

Ён часам сонца засланіць умеў,
Сабе грамы прысвоіць і праменні.
Мінула ўсё, і кожны зразумеў:
Было ўсяго няпоўнае зацьменне.

Для кожнага цяпер не навіна,
Што ёсць на свеце ісціна адна —
Ленін.

*1964 г.*

## АБРУЧ

Я гнаў абруч,
А думаў: еду, еду
На край зямлі,
За сіні небасхіл,
Дзе не відно
Ні каляін, ні следу,
Дзе асядаў
Паружавелы пыл.

Я гнаў абруч
І бег за доўгім ценем
Праз палыны,
Каля размытых круч —
І пакаціўся
Услед за летуценнем
Па небе звонкі
Сонечны абруч

За перыстыя
Белыя аблокі,
У празрыстую
Нямую цішыню.
А я стаяў
І пазіраў здалёку,
І ведаў, што яго
Не даганю,

Што мне хадзіць
Заўсёды пехатою,
Што век не адарвацца
Ад зямлі,
Што не падняцца
Сцежкаю крутою
Туды, дзе праплываюць
Жураўлі.

Усходзілі, заходзілі
Свяцілы,

Буялі травы,
Замеці мялі,
А мне тугія
Мроіліся крылы,
Што нас цяпер
Над светам паднялі.

Пульсуюць рэактыўныя
Маторы,
Плыве над намі
Жураўліны ключ,
І коціцца
У залатое мора
Па небе звонкі
Сонечны абруч.

*1964 г.*

## ПАЧАТАК

За Глускам, у глухіх барах,
Яшчэ мае блукае рэха,
І дзень суніцамі прапах,
І зоры плаваюць у рэках,

І золкі золак на Пцічы
Мяне туды заўсёды кліча,
Дзе расцвітаюць касачы,
Дзе мне гады зязюля лічыць,

Дзе каля цёмнае вады,
На вузенькім пясчаным мысе,
Здаецца, і мае сляды
Яшчэ дагэтуль засталіся.

Хоць я ніколі не знайду
Сваіх слядоў і хісткай кладкі,
А ўсё ж лячу к свайму гнязду,
К свайму адзінаму пачатку,

*1964 г.*

## НАЧЛЕГ

Ці многа патрэбна старому каню?
Наскубся і спутаны стаў ля агню.
Касцёр дагарае, і прысак ачах,
Агеньчык мільгае у цьмяных вачах,
На доўгую грыву раса асядае,
І нават чуваць, як трава маладая
З зямлі прабіваецца, цёплай і волкай,
І пахне сасоннік празрыстаю смолкай.
Курыцца туман над палянай лясною,
І дрэмлецца добра у лесе вясною.
На цёплым кажусе, на першым начлезе
Мне сніцца — лясун на алешыну лезе,
Трымае ў руках сукаватую палку
І з возера кліча дадому русалку.
У лёгкім тумане, пад месяцам сінім,
Яна адгукаецца крыкам гусіным,
На бераг выходзіць, расчэсвае косы,
А з іх, нібы ягады, падаюць росы.
Скаціліся росы, як дзве журавіны,
На белыя грудзі знаёмай дзяўчыны,
І голас знаёмы я чую спрасоння,
Што піць паскакалі да возера коні.
Я вочы расплюшчыў — ля дзікай ігрушы
Бялявыя косы начлежніца сушыць.
— Каму ты у сне усміхаўся сягоння? —
Пытае яна і глядзіць з-пад далоні.

*1963 г.*

## ПЕРШАЕ КАХАННЕ

Я першую каханую сваю
Не зваў на «ты», не цалаваў, не песціў,
Я рады быў, што побач пастаю,
І сам не свой ішоў на тое ж месца,

Дзе толькі што смяялася яна,
Дзе толькі што яе ляжалі рукі.
І першага кахання навіна
Была пачаткам радасці і мукі.

Я сніў яе, а потым, як у сне,
Убачыў: каля нашага паркана
Яна ішла, мінаючы мяне,
Не бачачы, што побач закаханы.

Яна прайшла, як сонечны прамень,
Над часам, над разлукай, над вайною.
У самы цяжкі і суровы дзень
Яна была, здавалася, са мною.

Я думаў: ёй заўжды семнаццаць год,
Яна у сне ўяўлялася такою,
Што ад вачэй любы растане лёд
І сэрца больш не будзе мець спакою.

І вось сустрэў каханую сваю:
Знаёмы твар, але патухлі вочы;
Не, гэта не яна, яе не пазнаю,
Як вершы, што пісаў мінулай ноччу.

*1958 г.*

## ВЯСНА

Цябе палохае і кліча
Зялёны красавіцкі дым,
І незнаёмае аблічча,
І бэз над берагам крутым.

Цябе трывожыць і гукае
Іскрысты шумны крыгаход
І той хлапчук, што сустракае
Цябе штодня каля варот,

Бярэзнік у ліловым чадзе,
І рэчка ў ранішняй смузе,
І салаўі, што ў цёмным садзе
Пяюць аб шчасці і тузе.

Усё цябе кудысьці цягне,
Заснуць да рання не дае:
То ты ідзеш па топкай багне
І сцежкі свецяцца твае,

То пралятаеш над ракою,
То зноў пытаешся сама,
Чаму ранейшага спакою
Ні днём, ні вечарам няма.

Здаецца, побач навальніцы
Грымяць і б'юць за сіні лес,
А гэта ж бліскаюць зарніцы
І ціха лопаецца бэз.

Мінаюць першыя трывогі —
І вось ты бачыш з-пад рукі,
Як разбягаюцца дарогі
Ва ўсе кірункі і бакі.
І ты становішся упарцей,
Нібы збіраешся ў палёт,
Нібы адна стаіш на старце,
А за спіной — семнаццаць год.
*1964 г.*

## СУНІЧНЫ СОК

Праходзяць цёплыя дажджы,
Сляпыя, ціхія, грыбныя.
Ты рукі ў росах палашчы,
Пакуль аж сэрца не заные,

Суніцы спелыя збірай,
Пакінь на вуснах сок барвовы
І напрасткі, нібыта ў рай,
Ідзі у цёмныя дубровы,

Дзе пад дажджом і перуном
Іскрыцца і мігціць улонне.
Прапахнуць горкім багуном
Твае і шчокі, і далоні.

І я знайду твае сляды
На багунах і мокрых травах.
Калі ж ты вернешся сюды
Уся ў вясёлкавых аправах,

У кроплях сонца і дажджу,
У сініх пырсках навальніцы,
Цябе я болей не пушчу
Адну па спелыя суніцы,

А за табою крок у крок
Пайду збіраць сунічны прысак
І пакаштую спелы сок,
Што на тваіх губах не высах.

*1958 г.*

## ХМЕЛЬ

Гудзе у вербах жоўты чмель,
І млее ўсё ў ліпнёвым звоне.
Цвіце званец,
і горкі хмель
К зялёнай цягнецца кароне,

Паўзе па беламу ствалу
І кожны раз мяняе позу,
Нібыта ўзяў у кабалу
Ён адзінокую бярозу.

А мы з табою ў гэты дзень
Прытулку іншага не мелі —
Прыбеглі пад шырокі цень
І тут ад шчасця анямелі.

На роснай маладой траве
Пад тонкім і празрыстым хмелем
Здавалася, што ў галаве
Званочкі сінія звінелі.

Гады сплылі у забыццё,
І рэкі нават абмялелі,
А мы з табой на ўсё жыццё
У гэты поўдзень ахмялелі.

*1963 г.*

* * *

Як я жыў без цябе?
І не ведаў, што недзе на свеце,
За глухімі лясамі,
За сотнямі ўзгоркаў і меж,
Не на дальнім сузор'і,
А ў нас на планеце
Ты ў зялёным і ціхім
Завулку жывеш.

Як я жыў без цябе?
А маглі ж не сустрэцца ніколі,
За паўкроку адно
Аднаго абмінуць,
Разысціся, як сцежкі
Расходзяцца ў полі,
І не знаў бы,
За страту каго папракнуць.

Мабыць, трэба было
Праваліцца у пекла,
Траціць блізкіх, пакутаваць,
Мерзнуць, гарэць,
Ратавацца,
Каб лютая бура не ссекла,
Каб цябе
Пад Палярнаю зоркай
Сустрэць,
І пазнаць,
І адразу забыцца аб крыўдзе,
Каб убачыць праменьчыкі
У зрэнках тваіх,
Нарадзіцца ізноў
І паверыць, што прыйдзе
І збавенне, і шчасце
Адно на дваіх;
Падабрэць, памякчэць,
Назаўсёды скарыцца
Непадкупнай

Суровай тваёй чысціні,
Каб істоты тваёй адкрываць
Таямніцы,
Каб душу гартаваць на высокім агні.

Час ляціць і ляціць,
Завіруха завеяла скроні,
Пакідаюць насечкі
Гады на ілбе.
Я гляджу на цябе,
Я дзіўлюся і сёння,
Чым я жыў без цябе,
Як я жыў без цябе?..

*1964 г.*

* * *

Нас разлучалі вёрсты і гады,
І стылыя аснежаныя далі.
Мае дарогі, сцежкі і сляды
Зыбучыя снягі пазамяталі.

За пластам пласт лажыліся пласты,
Завеі скавыталі, як шакалы.
З усіх дарог вярталіся лісты,
А ты ішла, ты зноў і зноў шукала.

Ішла на поўдзень, захад і на ўсход,
Мяняючы кірункі і вакзалы.
Ляцелі дні, мінаў за годам год,
І сэрца шлях на поўнач наказала.

Неспадзявана, як у снежні гром,
Як у глухую поўнач промень сонца,
Нібы жар-птушка з вогненным пяром,
Ты да мяне ляцела на трохтонцы.

Шчаслівыя, да самага відна
Сядзелі мы, пабраўшыся за рукі,
І верылі, што толькі смерць адна
На свеце мае права на разлукі.

*1964 г.*

## ПАВОДКА

Учора ноччу хрусткі іней
Яшчэ лажыўся на лугі,
А сёння у празрыстай сіні
Крутыя тонуць берагі.

І толькі макаўкі парэчак
Тырчаць з імклівае вады.
Разводдзе самых ціхіх рэчак
Зрывае з берага плыты,

Шпурляе тоўстыя бярвенні
На ледарэзы і быкі,
Галіны, трэскі і карэнні
Нясе у розныя бакі.

І сцежар леташні на мелі
Тырчыць, як мачта карабля.
Набракла гаркаватым хмелем
За дзень адталая зямля.

Мы зноў, як у юнацтве, марым,
І я паказваю табе
Дажджынку першую на твары
І першы коцік на вярбе.

Нас і узрост не перайначыў,
За рукі ўзяўшыся, праз сад,
Па лужах, каб ніхто не бачыў,
Бяжым, як дваццаць год назад.

*1958 г.*

## РАННЯЯ ВЯСНА

Няпэўнае вясны пачатак:
Лядыш да шыбіны прыліп,
Дубеюць пальцы без пальчатак
У клёнаў, ясеняў і ліп,

І парудзелы снег не хоча
Спаўзаць у рыны без пары,
І толькі вочы, толькі вочы
Нясуць праменьчыкі зары.

У іх — і сонца, і сінеча,
І кроплі чыстыя са стрэх,
І радасць першае сустрэчы,
А на губах і ў сэрцах смех.

Вадою захлынуцца трубы,
І ўсе пачуюць навіну,
Што вочы добрыя і губы
Прынеслі раннюю вясну.

*1966 г.*

* * *

*в. м.*

Я цябе прыгадаў
Басаногаю, шустраю, тонкай.
Пад нагамі рассыпала
Раніца зерні расы,
І тады, у далёкія тыя часы,
Я цябе уяўляў
Залатою сасонкай,
І здавалася, будзеш такою заўжды —
Маладою, іскрыстаю, крышачку колкай.
Ды хіба ж загадаеш,
Каб вечна квітнелі сады
І у небе ніколі не гаслі вясёлкі?
Ды хіба ж загадаеш каму,
Каб гады
Над табою і мною улады не мелі,
Каб спынілася плынь веснавое вады,
Каб да старасці скроні у нас не сівелі?
Пасівелі, а сэрца не хоча старэць —
Мабыць, вызнана мала і зроблена мала.
Мы гарэлі ў агні, але нам не згарэць,
Навальніца прайшла, але нас не зламала.
Ты заўсёды была клапатліваю жонкай,
Ты суровай была міласэрнай сястрой.
Я цябе і цяпер уяўляю сасонкай,
Што яшчэ палымнее вячэрняй зарой.

*1956 г.*

* * *

Будзь музаю маёй,
Маім натхненнем,
І ласкаю,
І казкаю жывой,
Маёй надзеяй і маім сумленнем,
І толькі будзь заўжды
Сама сабой,
Няўмольнаю,
Спагадлівай, вясёлай,
Маўклівaю і надта гаваркой,
У дождж іскрыся
Чыстаю вясёлкай,
У спёку стань
Крынічнаю ракой,
Прымі мяне
У залатое лона,
Ад смагі дай
Гаючую ваду,
І я з твайго
Чароўнага палону
Ніколі сам
Нікуды не пайду.
Твайго святла
Ужо ніщто не засціць;
Ты для мяне,
Як зорка на зямлі;
Таму з табой
У горы і ў няшчасці
Заўсёды мы
Шчаслівымі былі.
Ты не даеш
Сабе і мне спакою
(Жывым супроцьпаказаны
Спакой).
Свяці вясёлкай,
Будзь жывой ракою,
Надзеяю і музаю
Маёй.
*1964 г.*

**ПРЫЗНАННЕ**

Ты ходзіш мяне у дарогу праводзіць,
На месяц, на тыдзень, на некалькі дзён.
Стаіш і глядзіш, як цягнік адыходзіць
І ў змроку знікае апошні вагон.

А потым па плошчах і вуліцах гулкіх
Ідзеш, не сустрэўшы нікога нідзе,
І толькі чуваць, як у вузкіх завулках,
Нібыта у трубах, завея гудзе,

Грыміць у дарожныя знакі да рання
І голыя ліпы хістае і гне.
Ты, пэўна, сумуеш пасля развітання
І з гэтай хвіліны чакаеш мяне.

Пытаеш, чаму мне з табой не сядзіцца,
Чаму, завітаўшы на некалькі дзён,
Я зноў ад'язджаю з утульнай сталіцы
У нейкі глухі і далёкі раён.

Чаму я хаджу пехатой у завею,
Чаму не такі, як мужы у людзей.
Ты думаеш,— я ад вандровак сівею,
А я адчуваю, што стаў маладзей.

Я чую, як пахне смаловае вецце,
Як стукае дзяцел па звонкай сасне,
Я чую начамі, як студзеньскі вецер
То вые, то снегам шуміць па сцяне.

Я невад на бераг цягну з рыбакамі,
Я з імі начую на Куршскай касе,—
Мне хочацца толькі сваімі рукамі
Адчуць асалоду і цяжкасці ўсе,

У ядраным жыце сустрэць агранома,
Блукаць да світання па мокрай траве,
Стаяць пад дажджом на дняпроўскім пароме,
Пачуць, як дзяўчаты пяюць на жніве,

І думаць з усімі аб сонцы і хлебе,
І самую лепшую песню зложыць.
Калі ты камусьці хоць крышку патрэбен,
Дык хочацца доўга і радасна жыць.

Я новых вандровак маршрут і кірунак
На карце, прыехаўшы, зноў правяду,
Вясёлку табе прывязу ў падарунак
І ў светлыя косы твае запляту.

*1958 г.*

* * *

І мы сварыліся.
За нешта папракалі
Адно другога дзень, і два, і тры.
Здавалася, што ў гэтакім напале
Маланкі свішчуць і гудуць вятры.

Здавалася, нябачнаю мяжою
Падзелены даўно і ты, і я,
І колкаю, суроваю, чужою
Зрабілася каханая мая.
За што сварыліся? Чаго не падзялілі —
Мы ўспомніць не маглі і ў першы дзень.
Ад радасцей і колішніх ідылій
У памяці астаўся толькі цень.

Нікому не хацелася скарыцца
І першаму пераступіць мяжу,
А тут бы нам усмешкай заіскрыцца,
Пайсці насустрач першаму дажджу,

Адно другому паглядзець у вочы
І адгукнуцца сонечнай вясне,
Паслухаць разам, як вада булькоча
І кропелькі сцякаюць па вясле,

Як лопаюцца клейкія пупышкі,
Як гнёзды ўюць вясёлыя дразды,
І на пяску ля парашутнай вышкі
Знайсці юнацтва нашага сляды.
Хутчэй хадзем! А крыўды і папрокі
Няхай узважыць і закрэсліць час.
Глядзі — плывуць блакітныя аблокі,
Прыслухайся — разводдзе кліча нас,

І белы свет іскрыцца і шчабеча,
Прарэзваюцца першыя лісты.
Мы зноў ідзём, абняўшыся за плечы,
Шчаслівыя ад мудрай дабраты.
*1963 г.*

* * *

Я шчыра люблю
Неспакойных і смелых,
І тых,
Што сабе не даруюць віну,
Люблю маладых
І люблю пасівелых,
Вясёлых люблю,
А кахаю адну.

Каханне не мае
Ні межаў, ні стажу,
Каханне прыносіць
Заўжды навіну.
І, мабыць, ніколі
Ніхто не адкажа,
За што ён кахае
На свеце адну.

*1964 г.*

* * *

Што я ў цябе даўно ў даўгу,
Заўсёды ведаю і помню,
А дазваніцца не магу
К табе па сонечнаму промню.

Ён, як струна, між нас вісіць,
Іскрысты, тоненькі і дрогкі.
Штодня званю, каб папрасіць
Адтэрміноўкі і палёгкі,

Прызнацца у сваёй віне,
Паабяцаць, а ты затое
Караеш кожны дзень мяне
Сваёю шчодрай дабратою.

*1965 г.*

* * *

Мяняешся, нібы рака, ты:
То пацямнееш ад тугі,
То на крутыя перакаты
Ўзлятаеш ветразем тугім,

Іскрышся сонечнай паводкай
І лашчышся, нібы прыбой,
Гарыш маланкаю кароткай
І ўслед гукаеш за сабой.

Тут і канчаюцца разлукі.
Сінее дзень, і побач ты
Працягваеш насустрач рукі,
Як два надзейныя масты,

Каб зноў трывожыць і смяяцца,
Знікаць, іскрыцца і любіць,—
Нібы рака, заўжды мяняцца
І, як рака, нязменнай быць.

*1965 г.*

* * *

Ты, мабыць, добра ведаеш сама,
Што ні ў дарозе, ні ў сваім пакоі
Мне без цябе ні радасці няма,
Ні шчасця, ні ратунку, ні спакою.

А прыйдзе ж дзень, і нехта з нас дваіх
Адзін у адзіноце застанецца.
Напэўна ты.
                        І ўжо да рук маіх
Ніколі больш ніхто не дакранецца,

Ім больш не дацягнуцца да пяра,
Не сціснуць руку другу пры сустрэчы,
І гора, як няўмольная гара,
Твае прыцісне вузенькія плечы.

Ніхто цябе не выйдзе сустракаць
Ні ў летні дождж, ні ў лютаўскую замець,
І толькі часам будзе дакараць
Надоўга патрывожаная памяць,

Што не паспела нешта расказаць,
Што нечага спытаць не мела часу,
Што ўжо канца з начаткам не звязаць
І не прыпомніць нечага адразу.

Але пакуль жывецца — будзем жыць,
Задумваць не на дні, а на стагоддзі,
Каханнем і сяброўствам даражыць
Пры сонечнай і ветранай пагодзе,

І ўсё, што трэба выказаць,— сказаць,
Нічога не забыцца, не адкласці,
Сустрэчнаму дарогу паказаць,
А час надыдзе — на хаду упасці.

*1962 г.*

* * *

Усё ў тваёй душы — і радасць, і туга,
І смех, і боль, і ласкі, і дакоры,
То іскаркі ў вачах, то мітульга
Трывожных дум або салодкай зморы.

А прыцемкам асеннім кожны раз
Ты рукі ціха мне кладзеш на плечы,
І мроіцца, што нават позні час
Не сцёр пачуццяў першае сустрэчы,

Ды толькі сэрца нельга ашукаць,
Хоць ты маўчыш, стрымаўшы хваляванне.
Хоць і пяеш, а хочаш адшукаць
Адказ на ўсе трывогі і пытанні

І расказаць аб клопатах сваіх,
Аб мітусні і дробязных турботах.
Ты хоць сягоння прамяняла б іх
На лес дзяўчынкі у кірзовых ботах,

Каб толькі зноў спачатку ўсё пачаць,
Жыць на вадзе, на хлебе і павідле,
Каб вечары на вуліцы страчаць,
Каб золкія світанні не абрыдлі.

Калі б ты зноў спачатку ўсё прайшла,
Каго б ты выбрала, каго б ты абмінула?
Каго б сагрэла промнямі святла,
Каму б руку ласкава працягнула?

Чаго ж маўчыш? Я ведаю, што ты
Не рада ні спакою, ні дастатку,
А каб вярнуць мінулыя гады,
Ты пачала б ізноў усё спачатку.
Ізноў прайшла б са мною след у след
І сцежкі, і шырокія дарогі,
Каб у жыцці ўсё было як след —
І смех, і боль, і шчасце, і трывогі.
*1961 г.*

* * *

Мы з табою жылі
У бядзе і ў нястачы.
Ды ў суровыя даўнія
Тыя гады
Я не чуў ад цябе
Ні папрокаў, ні плачу,—
Ты сябе і мяне
Суцяшала заўжды.

Не было ні прытулку,
Ні хлеба, ні к хлебу,
Ні спагадлівых блізкіх,
Ні чулай радні.
Толькі сонца было
І высокае неба,
А начамі свяцілі
І грэлі агні.

А цяпер вось бядуеш,
Што нечага мала: .
То фіранкі старыя,
То трэба змяніць дываны...
І здаецца,
Зязюля даўно адкувала,
І не чутна
За вокінамі
Звону вясны.

Я ж на неба, на зоры
Хачу наглядзецца,
На зямлю, на сяброў,
Бо ніхто не навек!
І пакуль не замоўкне
Гарачае сэрца,
Буду верыць —
Для шчасця жыве чалавек.

*1964 г.*

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Па начах жаніхі і нявесты
То вартуюць чужыя пад'езды,
То шукаюць у скверы прытулку,
То блукаюць па цёмным завулку.

Іх не дождж і не золкія ночы
Заганяюць у цемень, а вочы,
Што глядзяць з недаверам, што судзяць,
Што каханне юначае студзяць.

Кожны вечар у мокрай алеі
Нехта шэпча, цалуецца, млее
Ад гарачай салодкае стомы.
Потым разам стаяць каля дома
І ніяк развітацца не могуць.
Вось нявеста кусае пазногаць
І на вокны глядзіць час ад часу,
Дзе калючыя цені альясу,
Дзе цяпло стометровай кватэры
І цыратай абітыя дзверы,
Дзе фіранкі і фікусы ў пыле,
І карціны у рыначным стылі,
Дзе сталы і серванты з арэху
І не чутна ні песень, ні смеху,
Дзе «Здароўе» — адзіны часопіс,
І «шпіёнскі» зачытаны опус.

Хоць і люстры гараць і таршэры,
Кожны вечар тут змрочны і шэры.
Ды спакою начальніка траста
Не зайздросцяць жаніх і нявеста.

Ім бы той вунь маленькі пакойчык,
Што на год адчыняецца двойчы
(На Кастрычнік і Першага мая,
Калі пыл пакаёўка сцірае).

Ім бы толькі настольную лямпу

І акно без адзінае плямкі,
Чарцяжамі завалены стол,
І высокую светлую столь,

І праменьчыкі ранняга сонца,
Ледзяную ваду у калонцы,
Ім бы стос непрачытаных кніг,
Ім бы радасць адну на дваіх,
Ім бы, змораным, разам упасці
У абдымкі спякотнага шчасця,
Запрасіць бы паўгорада ў госці
На ўрачыстасць сваёй маладосці.
Ім прыйдзецца на дужыя плечы
Узяць і радасць і боль чалавечы...
Вось ідуць маладыя на плошчу,
Я гляджу ім услед і зайздрошчу.

*1962 г.*

## ТВОЙ ГОЛАС

Тут сонца і ружы у скверы,
Тут спеюць інжыр і хурма,
І цяжка адразу паверыць,
Што недзе ў Сібіры — зіма,

Што хмары, звісаючы нізка,
Дарогі вадой залілі,
Што восень у нас і над Мінскам
Ляцяць і ляцяць жураўлі,

Што голыя мокнуць асіны,
Што з клёнаў апалі лісты,
Ад іх, як ад лапак гусіных,
Наўкол засталіся сляды.

Мне так закарцела дадому,
Пакуль не мінуў лістапад.
І раптам знаёмы-знаёмы
Твой голас паклікаў назад.

Хоць ты гаварыла, што рана
Вяртацца, што варта пажыць...
Я чуў, што дрыжыць не мембрана,
А сэрца і голас дрыжыць.

Здалося, нібы ўвачавідку
Мы побач з табою стаім
І провада тонкую нітку
Сагрэлі дыханнем сваім.

Здалося, крануліся скроняў
Гарачыя вусны твае,
Расцвіў віінаград на адхоне
І сонца над намі ўстае.

Бо шчасце не ведае меры,
А шчасця без веры няма.
Няхай жа у нашыя дзверы

Ні разу не грукне зіма.

І раптам, не скончыўшы сказа
Ты змоўкла: хвіліны прайшлі..
І зноў над хрыбтамі Каўказа
Ляцяць і ляцяць жураўлі.

*1959 г.*

## ЧАКАННЕ

Над Іртышом гудзе завея,
Шляхі і сцежкі замяла,
І пасмы белыя, як змеі,
Паўзуць па вуліцах сяла.

Растуць калматыя сумёты,
Прысады гнуцца да зямлі.
За тыдзень нават самалёты
Даставіць пошту не змаглі.

Мароз усё яшчэ лютуе,
Да клямкі прыстае рука,
А каляндар нібы жартуе,
Што ўжо канец сакавіка,

Што недзе вербы ў завушніцах
Стаяць па плечы у вадзе.
Вясна мне толькі часта сніцца,
Але чамусьці не ідзе.

Маўчыш і ты каторы тыдзень,
Хоць напісала б слова ты.
Калі вясна не хутка прыйдзе,
Хоць бы прыйшлі твае лісты.

*1958 г.*

* * *

Каб пісаліся вершы,
Трэба быць закаханым
У жанчыну, у неба,
У добрых людзей.

І ад шчасця заўсёды
Быць крышачку п'яным,
І ніколі, ніколі
Не траціць надзей.

Трэба быць закаханым
У гоманы бору,
У світанні над полем,
У дождж на сяўбе,

Трэба быць закаханым
У сінія зоры
І ніколі, ніколі —
У самога сябе.

*1964 г.*

## НА КАТКУ

Бывае, што ў часіну адпачынку
Канькі і пада мною зазвіняць,
І хочацца цыбатую дзяўчынку
На віражы дагнаць і перагнаць.

Мільгае патэфоннаю пласцінкай
Блакітны затуманены каток,
І, як іголка, тонкая дзяўчынка
На лёдзе робіць тысячны віток.

Яна ў тумане іскаркай здаецца
Далёкага юначага агню,
Паблісквае канькамі і смяецца,
Што я цяпер яе не даганю.

Яна віецца, кружыцца, лятае —
Яшчэ рывок і зараз абміне,
Бялявая, і ўсё ж такі не тая,
Што некалі адстала ад мяне.

Жанчына каля сіняга сумёту
Трымае шалік, паліто і боты.
Я паглядзеў у вочы і пазнаў,
Што і яе калісьці даганяў.

*1964 г.*

## ПЛАЧА ЖАНЧЫНА

Жанчына плача на прыпынку.
А ёй не робіцца лягчэй,
Хоць і бягуць, бягуць слязінкі
З яе заплаканых вачэй.

Якая ж у яе прычына?
Што ёй спакою не дае?
Я думаю,
          ці не мужчына
Пакрыўдзіў толькі што яе?

Не дапамог або абразіў,
Упёрся ў графік ці ў статут,
Ці ні за што заляпаў граззю
І столькі нарабіў пакут.

Жанатыя і. халастыя,
Успамінайце кожны раз,
Што ўсе жанкі крыху святыя,
Што маці нарадзіла вас.

*1963 г.*

## ТАБЕ ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ СОНЦА

*Тані*

Твайму юнацтву пазайздросціць сонца,
І горы упадуць да ног тваіх,
Табе не трэба болей абаронцы,—
Ты абароніш і сябе і іх.

Ад зайздрасці, ад смутку і ад злосці,
Ад чэрствасці, спакусы і хлусні
Па праву непадкупнай маладосці
Ты і сябе і блізкіх барані.

І не прасі ні ласкі, ні апекі,
Ні дапамогі чулае радні.
Ты ж напрасткі пераплываеш рэкі,
Гартуешся на сцюжы і агні.

І не шукай удачы выпадковай,
Што крышыцца і гнецца у руках
Стаптанаю іржаваю падковай,
Пакінутай на збітых бальшаках.

Лаві губамі пругкі вецер мая
І абдымі асмужаны прастор,
Твая рука гарачая трымае
Сцяблінку, што дацягнецца да зор.

Ты перайначыш колеры і формы,
Ты выратуеш кволых, ледзь жывых,
А загадаеш — і заціхнуць штормы,
І горы упадуць да ног тваіх.

Ты сілу сэрца, розуму і цела
Сваёй зямлі хоць сёння б аддала.
Табе у вочы сонца паглядзела,
Зажмурыўшыся ад твайго святла.

*1962 г.*

## БАГАЦЦЕ

Нічога мне ніколі не шкада,
На шчырасць і на ласку не скуплюся,
Калі ў твой дом пастукае бяда,
Апошняю скарынкай падзялюся.

Нічога не збіраю, не таю,
Не берагу на чорны дзень і свята,
А ўсё, што ёсць, да кроплі аддаю
І тым шчаслівы і багаты.

*1965 г.*

* * *

Чалавеку патрэбна не слава,
А людская увага і ласка,
І сардэчнае шчырае слова,
І вясёлая добрая казка.

Чалавеку патрэбна усмешка
Незнаёмых вачэй і знаёмых,
Каб дажджамі размытая сцежка
Стала лёгкай на кручах і стромах.

Чалавеку не трэба спагады,—
Дабрата чалавеку патрэбна,
Каб, мінаючы прорвы і спады,
Узбірацца на стромкія грэбні,

Каб сяброў сустракаў клапатлівых
На дарогах далёка ад дому
І каб сам быў заўсёды шчаслівы,
Калі шчасце прыносіць другому.

*1964 г.*

**КАЛІ Ж ТЫ ВЫРАСЛА?**

Званкі і голас незнаёмы
Мяне трывожаць кожны раз,
І тое, што знікаеш з дому,
І што вяртаешся не ў час.

А тут і дождж сячэ па шыбах,
І вецер вые як знарок,
І за сцяной, нібыта выбух,
Грыміць па бруку кожны крок.

Усе спяшаюцца кудысьці
Праз вецер і праз дождж густы,
У шыбу стукаецца лісце,
А мне здаецца — гэта ты.

Калі ж ты вырасла, дачушка,
Калі паспела пасталець?
То ціха плачаш у падушку,
То раптам пачынаеш пець.

Чакаеш вечара ад рання,
Хапаеш плашчык на бягу,
Каб не спазніцца на спатканне,
І недзе мокнеш на рагу.

Што ж, я цябе не сунімаю,
Адказваю на ўсе званкі
І ўсё часцей успамінаю,
Што сам калісьці быў такі,

Што не адважваўся спазніцца,
Калі мінула дваццаць год,
Што на спатканне ў навальніцу
Праз ручаіны бег уброд...

А вось трывожуся заўсёды,
І неспакой душу дзяўбе,
Калі і ў добрую пагоду

Няма да поўначы цябе.

Мая трывога вочы засціць,
Душы спакою не дае,
Бо я трывожуся пра шчасце
І пра няшчасці ўсе твае.

1963 г.

## БЕЛЫЯ ЛІПЫ

Горад цудоўны юнацтва майго
Кветкамі скверы усыпаў,
І на праспектах і плошчах яго —
Белыя, белыя ліпы.

Белыя ліпы здалёку прыйшлі,
Іх напаілі жывыя крыніцы
Водарам нашае шчодрай зямлі.
Голле раскінулі і зацвілі
Белыя ліпы сталіцы.

Тут прызначае юнацтва сустрэчы,
Марацць пра заўтрашні дзень юнакі.
Белыя ліны каханым на плечы
Сыплюць і сыплюць з пялёсткаў вянкі.

Моцна сплятуцца гарачыя рукі
Шчырых і самых шчаслівых людзей,
Так, каб ніколі не ведаць разлукі,
Так, каб любіць, як не любяць нідзе,

Так, каб сагрэтыя дружбай далоні
Нават гады астудзіць не змаглі б,
Так, каб і ў старасці белыя скроні
Часам нагадвалі замеці ліп.

*1955 г.*

## ПЕСНЯ

Яна зусім з другімі не такая —
Прыпыніць кожнага, без жарту не міне,
Ды рантам чырванее і змаўкае,
Угледзеўшы на вуліцы мяне.

І я маўчу, хаваючы усмешку,
І смеласці, прызнацца, нестае,
А вечарам ізноў прыводзіць сцежка
Да хаты невялічкае яе.

Зачыненыя шчыльна аканіцы,
Паволі расцвітаюць на сцяне.
Яна заснула, ёй, напэўна, сніцца...
Ёй, мабыць, сніцца тое, што і мне...

Лугі у квецені, і росная дарога,
І неба сіняе, і сінія ільны —
На нашай сцежцы не відаць нікога,
Здаецца, ў цэлым свеце мы адны.

Ды не адны. Выходзяць на змярканні
У поле пары, ходзяць і маўчаць,
Адвагі не хапае закаханым
Аб самым запаветным расказаць.

Разыдземся, і песня узаўецца,
Што нам здаўна спакою не дае,
І зноў мая каханая смяецца,
Пра што маўчым, аб тым яна пяе.

*1956 г.*

## НОЧ НАД МІНСКАМ

Ясныя, зорныя ночы над Мінскам.
Што ж ты блукаеш адзін уначы?
Чуеш, спявае каханая блізка,
Мабыць, насустрач табе ідучы.

Сад закіпае ружоваю пенай,
Зоры плывуць у вясновай вадзе.
І па завулку, закончыўшы змену,
Тая, што сэрца трывожыць, ідзе.

Ціха ідзе і кагосьці шукае,
Кліча і, мабыць, яму аднаму
Песню ад шчырага сэрца спявае,
Толькі не ведае добра, каму.

Лёгкі туман праплывае над Мінскам,
Быццам пялёсткамі сыплюць сады.
Ты не хвалюйся — каханая блізка,
Хутка яе напаткаеш і ты.

*1956 г.*

## ШЧЫРАСЦЬ

З гадамі мой не прытупіўся зрок,
І вастрыні пачуццяў я не трачу:
Твой кожны рух, твой кожны крок,
І радасць, і тугу навылет бачу.

Перада мной душою не крыві,
Здавацца не імкніся самай лепшай
І як мяне пяшчотна ні заві,
Я не паверу, нават і аслепшы,

У шчырасць і праўдзівасць пачуцця,
У чысціню імкненняў і намераў,
Бо на парозе сталага жыцця
Я мала бачыў, а табе паверыў.

Паверыў, што са мною ўсе гады,
Куды ні кіне лес, заўсёды будзеш разам.
Але шкада, што я не змог тады
Адрозніць шчырых ад прыгожых сказаў.

Але, як май на змену йдзе зіме,
На змену гору надыходзіць шчасце,
І я, жыццё пазнаўшы, зразумеў —
Цяжэй устаць бывае, чым упасці.

Бо сам знячэўку ледзьве не упаў,
Ды нечакана каля самай стромы
Руку ў бядзе мне моцную падаў
І шчыра усміхнуўся незнаёмы.

Дык што ты мне цяпер ні гавары,
Больш не крануць ні ласкі, ні дакоры,
Бо добра ведаю, што шчырыя сябры
Аднолькавыя ў радасці і ў горы.

*1956 г.*

## ЖОНКА

Калісьці самаю прыгожай
З усіх дзяўчат яна была,
І ты за ёю вечар кожны
Хадзіў па вуліцах сяла.

Здавалася, у цэлым свеце
Такіх яшчэ не сустракаў,
І ў пралескавым букеце
Ты ёй запіскі пасылаў.

Чакаў яе і спадзяваўся,
Здалёк у вокны пазглядаў,
На роўным месцы спатыкаўся
І песні пра яе складаў.

Спяваў аб харастве дзявочым,
А ў змроку восеньскіх начэй
Табе яе свяцілі вочы,
Што прыгажэй за ўсіх вачэй.

Яна цябе назвала любым,
І у апошні мірны год
Яе ты песціў і галубіў
І піў гарачых вуснаў мёд.

Яна ў паход цябе збірала,
Як толькі грымнула вайна,
Яна касіла, жыта жала,
Лісты табе на фронт пісала,

Табой жыла, цябе чакала,
І дачакалася яна.
Прыйшоў дамоў,
У кожнай хаце
Ты быў для ўсіх жаданы госць —
Знайшоў сяброў, ды хутка страціў
Сваю былую маладосць.

І песень не складаеш болей,
Знаходзіш сотні розных спраў
І топчаш тыя кветкі ў полі,
Што калісь для яе збіраў.

І ў асенні змрочны вечар
Яна дамоў ідзе адна,
Бо ты забыў пра ўсе сустрэчы,
Бо стала жонкаю яна.

1955—1956 гг.

* * *

Люблю зямлю, што пахне лесам,
Люблю густой жывіцы дух,
Вільготны водар свежых трэсак
І скрыпеня ружовы пух,

Зялёнае святло іглiцы
І пах сунічнае расы,
Што, як іскрынкі навальніцы,
Усе асыпала лясы.

Люблю сівых дубоў калоны,
І соснаў стромкія ствалы,
І мёду поўныя калоды,
І звон вясёлае пчалы.

Я сок бярозавы з надрэза
Губамі прагнымі лаўлю,
І рэкі, што прапахлі лесам,
І зрубы звонкія люблю.

Здавён зялёнаю, лясною
Завецца наша старана,
І пахнуць смольнаю сасною
Калыска, хата і труна.

1964 г.

## АСЕННІ ДЗЕНЬ

Дзень па-асенняму кароткі.
Зганяе вецер з хваль луску,
І перавернутыя лодкі
Гудуць на стоптаным пяску.

Празрыста, пуста і сцюдзённа.
Бярэзнік, як манетны двор,
Чаканіць золата штодзённа
І шчодра кідае ў касцёр,

Што задыміўся верасамі,
Што тлее жарам журавін
І над празрыстымі лясамі
Шугае полымем рабін.

Ляцяць лісты з няўлоўным рэхам
На бераг, сцежкі і сляды,
А мне здаецца, пахнуць снегам
Мае наступныя гады.

*1966 г.*

## ДРУЖЫННІЦЫ

Расінкі дрыжаць на ажыне,
І падаюць зоры ў раку.
Чацвёра сур'ёзных дружынніц
Па ціхім ідуць гарадку.

Прыбраныя, быццам на свята,
У пышных каронах валос,
Сур'ёзныя, ходзяць дзяўчаты
І шчасцем свіцяцца наскрозь.

Выходзяць на ціхую Прыпяць,
І вецер ляціць наўздагон.
Зірнеш і адважышся выпіць,
Каб трапіць да іх у палон.

*1962 г.*

* * *

*Здравствуй, племя младое,*
*Незнакомое.*
А. Пушкін

Рамонкавым пылам і пахамі жыта
Авеялі горад начныя вятры.
Здаецца, і чвэртка яшчэ не пражыта
Таго, што мінула да гэтай пары.

Іду па праспекце, па бруку Нямігі
Туды, дзе студэнцкі гудзіць інтэрнат.
І нас тут чакалі канспекты і кнігі,
А мы на прыпынку чакалі дзяўчат,

Смуглявых і тонкіх, нібы чарацінкі,
З брывамі, як пара разгорнутых крыл.
Праходзіла ноч, і трамвай на прыпынкі
Прыносіў расу і рамонкавы пыл.

Нас клікала лета на дымныя сцежкі,
Дзе наша дзяцінства прайшло басанож,
Дзе першае гора было, і усмешкі,
І буйныя слёзы, як чэрвеньскі дождж...

Часамі заныюць суставы і косці
Ад сотні хвароб і ад тысячы страт,
А я па дарогах сваёй маладосці
Заўжды вечарамі іду ў інтэрнат.

Мне ўслед углядаюцца ясныя вочы
З адчыненых вокан і вузкіх двароў.
У спрэчках хлапцоў і у песнях дзявочых
Мне чуецца голас далёкіх сяброў.

Хоць я ім чужы і зусім незнаёмы,
Прыблудны дзівак і няпрошаны госць,
Хаджу вечарамі ля гэтага дома,
Каб збоку зірнуць на сваю маладосць.

Рамонкавым пылам і жытам дасіпелым
Павеюць на горад начныя вятры...
Я ведаю: буду і я пасівелы
І толькі ніколі не буду стары.

*1963 г.*

* * *

Не пойдзем сёння ні ў кіно, ні ў госці
Такая ноч, такая ў небе сінь!
І уздыхаць, каханая, пакінь,
Што больш ужо не вернеш маладосці.

А лепш паходзім па старым бульвары,
Дзе да вясны не падмятаюць снег,
Дзе толькі ходзяць закаханых пары,
Нібы у казцы ці ў дзівосным сне.

У іх марозам пабяліла скроні,
А ў нас — даўно завеялі гады.
Дык пойдзем, любая.
Няхай і сёння
Сябе адчуе кожны маладым.

Не будзем больш з табою уздыхаць.
Зірні, як ноч дарогі снегам мосціць.
Патрэбна так да старасці кахаць,
Як некалі кахалі ў маладосці.

*1956 г.*

## МАМА

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны
прыйшло
дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.

А вечарамі, слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі,
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок».

І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як калісь, мамаю назваў».

...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

*1962 г.*

## КАЛЯНДАР

Перада мной настольны каляндар.
Успамінаю дні, сустрэчы, даты,
І я, нібыта часу уладар,
Заместа будняў бачу толькі святы.

Чырвонай фарбай мечу кожны дзень
У маі, ліпені і ў жніўні,
І чую, як ступаюць па градзе
І як бушуюць радасныя ліўні.

Іграе ў трубах срэбраны аркестр,
Грыміць па даху выбеленай хаты,
І яблыні, як тысячы нявест,
Куды ні глянь, спяшаюцца на свята.

Дачушка, плацце белае надзень —
Хіба ж не свята цёплы майскі дзень?

Гартаю каляндар наадварот,
І кожны дзень жыве са мною побач —
То зарыпіць вазамі ля варот,
То жытам зазвініць вышэйшай пробы,

То волжскаю плацінай загудзе,
То паляціць у бездані сусвету,
То яблыкам даспелым упадзе,
То зноў адправіць новую ракету,

Пастукаецца радасным лістом,
Атуліць светлай ласкай маладосці
І на світанні прыйдзе ў кожны дом
Найлепшым другам і чаканым госцем,

То жаніха у сваты прывядзе.
Хіба ж не свята кожны новы дзень?

Гартаю каляндар. Мінаюць дні,
Пражытыя, але заўжды жывыя:

У вокнах загараюцца агні,
Сыходзяцца дарогі крыжавыя

І не разыдуцца, агні не дагараць,
Пад іх святло збяруцца нашы дзеці
І нас ні ў чым не будуць дакараць,
Бо мы жывём не дарам на планеце.

Сваёй любові шчодрыя дары
Мы аддаём, не ведаючы меры,
І кожны дзень ва ўсе календары
Увойдзе датай мужнасці і веры.

Зямля імчыцца з захаду на ўсход.
Хіба ж не свята кожны новы год?

Ідуць, ідуць наступныя гады,
А колькі іх у кожнага ў запасе?
Напэўна, столькі, каб мае сляды
Убачылі на Месяцы і Марсе.

Напэўна, хопіць сілы, каб дажыць
І ўсё зрабіць, задуманае намі,—
І дом і песню звонкую злажыць
І ганарыцца нашымі сынамі.

Гартаю каляндар. За годам год
Ідуць гады у год васьмідзесяты:
На полюсе растаў адвечны лёд,
І ўся зямля сваё святкуе свята.

Унучка, плацце белае надзень:
Сягоння свята. Свята кожны дзень.

*1961 г.*

* * *

Ушчэнт ступіліся нарогі,
Сашнік нагрэўся ад раллі,
Валы прысталі і на рогі
Барвовы месяц паднялі.

Глядзяць на зоры задуменна
І прагна слухаюць вясну.
А трактар ім ужо на змену
Ідзе і гоніць баразну...

Даўно ў музей здалі нарогі,
Ярмо, налыгач, пасталы,
І сцежкаю, уздоўж дарогі,
Ідуць на пенсію валы.

*1966 г.*

## ЗЯЛЁНАЯ КНІГА

Я з маленства чытаю зялёную кнігу,
Як старонкі, гартаю лугі і палі,
Што шумяць, шапацяць і гамоняць паціху
І складаюць адвечную песню зямлі.

Я гляджу на зялёнае рослае жыта,
На крутыя мурожныя ў лузе стагі
І сябе папракаю, што многа пражыта,
А куды ні зірнеш — застаюцца даўгі.

Колькі я не ўзараў, не скасіў, не пасеяў,
Колькі я не праклаў пуцявін і дарог,
І не вытаптаў сцежак па золкай расе я,
А за сорак гадоў колькі вытаптаць мог!

Можа рана адбіўся ад поля і дому,
Не паверыў сапраўднаму лесу свайму,
Можа песні мае не патрэбны нікому,
Можа толькі спяваю сабе аднаму.

Я сябе вінавачу, суджуся з сабою,
Я палёгкі ніколі нідзе не прашу
І, не здолеўшы вытрымаць першага бою,
Зноў да раніцы новыя вершы пішу.

*1960 г.*

## СЛОВЫ

Над намі словы уладараць.
Мы чуем і гаворым іх.
Яны то здружаць, то пасвараць
Сяброў і ворагаў маіх.

Бо словы розныя бываюць.
Адны — агню стрымаюць шквал,
Другія словы забіваюць
Усё жывое напавал.

Ад слова сэрца халадзее,
Праходзіць сон і забыццё,
Ад слова рушацца надзеі,
Ад слова свеціцца жыццё.

Ад слова вырастаюць крылы,
А ў сэрцы стукае любоў,
Ад слова прыбываюць сілы.
Дык не шкадуйце шчырых слоў

А здатным толькі на дакоры,
Умельцам словамі грымець,
Каб не прыносіць людзям гора,
Было б найлепей анямець.

*1962 г.*

* * *

Нельга ні забыцца, ні адкласці
На наступны, на прыёмны дзень
Нечае маленечкае шчасце,
А самому знікнуць, быццам цень,

Праз другія дзверы на нараду,
Дзе і без цябе ваду стаўкуць,
І спакойна ў доўгую шуфляду
Радасць чалавечую замкнуць.

Нельга абысці і адмахнуцца
Ад чужой трывогі і бяды,
Нельга не пачуць, як сэрцы б'юцца,
Як змаўкаюць сэрцы назаўжды.

Можа, ўзяўшы сэрца пад апеку,
Можна адагнаць адчаю цень.
Чалавек павінен чалавеку
Радасці прыносіць кожны дзень.

*1962 г.*

## РАБІНАВАЯ НОЧ

*Максіму Танку*

Маланка б'е і ўпоперак і ўдоўж
І ўспыхвае, нібы сухое суччa,
Грукоча гром, і спорны дождж
Між небам і зямлёю ніткі суча.

Рыпяць сівыя сосны на касе,
Кіпіць і вые ўспененая Нарач,
І пласкадонку лёгкую нясе
Ці ў вір, ці ў Гатавічы нанач.

Плывуць у змроку рыбакі,
А дождж сячэ бязлітасна і тупа.
Глядзяць хлапцы у розныя бакі,
Ды не відно ні Мядзеля, ні Купы.

Над Нараччу — рабінавая ноч:
Бушуюць хвалі, дождж і навальніца.
Куды ні павярні, куды ні збоч,
Нідзе не стаць, нідзе не прыпыніцца.

Да раніцы не разбярэш ніяк,
Ад берага ты блізка ці далёка...
І вось агеньчык, быццам бы маяк,
Замільгацеў у цемры адзінока.

На вёслы налягаюць рыбакі,
А неба рэжуць вольтавыя дугі,
І зіхацяць ад свежае лускі
На хлопцах курткі, як кальчугі.

У пласкадонцы б'юцца шчупакі,
Звіваюцца вугры, як бранзалеты,
Не спяць такою ноччу рыбакі
І неспакойныя паэты.

*1962 г.*

## МАЛАДОЕ ВІНО

Пасохлі да восені грады,
Намокла ад поту спіна —
Настала пара вінаграду,
Пара маладога віна.

Пульсуе у скручаных жылах
Лазы вінаграднай даўно,
Нібы першабытная сіла,
Заўжды маладое віно.

У кожнай задымленай гронцы
Гатункаў усіх і парод
Злучыла паўднёвае сонца
Дажджынкі і сотавы мёд.

У белых касынках дзяўчаты
Паўнюткія носяць кашы
І песняй і спелым мускатам
Частуюць усіх ад душы.

Паклічуць на першую спробу
Свайго маладога віна
У госці к сабе вінаробы
І просяць, каб выпіў да дна.

Я шчасця жадаю і сілы,
Віно маладое п'ючы,
Дзяўчыне, што гронкі насіла,
Хлапцу, што кляпаў абручы,

Што клёпкі часаў да змяркання,
Што ставіў дубовае дно,
Жадаю, каб вечна у чане
Гуло маладое віно.

*1960 г.*

## БЕЛЫЯ ВЕРШЫ

За ноч пабялелі маўклівыя сосны.
Нібыта шкляныя, ільдзінкі вісяць.
Снуе завіруха кужэльныя кроены,
Аж хочацца белыя вершы пісаць.

Завеі стагі за аселіцай вершаць,
Засыпалі сцежкі, шляхі замялі.
Ды толькі хачу я, каб белыя вершы
Чырвонымі верша мі вечна былі.

*1964 г.*

## ЗІМА

Закітавала вокны зранку,
Капусту ссекла да цямна
І вышыла за ноч фіранку
На шыбах цёмнага акна.

Платы і веснічкі пабеліць,
Усе калюжыны зашкліць
І за аселіцай пасцеле
Палотны зрэбныя бяліць.

А на дасвецці сырадою
У вёдры звонкія налье
І свежай, чыстай, маладою
Нячутна пройдзе па сяле.

Празрыстым пухам галубіным
Усе дарогі замяце
І сокам спелае рабіны
Палоску ў небе правядзе.

*1960 г.*

.

## НА ТАЕЖНАЙ ДАРОЗЕ

Вецер вые ў заломах рудое кугі,
Завіруха шляхі замятае дазвання.
Па дарогах блакітнай сібірскай тайгі
Ледзьве чутна рыпяць адзінокія сані.

Ад сяла да сяла каля сутак язды —
Ні жывое душы, толькі вецер калматы
Замятае ля самай дарогі сляды,
Што на поўдзень прабіў адзінокі сахаты.

Не змаўкаюць, гудуць пры дарозе слупы,
Вецер белую пражу снуе на сумёце.
Завіруха лютуе. Глядзіш, як сляпы,
І здаецца, на конях прымерзлі аброці.

Завіруха лютуе, мяце і мяце —
Закавала асіны у белыя латы.
Але ў змроку начы на трыццатай вярсце
Мільгануў аганёк невялічкае хаты.

Над высокім сумётам пакатай страхі
Нахілілася голае шэрае веццe,
І у морак бязлюднай сцюдзёнай тайгі
Два акенцы да самае раніцы свецяць.

Увайшоў, а ў хаціне нікога нідзе,
Толькі ў печы агеньчык яшчэ дагарае;
На услоне карэц у крынічнай вадзе,
Соль у шклянцы і свежага хлеба акраец

На шырокім і чыстым піхтовым стале,
На паліцы газеты за першае снежня.
Нехта печ напаліў і паехаў далей,
І знікае у замеці снежнай.

Нехта хлеба пакінуў і трэсак насек,
Запаліў каганец, каб у змроку не збіўся
Незнаёмы, ды блізкі яму чалавек,

Што за ноч перамёрз і ў дарозе змарыўся.

Вось і я, абагрэўшыся, дровы прынёс,
Хлеб пакінуў, крыху пастаяў ля парога.
Завіруха змаўкае, не страшны мароз,
І ніякая болей не зморыць дарога.

*1963 г.*

## КРЫНІЦА

Бруіцца каля берага крыніца
То ціха, то звініць на ўсе лады,
І смагай зморань сюды ідзе напіцца
Празрыстае сцюдзёнае вады.

А снег над белым полем заіскрыцца,
У студзені ударацць халады —
Булькоча нестрыманая крыніца
Струменямі празрыстае вады.

Ні спёка, ні мароз, ні навальніцы
Бяздоннай не трывожаць глыбіні,
Ніхто не зможа вычарпаць крыніцы,
А ёй самой ніколі не спыніцца:
Яна ж народу нашаму зрадні.

*1955 г.*

## ЛАСІНЫ СЛЕД

На досвітку па хрусткай стыні,
Паміж алешын і асін,
Страсаючы рагамі іней,
Ідуць мацёрыя ласі

І ловяць мяккімі губамі
Тугія парасткі альхі.
Над пасівелымі гарбамі
Ляціць слупамі снег сухі.

На досвітку у лесе ціха,
Курыцца сіняя імгла,
Але трывожная ласіха
Угору вушы падняла.

І, прыхіліўшыся да веццят,
Глядзіць за снежныя валы,
Здаецца ёй, што свішча вецер
У варанёныя ствалы.

І лес, і снег у чыстых зорах,
У срэбных пацерках — кусты,
Але ласіха чуе шорах
І кожны скрып за тры вярсты.

Завея замяла дарогі...
Якочуць недзе ганчакі,
Закінуў лось на спіну рогі,
Бяжыць ласіха ў хмызнякі.

Праз буралом і крутаяры,
Шарпак ламаючы таўсты,
Яны ў гушчар ляцяць у пары
І ў кроў збіваюць капыты.

Гарачы след у змроку тоне.
З густое снежнае імглы
Шуміць шалёная пагоня,

І свішча вецер у ствалы.

Дыміцца сцежка колкім снегам,
Клубамі сцелецца гання...
Азваўся лес тужлівым рэхам,
І ўсё замерла. Цішыня.

Адразу стала пуста ў лесе,
Смала іскрыцца на кары,
І толькі след на стылым снезе
Гарыць палоскаю зары.

*1961 г.*

## ЛЕСНІЧОЎКА

Зіма заваліла снягамі лясы,
Усе бальшакі прыцярушаны сенам.
Ссівелыя сосны гудуць, як басы,
І ціха звіняць заінелыя сцены.

За вокнамі ноч і сумёты наўкол,
Галосіць завея і просіцца ў сенцы,
То белую шапку адзене на кол,
То круціць і круціць свае вераценцы.

У печы паціху трашчаць смалякі,
І пахне сырою, адталай бярозай.
Здалёку чуваць, як рыпяць бальшакі,—
У хату ідуць лесарубы з марозу;

Каляныя шчокі, іскрынкі ў вачах,
Звіняць у парозе на ботах падкоўкі...
Заснуць лесарубы і сняць па начах
Шчаслівыя сны пад страхой лесьнічоўкі.

А сёння да поўначы ім не заснуць:
Мігае экран, і, нібы над паводкай,
З далёкага выраю ціха плывуць,
Кагосьці шукаюць і клічуць лябёдкі.

Над гукамі скрыпак яны паплылі,
Лятаюць і кружацца ў хвалях туману,
Схіляюцца нізка, да самай зямлі,
І раптам з блакітнага зніклі экрана.

Куды ж вы? Чакайце! Наўкол замяла
Завея усе бальшакі і дарожкі.
Пабудзьце яшчэ, не ўцякайце з цяпла,
Бо ў лесе застудзіце белыя ножкі.
На лавах сядзяць каля гулкай сцяны,
Глядзяць на сцямнелы экран лесарубы
І чуюць узлёт лебядзінай вясны,
І моўчкі кусаюць каляныя губы.
*1964 г.*

## РЭАКТЫЎНАЯ ЛЫЖНЯ

Без межаў поле, снег і снег,
І колкія іскрынкі пылу,
Блакітная лыжня мяне
Ізноў вядзе да небасхілу.

За пераездам паражняк
Грыміць і тоне ў белай пары,
А ў неба вузкая лыжня
Узвілася і бяжыць за хмары.

То вынырне, то прападзе,
То мільгане за паваротам.
Яна мяне услед вядзе
За рэактыўным самалётам.

*1964 г.*

**СНЕЖАНЬ**

І голыя ліпы,
І гулкія дахі
За ноч апранулі
Сівыя папахі.

А снег мітусіцца,
Ляціць, не сціхае,
Блакітнай становіцца
Поўнач глухая.

Замоўкла усё
І заціхла адразу,
Нібыта і крокі,
І словы, і сказы

Захутаны ў белую
Пухкую вату.
І золак паволі
Плыве сіняваты.

Нідзе не відно
Ні сцяжынак, ні следу.
А мне ўсё здаецца,
Што некуды еду

Праз гурбы і сцюжу,
Праз дзікую замець
І ў полі збіраю
Сняжынкі на памяць

Сузор'і гараць,
Каб з дарогі не збіцца,
А гэта ўсё мроіцца толькі
І сніцца.

На вуліцы ціха,
І светла, і свежа,
У шыбу галінкаю
Стукае снежань.

Мігаюць сняжынкі,
Як срэбныя спіцы.
Такімі начамі
Не кожнаму спіцца.

А недзе на нашыя
Зімы і леты
Глядзяць астраномы
З далёкай планеты,

Спрачаюцца, мараць,
Мяркуюць нясмела,
Чаму наша зорка
Ізноў пасвятлела,

Радзіруюць, клічуць,
А іх тэлеграмы,
Напэўна, да нас
Далятаюць грамамі.

Вякамі шукаюць
Надзейныя коды,
Ды зорка маўчыць
І святлее заўсёды.

То хмары яе
Закрываюць, як здані,
То рантам чамусьці
Зялёнаю стане.

У космасе свеціцца
След чалавечы,
І ўжо недалёка
Да першай сустрэчы.

Сузор'і гараць,
Каб з дарогі не збіцца...
А снежаньскай ноччу
Чаго не прысніцца.
1963 г.

## «РЭЧАНЬКА»

За снамі сны плылі кругамі,
Ляжаў на шыбах ночы цень,
Але няўпэўненыя гамы
Мяне будзілі кожны дзень.

Над столлю нехта невядомы
Грымеў ад рання да начы,
І я заўжды спяшаўся з дому
Хутчэй упрочкі уцячы.

Няўмелыя хадзілі рукі
Па клавішах то ўніз, то ўверх,
І пакалечаныя гукі
Будзілі наш увесь паверх.

Але надоечы нясмела,
У ранішнім трывожным сне,
Ледзь чутна «Рэчанька» звінела
І закалыхвала мяне,

Іскрылася і булькатала,
Лілася і плыла, плыла;
Здавалася, што рассвітала
У доме ад яе святла.

Здавалася, трымцяць стракозы
У хвалях чэрвеньскай смугі,
І пахнуць мятаю пракосы
І — Цёплым жвірам берагі...

І ўсё замоўкла нечакана,
Усё прайшло, нібыта ў сне,
А на падворку, ля паркана,
Ляжаў вільготны цёплы снег,

Прытоптаны, у цёмных крапках
(Відаць, не доўга праляжыць).
І я угледзеў — з нотнай папкай
Дзяўчынка сцежкаю бяжыць.

Цяпер я разам да прыпынку
Хаджу заўсёды, крок у крок,
З маленькай тоненькай дзяўчынкай,
Яе дaслухаўшы урок.

*1962 г.*

* * *

Іскрацца промні ў чыстых кроплях,
Курыцца парай мокры дах.
Вясна на леташніх каноплях
І на абвіслых правадах

Шкляныя вешае званочкі,
Стачыла ўзгоркі і груды.
Звіняць у парудзелых бочках
Патокі колкае вады.

Гудзе, булькоча поўны жолаб,
Над ім лятае мокры грак.
А на зямлі азімак-жолуд
Цяплом і вільгаццю набрак.

Булькочуць стромыя струмені...
На чорным лапіку грады
Грабуцца і склікаюць пеўні
На свята сонца і вады.

*1966 г.*

## РАСІЯ

Вясёлкі і ліўні касыя,
Сумёты і замеці зім,
І сонца, і песні Расіі —
Заўсёды у сэрцы маім.

Мне блізкія ледзь не з маленства
Узвышшы і шум баравы,
І стромкія кручы Смаленска,
І гулкія плошчы Масквы,

І плёсы за Волгаю сіняй,
І сцежкі на роснай траве —
Расія, Расія, Расія
У сэрцы заўсёды жыве.

На ўсходзе яна палымнее,
Світальныя песні пяе.
Як маці, яна разумее
І мову, і думы мае.

Гарацъ, як праменні касыя,
Пункціры завоблачных трас.
І сонца і шчасце з Расіі
Заўсёды прыходзяць да нас.

*1963 г.*

## ЛЕТУЦЕННІК

*Да, я возьму тебя с собою*
*И вознесу тебя туда,*
*Где кажется земля звездою,*
*Землею кажется звезда.*
А. Блок

Ён ходзіць у сквер, у кіно, на спатканні,
Ён слухае Ліста, гуляе ў кракет,
А потым складае да самага рання
Маршруты наступных касмічных ракет.

Усё да апошняй драбніцы знаёма
У цеснай кабіне яго карабля —
Утульна і светла, і цёпла, як дома,
Ды толькі чамусьці трымае зямля.

Трымае, дрыжыць, нібы маці над сынам
І хоча паслаць, і шкадуе пусціць,
А ён ужо лічыць не дні, а хвіліны,
Калі развітаецца і паляціць.

Ляціць летуценнік у бездань сусвету,
Туды, дзе гараць Арыён, Казярог,
І нават маленечкай наша планета
Здаецца у замеці зорных дарог,

То знікне, то зоркай маленькай заблiскае
То песняй, то словам сагрэе здаля,
Такая знаёмая, блізкая-блізкая,
Такая далёкая наша зямля.

Касмічныя сцюжы, і слабасць, і стома
Яго не крануць у нямой вышыні.
У цеснай кабіне утульна, як дома,
І свецяць яму у дарозе агні.
Ляціць летуценнік у бездань сусвету,
Спакойна ляціць, без трывог і турбот.
Ён бачыць за мэтаю новую мэту,
За першым палётам — наступны палёт.
*1961 г.*

## СНЫ

Лячу, лячу, маленечкі, бяскрылы,
І ўсё вышэй, усё вышэй хачу —
Займае дух і не хапае сілы:
То падаю, то зноў і зноў лячу.

Крычу ад шчасця, радасці і страху,
А гукі заміраюць на губах...
Лячу і не зайздрошчу болей птаху,
Што гнёзды ўе на соснах і дубах.

Усё сцярплю — пакуты, боль і кару,
За ўсё жыццём уласным заплачу,
І хоць на крок, але далей Ікара
Пад зорамі і сонцам пралячу.

Унізе знікне хмарка залатая,
Адолею і страх і немату...
Гаворыць маці,— калі ў сне лятаю,
Дык, значыць, і сталею і расту.

*1962 г.*

## ДЗЯЦІНСТВА

У памяці жыве ўсё да кроплі:
Маленства горкае, баі, дваццаты год,
Бабуля нас хавала у каноплі,
Убачыўшы варожы самалёт.

А мне карцела, выцягнуўшы шыю
І кулачок падняўшы ўвышыню,
Сачыць і слухаць, як ён глуха вые,
І ўслед крычаць: «Пабачыш, даганю!»

*1962 г.*

## ЮНАЦТВА

Глядзяць у неба прагна вочы,
І сэрца просіцца к агню,
Яно ляцець кудысьці хоча
І адчувае вышыню.

Не ведаю, якія зоры
Мігцяць іскрынкамі ўваччу,
А толькі веру — скора, скора
І я над імі пралячу.

Пакуль узняцца немагчыма
І паляцець яшчэ не час...
Значок Асаавіяхіма
Здаваўся ордэнам для нас.

Юнацтва хлапчукоў чакала
І сотняй клікала дарог,
А ўжо з Масквы Валерый Чкалаў
Ляцеў над полюсам, як бог.

Блакітныя вычэрчваў дугі
Да новых светаў і планет
Вучоны з горада Калугі
Для неіснуючых ракет.

І самалёты, як на свята
Над Краснай плошчаю, гулі...
Бацькі славутых касманаўтаў
Яшчэ бацькамі не былі.

1963 г.

**ПЕРШЫ ПАЛЕТ**

Да Полацка ўсяго гадзіна лёту,
І я ізноў спяшаюся туды,
Дзе воблакі, як першыя сумёты,
І белыя, як воблакі, сады.

Зялёная зямля ляціць пад намі,
І горад хіліцца, нібыта ў буралом,
А вось ужо і поле з валунамі,
І вёскі, і азёры пад крылом.

Успомнілася першая дарога,
Салёны смак дзіцячае слязы,
Калі прасілі літасці у бога,
Цалуючы старыя абразы.

Плылі аблокі белыя кудысьці,
Парэпалася шэрая зямля,
Ад смагі пазакручвалася лісце,
А літасці не меў прарок Ілья.

Трызнілі з голаду закураныя сёлы,
Засмягла жыта, ссохла сенажаць,
А у царкве ружовыя анёлы,
Здавалася, ад смеху задрыжаць.

Я гэта ўспомніў, можа, недарэчы...
Пілот свідруе хмары напралом,
Яны лажацца на крутыя плечы,
А мы іх рэжам сонечным крылом.

Мы уладарым на зямлі і ў небе,
У нас хапае сонца і вады,
Мы больш ужо не молімся аб хлебе,
Як некалі ў дзіцячыя гады.
Ляцім, ляцім над полем і над лесам,
Задзвінне перакрэсліў самалёт.
На нас глядзіць анёлам сцюардэса
І, як Ілья-прарок, сівы пілот.
*1961 г.*

## ТАЛАСЦЬ

Курыцца пыл над Млечным Шляхам,
Мігаюць Марс і Эрыдан,
Між імі ўрэзаўся з размаху
«Усход» у зорны акіян.

Яшчэ рывок, яшчэ імгненне —
І выйдзе на арбіту ён,
Закон зямнога прыцягнення —
Ужо адменены закон.

Зямля ў блакітным арэоле,
У тонкіх жылках сініх рэк.
Як згустак розуму і волі,
Ляціць савецкі чалавек.

Яго спакойна сэрца б'ецца,
Яму зямныя сняцца сны,
За першым следам след кладзецца
Сярод касмічнай цаліны.

То дзень, то ноч, то зноў світанне,
А ён — у зорнай цішыні,
І першым Сонца прывітанне
Яму прыслала з вышыні.

Яго імя зямля пачула
І ўжо запомніла навек,
Над Рымам, Токіо, Кабулам
Ляціць савецкі чалавек.

Ён родным сынам, братам, другам
Зрабіўся кожнаму з людзей,
За ім і дзень і ноч з Калугі
Спакойны сочыць чарадзей,
Нібы пытае: «Дзе ты, дзе ты?»
Нібы падлічвае віткі.
А ў неба зноў і зноў ракеты
Узлятаюць з Ленінскай рукі.
*1961 г.*

* * *

І я калісьці поўзаў па зямлі,
Цяпер хаджу, і езджу, і лятаю,
І ў небе сустракаю караблі
Над пікамі Каўказа і Алтая.

І не баюся ўзлётаў або ям,
Да віражоў і нечаканых спускаў
Рыхтуюся, нібы баксёр к баям,
Каб вытрымаць любую перагрузку.

Я ведаю, што вырвемся ў Сусвет,
Замецены касмічнаю імглою,
І ты, і я, і мой сусед,
А сэрцы не разлучацца з Зямлёю.

Бо чалавека вабяць і завуць
З любых вышынь аэрадромаў пліты,
І колеры зямныя, што жывуць
У кожным з нас, як фарбы на палітры.

Здаецца, нахіліўся б і набраў
У акіяне чыстага блакіту,
З лясных азёр — жывога серабра
І золата — з даспеленага жыта,

А зеляніны з пушчаў і лугоў
Начэрпаў бы паўнюткія вядзерцы,
Узяў бы белай фарбы у снягоў,
А чырвані — у неспакойным сэрцы

І рукавы па локці б закасаў,
І лепшую б карціну напісаў.

*1964 г.*

## ДАКОР САБЕ

Жыццё даецца толькі раз,
А я, бывае, марна трачу
І сілы лепшыя, і час
І не лічу за недастачу
Усё, што сёння разгубіў,
Усё, што мог, а не зрабіў
І што, магчыма, заўтра страчу.

Бо што прайшло, таго не вернеш,
Не скажаш часу: «Пачакай».

Тым часам нехта сее зерні,
А нехта на пярэдні край
Ідзе няходжанаю сцежкай,
У штармавую ноч не спіць,
На новай трасе ставіць вешкі,
Каб стэп вадою напаіць.
І не адкладвае нічога,
Нічога ён не праміне
І недзе, змораны дарогай,
Касцёр распаліць і засне.
Няхай блішчаць ад поту твары,
Хай плечы муляе рукзак —
Шчаслівы той, хто змалку марыў,
Што жыць патрэбна толькі так,
Каб быць заўсёды у дарозе,
Прайсці, дзе следу не было,
Каб у надзённай нашай прозе
Здабыць паэзіі святло.
Каб, узышоўшы на вышыні,
Руку таварышу падаць
І побач стаць на той вяршыні,
Адкуль наступны дзень відаць.
Каб зазірнуць у тыя далі,
Куды нам суджана дайсці,
І, не спыняючыся, далей
Дарогу пэўную знайсці,
Спазнаць цану любой хвіліны

І кожным крокам даражыць:
Шукаць, знаходзіць,
быць няспынным.
Не проста існаваць,
                                        а жыць.

*1956 г.*

## БЫЛЫЯ ХЛАПЧУКІ

У кожным з нас яшчэ жыве хлапчук,
Вясёлы, шчыры і ласкавы,
Хоць пасівеў і вылез чуб
Ад спраў і нечаканай славы.

Мы ж вызначылі дні прыёму
На шыльдзе фарбай залатой,
А самі з дому і дадому
Даўно не ходзім пехатой,

Не пазнаём старога друга,
Забылі матчына імя,
А як прыйдзецца часам туга,
Дык тут ужо і я не я.

Баімся студзеньскага ветру,
На дзверы вешаем замкі,
За дзень не больш як дзесяць метраў
Так-сяк праходзім нацянькі.

А каб агонь душы не згас,
І не для славы, а для справы,
Няхай жыве у кожным з нас
Хлапчук вясёлы і ласкавы.

*1961 г.*

## МАЛЯР

Цвітуць да замаразкаў астры.
На ціхі сонечны бульвар
У крэйдзе, вапне, алебастры
Выходзіць з вёдрамі маляр.

За ім па вуліцах пасёлка
Ляціць празрысты лёгкі пух,
Усімі фарбамі вясёлкі
Яго распісаны фартух.

Сярод асенняй пазалоты
Высокіх клёнаў і дубоў
Узняўся дом яго работы,
Адменны ад усіх дамоў.

Яшчэ пусты — ані фіранкі
Няма ні ўнізе, ні ўгары.
Сюды, напэўна, заўтра зранку
Пачнуць з'язджацца жыхары.

Нарваў маляр бярэма кветак,
Прынёс, паставіў за акном.
Здалося, што цяпло і лета
Прыйшло адразу ў новы дом.

*1956 г.*

## ПАДАРОЖЖА

Я не стаю на раздарожжы,
Мне пэўны шлях даўно відзён.
Усё жыццё я ў падарожжы —
Ад першых да апошніх дзён.

Бо мой рубеж яшчэ не блізка,
Хоць б'юць часамі перуны,
А я вандрую ад калыскі
І правандрую да труны.

Але шкада, што век кароткі,
А свету не відаць канца,
Што пехатою ад Находкі
Ужо не дайсці да Камянца,

Што легкадумныя раманы
Больш не паўторацца ў жыцці,
Што непраходныя урманы
Наўрад ці прыйдзецца прайсці.

Шкада. А каб усё спачатку
Зноў паўтарыць за кругам круг,
Хадзіць праз вузенькую кладку
Вясной з дзяўчатамі на луг.

І зноў навыперадкі лётаць
Цераз купальскія кастры,
Таптаць задымленую лотаць
І цалавацца да зары.

Шкада, што не з усімі стрэўся,
Каго калісьці мог сустрэць,
Што каля тых агнёў не грэўся,
Дзе мог і я душу сагрэць

Жывым, гарачым хваляваннем,
Любоўю, светлым пачуццём.
Таму цяпер усё дазвання

Хачу зрабіць сваім жыццём:

Паветрам дыхаць навальнічным,
Таптаць і лотаць, і мурог,
З акрайцам і з вадой крынічнай
Прайсці яшчэ мільён дарог,

Не ўслед, а поплеч з маладымі,
Каб смела марыць, прагна жыць,
Узняцца сцежкамі крутымі,
Дзе зорка ў бездані дрыжыць,

Дзе за ліловым небасхілам
Арбіты зорныя прайшлі,
Дзе самі вырастаюць крылы,
Каб зноў вярнуцца да Зямлі,

Дзе пахнуць першыя рамонкі,
Дрыжаць пад месяцам гаі
І свішчуць на світанні звонка
І традыцыйна салаўі.

Таму хвалюе і трывожыць
Усё, што стрэнецца ў жыцці,
Таму, прыйшоўшы з падарожжа,
Ізноў збіраюся ісці.

*1964 г.*

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

У зорным небе — Млечны Шлях.
Пад ім ляцяць у вырай гусі,
І мне здаецца, кожны птах
Крычыць: «Вясной дамоў вярнуся!»

Ляцяць у вырай жураўлі,
Ляцяць буслы у зорным небе,
А вось да роднае зямлі
І Млечны Шлях ім не патрэбен.

*1957 г.*

**ЭЛЕГІЯ**

Мяцеліца ў завулках вые,
Нясе снягі на ўсе бакі.
Заледзянелі маставыя,
І ледзь паўзуць грузавікі.

Вязуць жалеза і цагліны,
Чырвоныя, нібы агонь,
А вось у кузаве машыны
Ківае галавою конь.

Худы, калматы, заінелы,
Прыгнуўшы шыю, з вышыні
Глядзіць ён скоса і нясмела
На мітуслівыя агні.

Куды цябе вязуць, буланы?
Чаму не звоняць капыты?
У якія графікі і планы
Ужо запісаны і ты?

Падковы ж для цябе кавалі
З найлепшай сталі кавалі,
І людзі помнікі стаўлялі
Табе амаль на ўсёй зямлі.

Ты ў бой ляцеў, прымаў парады,
Ты ў полі за траіх рабіў
І кожнай бабскае брыгады
Апорай і надзеяй быў.
Цяпер цябе знялі з работы —
З палка, з абоза, з баразны,
Хоць і цягнуў заўжды да поту
І гінуў у агні вайны.

Ты не апошні конь на свеце,
А ўсё ж, заўважыўшы, з двара
Бягуць і пазіраюць дзеці
І на цябе, як на зубра.
*1966 г.*

## НЯПІСАНЫЯ ЛІСТЫ

Дзе ўзялі такую моду
Дарагія землякі —
Пасылаць мне слоік мёду
І паўторбачкі мукі?

Аглядаю ўсё дазвання
І дзіўлюся, што няма
Ад знаёмых прывітання —
Ні запіскі, ні пісьма.

Што ж пісаць, калі і гэтак
Сам павінен зразумець,
Што па тоне мёду з кветак
Можа кожны зразу мець.

Паспытаў, аж стала млосна:
Пахне ліпай за сялом,
Сенам, дзяцельнікам росным,
І гарэніць палыном,

Вее спелымі лугамі,
Белай грэчкаю — здаля,
Жытам, просам, пірагамі
Пахне глуская зямля

І крутым пшанічным хлебам,
Што ў дзяжы, як пух, расце.
Вось і прачытаў, што трэба
Я ў няпісаным лісце.

*1964 г.*

**ПЦІЧ**

Не гані гусей дахаты
І не кліч,
Глянь, зрабілася крылатай
Рэчка Пціч.

Крылы белыя лапочуць
На Пцічы,
І, здаецца, гусі хочуць
Уцячы

На шырокія азёры,
З асакі,
Ды стаяць, як у дазоры,
Гусакі.

Перасохла, абмялела
Рэчка Пціч.
Не махай хусцінкай белай
І не кліч

Ні гусей, ні шызых качак
На лугі,
Бо рака без іх заплача
Ад тугі.

*1966 г.*

## ГРУЗАВІКІ

Ад вечара і да зары
І ад зары да вечара
Грукочуць МАЗы ў Мазыры
І круцяцца дыспетчары:

То адпраўляй па сто мяхоў
Цэменту ў школу новую,
То патрабуе прыстань Пхоў
Разгрузку тэрміновую.

То швелер, бэлькі і слупы
Паслаць патрэбна ў Петрыкаў,—
І, быццам у палёт сляпы,
Ляцяць машыны з ветрыкам.

Наскрозь бензінам пыл прапах,
А пылам — кветак венчыкі.
Імчацца ноччу па шляхах
Чырвоныя агеньчыкі.

Імчацца МАЗы ў цемнату
Ад вечара да раніцы,
І пыл за імі на хаду
Бясконцым шлейфам цягнецца.

Ляцяць машыны па начах
І рэжуць змрок на сектары.
Нібыта здані,
у плашчах
Стаяць аўтаінспектары.

А побач гулкі шлях курыць
Ад Мазыра да Турава...
Інспектар просіць закурыць;
Хоць сам і мае курыва,

Але выходзіць на шашу,
Запылены і зморany,

Адвесці ж хочацца душу
З мазырскімі шафёрамі.

І так ад змроку да зары
І ад зары да вечара
Працуюць МАЗы ў Мазыры,
Шафёры і дыспетчары.

1963 г.

## ІГРАЕ РЫБАЧКА

На прыстані Мага[1]
Іграе гармонік,
То шэпча, то некага ціха гукае,
Празрыстая хмарка,
Як срэбраны коннік,
За сінію сопку плыве
І знікае.

Іскрыцца Амур,
А рыбачка іграе,
І ёй не патрэбна
Інакшага раю,
Чым гэтыя плёсы,
Чым гэтыя горы,
Чым звонкіх
І чыстых ладоў
Пераборы.

Рыбачка іграе «Амурскія хвалі»,
А побач стаяць
Рыбакі на прычале
І слухаюць моўчкі
Былую салдатку,

[1] Мага — прыстань на Амуры.

Што некалі з гора
Купіла трохрадку.
Вясною і ўлетку,
Увосень і ўзімку
Хадзілі жанкі
Да яе на заімку.
Хадзілі нявесты
І ўдовы сівыя
І песні спявалі
Да дня франтавыя.

З гаручай слязою
Іскрыліся ў хоры
Надзея, трывога,
І радасць, і гора.

Іграе рыбачка на прыстані Мага.
Стаяць і маўчаць юнакі і мужчыны
І слухаюць песню, як слухаюць мага,
Глядзяць на Амур і чакаюць пуціну.

*1963 г.*

## РАЗМОВА З АМУРСКІМ РЫБАКОМ

Прамокла да рубца цяльняшка
І распаўзлася на спіне.
— Табе, рыбак, напэўна, цяжка?
— Не.

Кіпіць у невадзе гарбуша
І б'ецца ў смаляное дно.
— Ты быў, відаць, даўно на сушы?
— Даўно.

— Тупыя чорныя кунгасы
Вадзіць і ў штормы ты мастак.
А пагуляць не маеш часу?
— Так.

— Знайшоў бы зручную прычыну
І быў бы дома лепшы госць.
Ты ж маеш слаўную дзяўчыну?
— Ёсць.

— А вунь на пірсе, ў Азерпаху,
Ці не яе бялее стан?
Куды ж ляціш, падобны птаху?
— У акіян.

*1963 г.*

**ГЕОЛАГ**

То пахне першымі лістамі,
То бліскавіцай, то дажджом,
То перапрэлымі пластамі,
То мокрым навылет плашчом.

То сціхне ўсё, то раптам грымне,
То сінім бляскам секане,
І кроплі буйныя, як грыўні,
Заскачуць звонка па спіне.

То ледзь адольваючы стому,
Забыўшыся, што быў сухі,
Я не дамоў іду, а з дому,
Не пад страху, а з-пад страхі.

І не шукаю больш прытулку,
Пакінуўшы прытулак свой,
Іду, хоць холадна і мулка,
І дождж гудзе над галавой.

Не знаю большай асалоды,
Як у таежнай цішыні
Каля замшэлае калоды
Заснуць да рання пры агні,

Як адшукаць глухі распадак,
Дзе раптам зазвініць кірка,
Каб сто разгаданых загадак
Трымала кожная рука,

Каб зіхацелі ў кожным керне
І каб іскрыліся заўжды
Жывыя, цёплыя, як зерне,
Крупінкі добрае руды,

Каб не ў ажынніку і хмелі
Мае губляліся сляды,
А каб услед за мной грымелі
Ў таежных нетрах гарады,

Каб загараліся вясёлкі,
Каб зоры падалі ў ваду,
Каб новыя раслі пасёлкі,
Дзе я прайшоў і дзе прайду.

*1963 г.*

## ІЮНЬ-КАРАНЬ

*Янку Брылю*

Гляджу на леташнія здымкі,
Што крышку паліняялі без пары,
І ўспамінаю дальнія заімкі,
І астравы, і плёсы Усуры,

Над ціхай Валачаеўкаю ранне,
Ружовае, як малады фазан.
І ты паціху на Іюнь-Карані
Спяваеш пра амурскіх партызан.

Наўкол палаюць росныя саранкі,
На сонцы стэп і млее і звініць,
А нам здаецца, што ляцяць тачанкі,
Якіх ужо нікому не спыніць.

Чырвоныя істужкі на папахах,
І белыя бінты на галаве...
А табуны стаеннікаў па пахі
Хаваюцца ў някошанай траве...

Ляцяць, ляцяць тачанкі над Біроюю
На Спаек, на Благавешчанск, на Іман...
Знікае ўсё. Пра колішніх герояў
Спявае беларускі партызан.

*1963 г.*

## НАХОДКА

Гэта мае і твае аднагодкі
У бараках жылі каля бухты Находкі
І рэзалі сопкі і дзікія скалы
На вуліцы, плошчы, завулкі, кварталы.
Быў хлеб па ліміту і спірт па ліміту,
І толькі хапала на ўсё дынаміту:
Крышыліся сопкі і падалі горы,
А ў небе дрыжалі халодныя зоры.
Шалелі завеі, снягі бушавалі,
Тут мерзлі шафёры на равале
І вецер і холад клялі акаянны,
А шлях прабівалі да акіяна.

Гляджу я сягоння з таго перавала,
Дзе замець да самай вясны піравала,
Гула, рагатала, свістала і кпіла,
Шляхі замятала і фары сляпіла.

Гляджу, як на горад, блакітны і юны,
Нацягвае сонца гарачыя струны,
На стромкія трубы, на ветразей крылле,
На светлыя дахі, на тонкія шпілі,
На белыя мачты, на вежы, на краны,
На ўсе караблі, што ідуць з акіяна.
Спяшаюцца зранку мае аднагодкі —
Па сэрцу, па духу, па думках сябры,
Што лічаць шчаслівым юнацтвам Находку,
Што самі ссівелі даўно без пары.

*1964 г.*

## ДУМКА ПРА ДУМКУ

*Архітэктару Г. В. Сысоеву*

Гаворац — думка колеру не мае,
Ні межаў, ні абрысаў, ні вагі.
Яна, спачатку кволая, нямая,
У вузялок завяжацца тугі

І запульсуе жылкаю на скроні,
Дыктуе волю і правы свае;
Ты ўжо яе нявольнік, ты ў палоне,
Яна табе спакою не дае.

І вырвацца з палону немагчыма,
І нельга адпачыць ужо нідзе:
Ты пазіраеш яснымі вачыма,
А ўсім здаецца, што сляпы ідзе

Зараслымі глухімі пустырамі,
Дзе толькі друз і стылыя камы;
А мрояцца табе двары і брамы,
Праезды, скрыжаванні і дамы,

Якіх ніхто яшчэ нідзе не бачыў,
Дзе аніхто пакуль што не жыве.
З бязважкай думкі цяжкія заданы
І вуліцы растуць у галаве.

1м душна, цесна, ім няма прасторы,
Пад імі нетрывалыя пласты.
І пераходзяць сцены і апоры
На ватмана шурпатыя лісты...

На пустырах будуюць дом за домам,
Фарбуюць сцены колерам зары.
А думка зноў, не ведаючы стомы,
Нібы іскра, імкнецца да іскры

І набывае форму і аблічча,

Адценні, пахі, колеры, вагу,
Усім валодае, прыспешвае і кліча,
Нібыта кожны у яе ў даўгу.

Усё, што збудавалі нашы рукі,
Усё, што мы стварылі на зямлі,—
Атамаходы і сімфоній гукі
Спачатку толькі думкамі былі.

*1964 г.*

* * *

Ступаю вобмацкам па лесе,
Сваёй не бачачы рукі,
У вочы то іглiца лезе,
То шчокі драпаюць сукі.

Мільгнуў агеньчык. Хвошча вецце
Бягу,
            спыняюся ля пня:
Свіціцца нешта, ды не свеціць,
А дакрануўся — парахня.

*1966 г.*

**ПЛЫНЬ**

Вецер насустрач, насустрач імклівая плынь.
Хлопец у чоўне, смуглявы і рослы,
Прагна глядзіць і плыве ўдалячынь —
Вёслы рыпяць, выгінаюцца вёслы.

Сонца насустрач і сіні прастор,
Сіні прастор у вясёлкавай браме.
Хлопец плыве і плыве за сябрамі —
Вёслы, як дужыя крылы, прасцёр.

У далячынь, што расчынена насцеж,
Голасам сэрца і ўласнай крыві
Кліча цябе неспакойнае шчасце,
Толькі хутчэй да яго даплыві.

Шчасце у кожнай тваёй перамозе,
Шчасце — адолець і вецер і град,
Шчасце — нідзе не спыняцца ў дарозе,
Спынішся — плынню адгоніць назад.

*1955 г.*

## ПАЛЕСКІЯ РЭКІ

Мне на світанні часта сняцца рэкі —
Струмень і Стыр, Стаход і Лань, і Цна.
Па іх нібыта шлях з вараг у грэкі
Ізноў праклала звонкая вясна.

Да цнотнай Цны ніяк не падступіцца
Ні нацянькі, ні напрасткі, ні ўброд,
І Лань, нібыта грозная ільвіца,
Накінуцца гатова на Стаход.

А Прыпяць настыраецца са Стырам,
Струмень, як мора грознае, гудзе,
І вербы нахіліліся над вірам,
Схаваўшыся па плечы у вадзе.

Зліліся рэкі ўсе ў адно разводдзе,
Шумяць, іскрацца, пеняцца, гудуць,
А ўжо дзядзькі на белым параходзе
Пра сенажаці гутарку вядуць.

Спадзе вада, і травы забуяюць,
Зашамацяць мурожныя стагі.
Куды ні глянеш, без канца і краю —
Зарэчныя, прырэчныя лугі.

Яшчэ туман курыцца над вадою
І бакены падміргваюць здаля,
А мне здаецца — пахам сырадою
Набракла ўся палеская зямля.

Я чую салаўёў каларатуру,
Гудуць паводкай Прыпяць і Стаход,
І на світанні у туманны Тураў
Прыходзіць першы белы параход.

*1964 г.*

**БЫЦЬ ПАЭТАМ**

Нас прадзімае
Вецер свежы,
Мы ловім пырскі
І дрыжым.

Давай з табою
З узбярэжжа
Па зорнай сцежцы
Пабяжым.

Чаму няёмка
І нясціпла?
За што пашлюць
Услед дакор?

Зірні, чырвоны
Месяц выплыў,
Як добры дзядзька
Чарнамор.

Гарачым прысакам
І срэбрам
Ён сцежку вымасціў
У даль,
І паласатыя,
Як зебры,
Варочаюцца
Спіны хваль.

А сцежка просіць,
Сцежка кліча
За небакрай,
За небасхіл,
Туды,
Дзе аніхто не злічыць
Сузор'яў, зорак
І свяціл.

Хадзем!
Патрэбна быць паэтам
Не за сталом,
А у жыцці,
Адважыцца —
І над Сусветам
Па сцежцы месячнай
Прайсці.

*1964 г.*

## ДРУГІ ПАРЫЖ

Парыж мне сніўся,
Сніцца,
Будзе сніцца,
З бульварамі,
З ухмылкамі хімер.
Грукоча у завулках
Калясніца —
На плошчы памірае
Рабесп'ер.

Парыж, Парыж! —
Заканадаўца моды.
Прыдуманы
Ці вычытаны мной:
Вось на званіцы
Плача Квазімода,
Эжэн Пацье
Ў апошні кліча бой.

Другі Парыж,
Другі і той жа самы:
Наўкол жывуць
Гісторыі сляды:
Стагодні пыл на вежах
І на брамах,
І тыя ж плошчы
Згоды і Звязды.

Другі Парыж,
Не бачаны ніколі,
Ты ці не ты
Пад сонцам і дажджом
Шумяць лістотай
Тонкія таполі,
Каханыя накрыліся
Плашчом.

Спяшаецца Парыж,

Смяецца, плача,
Глядзіць «Мысліцель»
На цябе ўначы,
Прыпамінае
Страты і няўдачы,
Шкадуе, што не мог
Дапамагчы.

Ён думае,
Яму даўно не спіцца,
Ён верыць
У загаданыя сны,
У «Чырвоны пояс»
Вечнае сталіцы,
У сілу праўды,
Міру і вясны.

Гляджу з высокай
Плошчы Тракадэра,
Як ты снуеш,
Іскрышся і гарыш.
Я пазнаю цябе
І цвёрда веру
У сённяшні
І ў заўтрашні Парыж.

*1966 г.*

## РЭКЛАМНЫ БУСЕЛ

*Сержу Бярэжнікаву — рускаму парыжаніну*

Стаіць маркотны, у глыбокай скрусе,
Старэе і сівее пакрысе,
З чырвонай дзюбай галянасты бусел,
Гайдаючыся на адной назе.

Пад ім — кафэ, над ім — гатэль прыгожы,
За парапетам плешчацца вада,
А ён сумуе і ніяк не можа
Пакінуць бутафорскага гнязда.

Ляцяць буслы над Эйфелевай вежай
І кружацца, і клічуць: «Паляцім
На ціхія азёры Белавежы»,
Але маўчыць рэкламны пабрацім.

Яго даўно не слухаюцца крылы,
І вылінялі вочы ад тугі,
Ён не пабачыць узбярэжжы Ніла
І беларускіх рэчак берагі.

*1966 г.*

## ДЭЛЬФІНЫ, ЧАЙКІ І ПІЛОТ

І дзень і ноч — адна марока:
Салёны вецер б'е у твар,
Спякотай дыхае Марока,
закіпае Гібралтар.

Яшчэ ахутаны смугою
Вяршыні афрыканскіх скал,
Грывастай пенаю, тугою,
У бераг б'е дзевяты вал.

То вынырнуць крутыя спіны,
То зноў у хвалях прападуць,—
Нібыта лоцманы, дэльфіны
Нас у фарватэры вядуць.

За цеплаходам — завіруха
Біскайскіх чаек, белых крыл,
Яны крычаць і стогнуць глуха
І ўслед ляцяць з апошніх сіл.

У прорву падаюць таропка,
Гайдаючыся на вадзе...
А ў чыстым небе кружыць кропка,
Расце, зніжаецца, гудзе.

То на крыло спакойна ляжа,
То дзюбу звесіць, як сава,
І на хвасце і фюзеляжы
Чарнеюць знакі «USA».

Здаецца, хвалі заміраюць
І болей чаек не відно,
Дэльфіны стогнуць і ныраюць,
І скаты коцяцца на дно.

На лётчыка гляджу з папрокам
Няма дэльфінаў, чаек, рыб...
Смуга над горамі Марока

Плыве, нібыта белы грыб.

Скажы, пілот, чаго шукаеш?
Куды спяшаешся ў прасцяг?
Куды ляціш? Чаму знікаеш,
Убачыўшы чырвоны сцяг?

*1966 г.*

## ЭЙФЕЛЕВА ВЕЖА

*«Пад'ём на першы наверх Эйфелевай вежы каштуе 1,5 новых франка, на другі — 3 фр., на трэці — 5 фр.».*
(Даведнік *Агенцтва «Транстур»)*

*«З Эйфелевай вежы скінулася трыста самагубцаў».*
Паведамленне парыжскага гіда

Трывалыя сталёвыя мярэжы
Трымаюць рэстаран і павільён,
На трох паверхах Эйфелевай вежы —
Турысты ўсіх народаў і плямён.

Адны ніжэй, другія — аж пад хмарай
Спакойна п'юць «Марціні» і віно,
На стол кідаюць франкі і далары,
Нібы тасуюць карты ў казіно.

А дзеўчынка з арабскага раёна
Пазычыла тры франкі на пад'ём…
«Бывай, бывай, Вандомская калона,
Булонскі лес і мой бляшаны дом!»

Яна ніколі ўжо не верне доўгу,
Сябрам ніколі не працягне рук,—
Апошні крок, апошні крык, і доўга
Яна ляціць і падае на брук.

Буфетчык кажа. : «Усякае бывае»,
А у мяне цямнее уваччу:
«Не, самагубцаў хтосьці забівае»,—
Я сытаму буфетчыку крычу.

Натоўп расходзіцца. Паехала машына.
Струменямі іскрыстае вады
Маўклівы абыякавы мужчына
Змывае з бруку ліпкія сляды.
*1966 г.*

## ГРЭШНЫ ГОРАД

Дажджынкі за акном закапалі,
Прымялі мокрую траву,
А я — усё яшчэ ў Неапалі
І ў Рыме сонечным жыву.

Стаю пад парасонам пініі
Ля ватыканскае сцяны
І жмуруся на неба сіняе,
А ў небе бомкаюць званы.

Усе чатырыста касцёлаў
Склікаюць грэшных на імшу
І гулкім звонам, невясёлым,
Трывожаць сонную душу.

Ідуць манахіні ў сутанах
І тоўсты ксёндз з капелюшом,
А побач, між іконак танных —
Паштоўкі грэшніц целяшом.

Усё, што трэба, прадаецца
Турыстам, юным і старым.
Гудуць званы, а мне здаецца,
Што найвялікшы грэшнік — Рым.

Граміла з крыжыкам на шыі
Зноў спавядальніка кране
Прызнаннем: «Сёння саграшыў я
І то не па сваёй віне».

Крычыць, гандлюе і гаруе
Набожны Рым і б'е ў званы,
Грахі нягоднікам даруе,
Каб паўтараліся яны.
Дзе больш грахоў, там больш касцёлаў,
Скалечаных і кволых душ...
Шуміць вятрак, і круціць кола
Журботны рымскі Мулен Руж.
*1966 г.*

## СПАКУСА

Прыйшла паціху, без дазволу,
Аловак выбіла з рукі
І, як няўмольная назола,
Мяне штурхае пад бакі.

Параскідала ўсе паперы,
Пазамыкала стэлажы,
Завалай зачыніла дзверы
І кажа: «Трохі паляжы».

Страфа замерла на паўслове,
Ляжыць недачытаны ліст,
Што мне на беларускай мове
Прыслаў балгарскі журналіст.

Пасля, як хлопчыка, раздзела,
Накрыла коўдрай з галавой,
Аблытала душу і цела,
Наводзячы парадак свой.

Чаго прыйшла, адкуль і хто ты
Ну, што ты маеш да мяне?
Ты бачыш, колькі тут работы
І тэрміновых спраў, ці не?

Герой не скончанай паэмы
Прыспешвае: «Хутчэй пішы!»
У сэрца стукаюцца тэмы,
А ты мне шэпчаш: «Паляжы».

Не, я не ўлежу. Вокны насцеж,
Ад гулу хай дрыжыць пакой.
Мне трэба людзі, трэба шчасце
І не патрэбен твой спакой.

Паэт — заўсёды на рабоце,
Аж дух займае кожны раз.
Ён не капаецца ў блакноце,
Што накрыж перакрэсліў час!

Ён сам усё пабачыць хоча,—
Паспець усюды за траіх.
Паэт працуе дні і ночы
Без адпускоў і выхадных.

*1956 г.*

## ХВАЛЯВАННЕ

*Урачу Я. У. Шейфаху*

Мяне хвалюе квецень мая
І радуе дзявочы смех,
Хоць я заўжды адпачываю,
Калі іду на свой паверх.

Мне раіць доктар не стамляцца,
Пасаду лёгкую знайсці,
Забараняе хвалявацца
І працаваць пасля шасці.

Я п'ю мікстуру, ем таблеткі
І па усходцах не бягу,
Але ні восенню, ні ўлетку
Не хвалявацца не магу.

Хвалюе гул пракатных станаў,
Хвалюе ў полі сіні лён,
Хвалююць лічбы новых планаў,
Што сталі явай нашых дзён.

Мяне хвалюе новы скверык,
Што зашумеў на пустыры,
Хвалююць негры дзвюх Амерык
І пакістанскія сябры.

Мяне турбуе, што ў суседа
Яшчэ ўсяго адзін пакой,
Што хтосьці грошы на «Пабеду»
Сабраў нячыстаю рукой.

Мяне хвалюе — дзесьці ў багне
Загразлі ноччу цягачы.
Мяне туды заўсёды цягне,
Дзе я магу дапамагчы,

Дзе трэба адшукаць дарогу,

Пракласці новую шашу...
Лепш быць сляпым або бязногім,
Чым мець халодную душу.

Мой добры ўрач, адну папраўку
Я ўношу ў ісціну тваю,
Хоць сэрца просіцца ў адстаўку,
А я адстаўкі не даю.

І не прашу ў цябе спагады,—
Хоць кожны дзень мяне калі,
Але пакінь за мной пасаду —
Быць Чалавекам на зямлі.

*1959 г.*

## ПЛАТЫ

Ці раз у змроку я і ты
Ілбамі біліся ў платы?
Сярод гаёў і росных траў
Плот нечакана вырастаў —
Бетон, жалеза, быццам дот,
І на слупах калючы дрот.

Платы вакол садоў і дач,
Навокал паркаў, хоць ты плач!
Куды ні глянь — платы, платы
З прантоў, з бетоннае пліты,
З цалёвак, а на іх цвікі
Глядзяць у неба, як штыкі.

За плотам — кветкі і вішняк,
Звон ланцугоў і брэх сабак.
За плотам — скверык і гарод.
І нават на магіле плот.
Калі б сабраць усе платы,
Праз акіян ляглі б масты,
А з цэглы выраслі б дамы
Ад Камянца да Калымы.
І наш стаіць за плотам дом,
Ды прасла мы здалі на лом,
І кожны ходзіць напрасткі,
Хоць і злуюцца дзівакі,
Што столькі год, нібы краты,
На свет глядзелі праз платы.
Цяпер вясновыя вятры
Ляцяць у нашыя двары,
І сонца свеціць у акно,
І стала нам далей відно,
Праспект бліжэй на паўвярсты.
Каму ж патрэбныя платы?

*1962 г.*

## ПЕРАМОГА

Цяжэй за ўсё сябе перамагчы,
Стаць над сабой бязлітасным суддзёю
Судзіць удзень, уранні і ўначы
Свае імкненні і свае настроі.

Жаданне лёгкай славы засудзі
На вечнае выгнанне і пакуты,
Няхай ніхто з дакорам не глядзіць,
Што замінаеш у жыцці яму ты.

Для зайздрасці палёгкі не прасі,
Сваёй віной не вінаваць другога
І сам сабе ніколі не схлусі,—
Нялёгкай гэта будзе перамога.

Другіх не папракай і не вучы,
А паспрабуй сябе перамагчы.

*1959 г.*

## ЛЫЖНЯ

*Міколу Лобану*

На досвітку і я праклаў лыжню
У снежаньскі празрысты хрусткі морак.
А ўжо крычаць: «Трымайся, даганю!»
І вылятаюць на круты узгорак.

Вось нехта падае ў іскрысты цёплы снег —
Клубіцца след і параю і пылам,
На віражах — галёканне і смех
Ляцяць услед за лыжнікам двукрылым.

А я праз лес пракладваю лыжню —
Тугую звонкую дарогу —
І хлапчукоў і клічу і дражню,
Што адстаюць ад лыжніка старога.

Мігаюць іскры белага агню,
У твар сячэ сустрэчны вецер стылы.
Па цаліку пракладваю лыжню
Тым, што ляцяць і наступаюць з тылу.

То іней асыпаецца на скронь,
То хвошча лес ігліцаю і снегам,
А я, прадзьмуты сцюжаю наскрозь,
Далей імчуся за няўлоўным рэхам.

*1963 г.*

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ

*Адаму Русаку*

Я не апошні і не першы
Складаў крадком калісьці вершы.
Дазнаўся нехта, стаў строіць кпіны.
Я чырванеў, казаў: «Пакіну»,
Казаў: «Не буду». А праз гадзіну,
Узяўшы кошык, блукаў па лесе,
Шукаў арэхі, шукаў маліну,
Але знаходзіў радкі для песні.
Знайшоўшы слова, баяўся страціць,
Нёс асцярожна, нібы расінку.
Зірнуўшы ў кошык, казала маці:
«Ты, мабыць, збіўся з дарогі, сынку.
Вунь колькі ягад прыносяць людзі.
З цябе ж, як бачу, дабра не будзе.
Ну, хоць бы меншым, хоць бы для смеху
Прынёс ці ягад, ці тых арэхаў».

Я кожным ранкам хадзіў далёка
Па росных сцежках у чарналессе —
Шукаў арэхаў, спяваў, галёкаў,
І раптам выйшла такая песня,
Што сам здзівіўся, пачуўшы рэха
Канца той песні. А дзесь дзяўчаты,
Што абіралі з кустоў арэхі,
Ужо спявалі яе пачатак.

Я чуў, як песня ішла паволі
Праз нашу вёску, паўз нашу хату.
Па пералесках, па жытнім полі
Яе панеслі у свет дзяўчаты.

Ляцелі гусі далёка ў вырай,
Вятры маліну даўно абтрэслі,
А вечарамі спявалі шчыра
У кожнай хаце ўсё тую ж песню.

Яна хадзіла ў лугах зарэчных,
Па вечарынках, па сенажацях,
Яе у доўгі зімовы вечар
Спявала разам са мною маці.

*1957 г.*

## ЖОЛУД

Пад шэлест лісця, пад птушыны спеў,
Апалены апошняй навальніцай,
Расою цёплай вымыты,
                                        даспеў
Тугі, каляны жолуд над крыніцай.

Ад ветру ён увосень трапятаў
Паміж лістоў пакручаных і шэрых,
Хапаўся за галінкі і... упаў
На заінелы вытаптаны бераг.

Яго вятры качалі па траве,
Дажджы хвасталі і пранізваў холад,
Дрыжаў, патрэскаўся, а ўсё-такі жыве
Тугі, каляны пераспелы жолуд.

Ён парасткам схапіўся за зямлю,
Каб перасіліць і адолець згубу
І сілу перадаць таму галлю,
Што стане каскай будучаму дубу.

*1966 г.*

## ЯК ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

На рошчыну маці лінула вады —
Дражджамі запахла,
І хлеб малады

Яна рашчыніла ў дубовай дзяжы,
А сыну сказала:
— Па сіта бяжы.

Насыпала свежае жытняй мукі,
Пазаддзе адсеяла
І асцюкі

І доўга пасля, не шкадуючы сілы,
Крамянае цеста
Мясіла, мясіла.

Прынесла зялёны аер з азярыны
І боханы, густа
Пасыпаўшы кмінам,

Саджала ў прасторную печ на лапаце.
І хлебам гарачым
Запахла у хаце...

Палёгак і скідак, паэт, не прасі ты,—
Пачуцці і словы
Прасейвай праз сіта,

І што ні прыдумвай, і што ні кажы,
А вершы замешвай,
Як цеста ў дзяжы,

Каб пахлі аерам і духам зямлі,
Каб хлебам надзённым
Заўсёды былі.

*1964 г.*

## БЯССОННІЦА

Пішу, хвалююся і рады, як дзіця,
Удалай рыфме, вобразу і слову.
Нібыта ў гэтым сэнс майго жыцця,
Нібыта тут усіх асноў аснова.

Хіба ж не так?
Хіба ж не мы з табой
Пазналі свет у словах калыханкі?
Хіба ж без песні мы хадзілі ў бой?
Хіба ж не з песняй мы вадзілі танкі?

І, па лугах туманных ідучы
Асеннім днём ці раніцаю весняй,
У небе жураўліныя ключы
Мы сустракаем і праводзім песняй.

Паэзія без фальшы і прыкрас,
Мяняючы то формы, то адценні,
Жыве і будзе жыць у кожным з нас
І ў кожным нашым светлым летуценні.

Пішу, а ў памяці і ў сэрцы ажылі
Усе пачуцці, колеры і гукі —
Цвітуць рамонкі і звіняць чмялі.
І толькі словы не даюцца ў рукі.

Шукаю іх і не знаходжу іх,
Жывых, шурпатых, зыркіх, як маланкі...
Ужо і горад зморaны заціх,
Паружавелі белыя фіранкі,

А я пішу, і ўсё здаецца мне,
Што тут няма ні складу, ні парадку.
Калі ж мой верш нікога не кране,
Закрэслю ўсё і ўсё пачну спачатку.

*1961 г.*

## НАТХНЕННЕ

Мне ўсе знаёмыя кварталы:
Вось тут вывешваюць «Звязду»,
Тут разгружаюць самазвалы,
А там чытаюць на хаду

Заўжды занятыя студэнты
Непаслухмяны сапрамат.
У гэтым скверы, каля стэнда,
Чакаюць вечарам дзяўчат.

А на рагу, за ўзгоркам гэтым,
У светлым, сонечным муры
Жывуць прарабы і паэты,
Канструктары і муляры.

Да раніцы не тухнуць лямпы
У ціхім доме ля ракі.
Тут, пэўна, праектуюць дамбы,
Знаходзяць рыфмы і радкі.

Да рання неспакойны токар
Над чарцяжамі спіну гне.
Ягонае натхненне токам
Наскрозь пранізвае мяне.

І я пра новыя кварталы
Складаю песню на хаду,
Калі ад вуліцы Купалы
Да плошчы Коласа іду.

*1964 г.*

## *ДОБРЫ ДЗЕНЬ*

Я ўсё спазнаў: і радасці, і гора,
Я з сотні рэк пакаштаваў вады,
І ноч у ноч мне сніўся родны горад,
Не даючы спакою ўсе гады.
Ён клікаў, уставаў цудоўнай явай,
Далёкі, але блізкі мне такі.
На ўсіх шляхах, за кожнай пераправай
Яго успаміналі землякі.
Я пехатой Еўропу перамераў.
І вось іду між пасталелых дрэў
І нечакана у асеннім скверы
Найлепшага знаёмага сустрэў.
І прыгадаў пра першае спатканне,
Калі яго чароўная рука
Вяла мяне, малога хлапчука,
З жалейкаю па дзедаўскім кургане.
І прывяла ў такі дзівосны свет.
А праз гады па бальшаках Палесся
Ішоў з кійком няўрымслівы паэт
Да першых камунараў на Арэсе.
Вось ён стаіць, над ім звісае веццe,
Шуміць праспект, гамоніць людны сквер,
І ён, здаецца, зараз усміхнецца
І прачытае самы лепшы верш.
Над ім яшчэ і лісце не апала,
Асмужыў шчокі сонечны прамень.
Маўчыць, маўчыць, задумаўся Купала.
Я шапку зняў, сказаўшы: «Добры дзень!»

*1964 г.*

## ПЕСНЯ БУДЗЕ ЖЫЦЬ

*Памяці Якуба Коласа*

Сягоння журацца бары на Беларусі,
Прыбіты сцежкі кроплямі расы,
Замоўкла песня на шырокім лузе,
І падаюць на пожню каласы.

Над Нёманам схіліліся рабіны,
Маўчаць над Сожам пушчы і сады.
Мой родны кут, якога сына,
Якога друга страціў ты!

Маўчаць палі у кроплях буйных рос,
Маўчаць бары, а сэрца плача ўголас.
Мой родны кут, упаў буйнейшы колас,
Што на тваёй зямлі узрос.

Ён не паспеў аб нашым слаўным часе
Ўсяго сказаць, усіх паэм зладжыць.
Пайшоў пясняр, а песня засталася,
Памёр паэт, а песня будзе жыць.

*1956 г.*

## ВІШНІ

На санцапёку даспяваюць вішні,
І на шчацэ густога соку след.
Нацяты павады,
                    і толькі лішні
Начышчаны да бляску пісталет.
Па горнай сцежцы цокаюць падковы,
Гарачы конь кусае муштукі.
Здаецца ўсё трызнёю выпадковай,
Ды нехта ўпарта сочыць з-пад рукі

І гоніць, гоніць.
                    Страшна азірнуцца —
Ратунку не прасі і не шукай;
Здаецца, больш па сцежцы не вярнуцца,
Што круціцца, як росчырк «Николай».

А можа, гэта толькі так здаецца,
Магчыма, ўсё пустой трывогі груз.
Ён прагна ловіць вішні і смяецца,
Што здаўся белым ветразем Эльбрус,

Што цёплы вецер ясені калыша,
Што ён яшчэ усіх пераражыве.
А каля сцежкі костачкі ад вішань
Крывінкамі мільгаюць у траве.

Ён і дагэтуль не прыйшоў дадому:
Ударыў стрэл, і пакаціўся гром...
Але яму, заўсёды маладому,
Зрабіўся родным домам кожны дом.

Ён бачыў рэвалюцыі і войны,
Пераступіў у новыя вякі...
Шумяць, шумяць, як ветразь неспакойны,
На лермантаўскай сцежцы вішнякі.

*1964 г.*

## НЕРЫС

Лісты ападаюць,
а верас
Цвіце і шуміць каля ног.
Імкнецца празрыстая Нерыс,
Шукаючы новых дарог.

Падмыла карэнні і гліну,
Плюскоча ў пажоўклай траве,
Здаецца, што ключ жураўліны
Па хвалях за хмару плыве.

І сіняе, сіняе неба,
І сосны, і сонца — ў вадзе...
Ляціць і на ўспенены грэбень
Бярозавы ліст упадзе.

Да стромкае кручы дзяўчынка
З вяслом па сцяжынцы ідзе,
Чырвоны каснік і касынка
Мігаюць у чыстай вадзе.

Сукенка, як ветразь, бялее,
Лісты ападаюць наўкол...
Дзяўчынка плыве — і лілеі
Збірае ў шырокі прыпол.

Звязаўшы лілеі і верас
Сваім каснікам у букет,
Дзяўчынка
любімае Нерыс
Аздобіць маленькі партрэт.

У словах яна не умее
Яшчэ усяго расказаць,
А скора сябры Саламеяй
Пачнуць і яе называць.

*1958 г.*

* * *

*«Раскажыце пра ваш творчы шлях».*
Запіска на літаратурным вечары

Што ж расказаць пра ўласны творчы шлях?
Які там шлях! — няроўная сцяжынка,
Што пачалася ў веснавых палях
І прывяла адразу на дажынкі.

На ёй былі драсён і колкі мох,
За ёю — пералескі і аблогі,
І я уцяміць аніяк не мог,
Куды вядуць гасцінцы і дарогі.

Мне роўных бальшакоў не выбіраць
Ні восенню, ні летам, ні вясною.
Я навучыўся сеяць і араць,
І распісаўся першай баразною.

Я ставіў хаты вокнамі на ўсход,
Я сонца з ветрам заганяў пад шпалы,
І ведаю, што будуць з году ў год
Яны служыць надзейна і трывала.

У сцюжы іх снягі не замялі,
Не разышліся вушакі і дзверы.
Я рад, што след пакінуў на зямлі,
А вершы асталіся на паперы.
Ці ў сэрцах…

*1966 г.*

## ПРАФЕСІЯ

Мае сябры заслужанымі сталі
Майстрамі лесу, вугалю і сталі,
Ёсць дойліды, ўрачы і педагогі,
Ёсць інжынеры, што вядуць дарогі,
Умельцы шліфаваць алмазы.
А я?
Шукаю і шліфую сказы,
Але не маю званняў і пасад,
Мне нават не прысвоены разрад
І АТК не выдае пячатку,
Бо кожны дзень усё раблю спачатку,
Бо пачынаю з нулявога цыкла,
І ўжо даўно сама рука прывыкла
Выкрэсліваць, сціраць і бракаваць.
Выходзіць — мне ў падмайстрах звекаваць.
Наўрад ці напішу раман і п'есу,
Таму зайздрошчу майстру лесу.

*1964 г.*

* * *

З гадамі маленства здаецца бліжэй —
І памяць зацягвае вузел тужэй,
Звязаўшы канец і пачатак.
Я ўсё прыгадаў і хачу, каб і ты
Пачуў, як па грэблях звіняць капыты,
Як ціха спяваюць дзяўчаты,
Хачу, каб успомніў начлежны касцёр,
І зорнага неба высокі шацёр,
І конскае ў змроку іржанне,
На выгане дымны заблытаны след,
І мокрыя травы, і ліпавы цвет,
І ядраны холад світання.

Напэўна б са светам расстаўся лягчэй,
Каб тых не запомніў кастроў і начэй,
Каб дзічкі вясной на мяжы не цвілі,
Каб песень купальскіх не чуў аніколі,
Каб жытам не пахла даспелае поле,
Каб так не любіў беларускай зямлі.

*1966 г.*

* * *

Мне дзве каханыя спакою не даюць.
Адну люблю з маленства і да скону
Яна пяе і разам з ёй пяюць
Дажджы і травы, воблакі і клёны.

Яна мяне ў наступны кліча век,
Дае тугія крылы для палёту,
У поўнач дакранаецца павек,
Вядзе к сталу, саджае за работу.

Мне без яе і тыдня не пражыць,
Бо звяне лес і перасохнуць рэкі,
На голас не азваўшыся, збяжыць
І змоўкне напалоханае рэха,

Ад шчасця не аглухнуўшы, глушцы
Забудуць пра шчаслівую хвіліну,
Затупяцца сталёвыя разцы,
Не ажывіўшы мармур або гліну.

Другая мне каханая штодня
Расказвае пра радасці і слёзы.
Яны абедзве — блізкая радня,
Адна паэзія, другая — проза.

*1966 г.*

**ПАВЕРКА**

Яшчэ і не развіднела як след,
А ўжо грыміць трамвай на скрыжаванні,
Аўтобусы праклалі першы след
У залатое чэрвеньскае ранне.

Спыняецца аўтобус на рагу,
З кабіны усміхаецца дзяўчынка,
І я, не азірнуўшыся, бягу
Да ціхага суседняга прыпынка.

Адчуўшы сілу добрае рукі,
Заціснуты шырокімі плячамі,
Я паглядаў у розныя бакі
Шчаслівымі і прагнымі вачамі.

Спяшаецца ў далёкі рэйс пілот,
Прараб — на будаўнічую пляцоўку,
Бяжыць хлапец на трактарны завод
І на хаду зашпільвае спяцоўку.

Па новай вуліцы ідзе
І наш аўтобус невялічкі,
Кандуктар з раніцы вядзе
На ўсіх прыпынках пераклічку.

І выклікае кожны раз
Усім знаёмыя імёны,
А мне здаецца, што на нас
Глядзіць Купала задумёны

І Колас шэпча новы верш,
Народжаны ў будзённым гуле,
Здаецца, раіцца ідзеш
Да Чорнага або Бядулі.
Яны, як блізкая радня,
Запісаны у нашы сэрцы,
Мы ўспамінаем іх штодня,
Нібы салдатаў на паверцы.
*1966 г.*

## УСПАМІН

Неба вясной залатое і сіняе,
Вецер пялёсткі кружыць па плошчы.
Некалі Полацкаю Ефрасінняю
Тут называлі струхлелыя мошчы.

Некалі тут гадаваліся княжычы,
Білі паклоны сівыя манахі,
Стражнікі, рукі вяроўкамі вяжучы,
Прадзедаў нашых цягнулі на плаху.

А неба было і тады залатое,
У буйнай расе прачыналіся ранкі,
Ды плакалі горка над Палатою,
Ломячы рукі ў бядзе, палачанкі.

На Полацк ішлі чужаніцы вайною —
Крышыліся коп'і, ўзрываліся танкі,
А горад стаяў і стаіць над Дзвіною,
І песні пяюць пра яго палачанкі.

Каштаны і ліпы
шумяць над бульварамі,
Да раніцы сыплецца спеў салаўіны,
Ідуць у Задзвінне шчаслівымі парамі
Насустрач світанню
патомкі Скарыны.

Ступаючы мякка па стоптаным верасе,
Каханую любы заўсёды сустрэне
На вежавым кране, на сонечным беразе,
У першай, яшчэ не закончанай змене.

У вочы зірне, залатыя і сінія,
Што ззяюць, як росы ліпнёвага ранку,
І скажа: «Дзень добры табе, Ефрасінія».
«Дзень добры», — адкажа яму палачанка.

*1959 г.*

## УСПАМІН

Да поўначы стаіць гарачыня,
І маладзік засланы белым пылам.
Палеглі травы, ім да дня
Устаць наўрад ці хопіць сілы.

Зачахла лісце у гаях,
І хвалі на Дзвіне замёрлі,
Расінка толькі ў салаўя
Ледзь чутна булькае у горле.

Трызніць самлелая зямля
Аб росах, аб дажджы і громе,
Прыслухаўшыся, як здаля
Гудзе лябёдка на пароме.

І зноў навокал цішыня,
Далёка бліскаюць зарніцы.
Табе і сёння, пэўна, сніцца
Пачатак леташняга дня.

У полі сіні-сіні лён
І ветразі сямі палатак.
Здаецца, тут дасюль відзён
Твой першы след і той пачатак

Яшчэ няходжаных дарог,
Яшчэ не зробленай работы,
Калі ў гразі спаўзалі з ног
Старыя кірзавыя боты,

Як на спіне трашчала соль,
Як завіхаліся дзяўчаты,
І першы на руцэ мазоль,
І радасць першае зарплаты.

Як часам не было папіць
Вады ў дзявочым інтэрнаце.
Ты спала, а над ложкам маці,
Здавалася, ўсю ноч не спіць

І шэпча: «Пацярпі крыху.
Я веру — зробяць без прынукі
І дом і новую страху
Твае маленечкія рукі».

Ты чуеш? — спорны дождж ідзе.
Гарачыня адразу спала,
А ты нібыта і не спала,
Ты моўчкі маці ўспамінала
І пачынала новы дзень.

*1959 г.*

## КРАНАЎШЧЫЦА

*Кранаўшчыцы Полацкага нафтабуда*
Валі Забаронька

Над лесам занялося ранне
У буйных кроплях дымных рос,
А ўжо гайдаецца на кране,
Нібы струна, нацяты трос.

Ужо гукаюць: «Майна!», «Віра!» —
І лёгка, як узмах крыла,
Услед за рукою брыгадзіра
Плыве ажурная страла,

Нібыта залатую пражу
Снуюць лябёдкі угары,
І зверху кранаўшчыца кажа:
— Узыходзіць сонейка, сябры.

Сягоння дзень яшчэ прыбудзе,
А сонца вось — рукой падаць.
Яно у нас, на Нафтабудзе,
Заўсёды першай мне відаць.

Відаць, як за Дзвіной пшаніца
Нагнула долу каласы...
І за плячамі ў кранаўшчыцы
Ляжаць тугія дзве касы.

Заплеценыя, як у школе,
Істужкай белаю яны.
Ад іх, здаецца, пахне полем
І ветрам ранняе вясны.

Маленькая, нібы падлетак,
Яна глядзіць на белы свет.
І у кабіне з першых кветак
Стаўляе кожны дзень букет.

Галінкі бэзу і язміну
Прыносіць з бліжняга сяла,
Зірнеш на Валіну кабіну
І бачыш — ліпа расцвіла.

То распусціліся рамонкі,
То браткі ў росным серабры.
Цагліны, як з рабіны гронкі,
Здымаюць з крана муляры.

Глядзіць удалеч кранаўшчыца
І нават дзівіцца сама,
Што ў полі бачыць камяніцы,
Якіх яшчэ пакуль няма,

Што бачыць плошчы і бульвары,
І белы горад над ракой,
Бо ведае, што здзейсніць мары
Сваёю ўласнаю рукой.

*1959 г.*

## ЗАРАДКА

У хлапечым інтэрнаце
Пражаць вечарам гарох.
На стале, як на парадзе,—
Масла, бульба і тварог.

Хлопцы ставяць на пліту
Смажыць бульбы тры патэльні.
Пахне салам за вярсту,
А вось бульбаю не вельмі.

— Янка, падавай кефір,
Апанас, нясі аладкі,—
Кажа хлопцам брыгадзір,—
Прыступаем да зарадкі.

Сеў за стол, пакроіў хлеб,
Разлажыў усім па лусце.
— Ты, Пятро, хіба аслеп:
Рукавы ужо ў капусце.

Дзесяць хлопцаў — дзесяць страў
Выстаўляюць на абрусе.
Хтосьці з іх пажартаваў:
— Я адзін за ўсіх бяруся

З'есці бульбу, і тварог,
І капусту, і аладкі.
— А скажы, без нас бы змог
Ты адзін закончыць кладку?

— Вам з вячэрай без мяне
Не управіцца ніколі:
Я ж за год на цаліне
З'еў не меней пуда солі.

— Я паверу, што з'ясі
Ты адзін не пуд, а тону.
Лепш вазьмі ды панасі

Ты за нас адзін бетону.

Хопіць лётаць па зямлі,
Замацоўвайся, як людзі.
Паспытаў бы, як жылі
Летась мы на Нафтабудзе.

А не згодзен — прабачай,
Ты між нас не знойдзеш пары.
Гатаваць бярыся чай,
Падавайся ў кашавары

Ці на пост вартаўніка
Каля нашай хлебнай крамы,
А імя будаўніка
Не гнюсі, пакінь за намі.

— Зноў счапіліся яны!
Брыгадзір, канчайце сварку:
Стыне ж бульба і бліны,
Перасмажыліся скваркі...

Селі ўсе за стол яны.
Паглядзела б з боку маці,
Як вячэраюць сыны
У хлапечым інтэрнаце.

*1959 г.*

## ПРЫГОЖЫЯ РУКІ

У час сустрэч і ў час разлукі,
Выходзячы ўдваіх на шлях,
Навошта ты хаваеш рукі
У драпінах і ў мазалях?

Заўжды шурпатыя ад тынку,
Парэпаныя ад вады,
Яны не знаюць адпачынку
У гарачыню і ў халады.

Ад цэглы і ад арматуры
Яны зрабіліся дужэй…
За сотні рук у манікюры
Такія рукі прыгажэй.

Яны трымаюць у па лоне
Душу і сэрца юнака.
Не выкаўзне з такой далоні
Яго шурпатая рука.

*1959 г.*

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

*Брыгадзіру такелажнікаў*
*Івану Міхайлавічу Чарненку*

Яны дзяцей пагадавалі,
Бацькамі сталі іх сыны,
Народжаныя на Урале,
Пажэненыя ля Дзвіны.

Ужо здалёку аб нявесце
Завёў гаворку меншы сын.
Ці ж не прыйшла пара асесці,
Прайшоўшы столькі пуцявін?

Ад Кемерава да Алтая,
Ад Ішымбая да Чыты
Шумела восень залатая,
Пад ногі сцелючы лісты.

Зімой дарогі замятала
Завея белая, як дым.
А ім здавалася, што мала
Зрабіць прыйшлося маладым.

І зноў збіраліся ў дарогу,
Складалі кельмы ў рукзакі
І праз таежныя бярлогі
Ішлі, ішлі будаўнікі.

Рыпела пад рыдлёўкай гліна,
А ноч марозамі гула.
У іх маленечкага сына
Брыгада нянькаю была.

Камбінезон насіла жонка,
З кляймом казённыя пімы
І пела радасна і звонка,
Як салавей сярод зімы.

Так і дзяцей пагадавалі,
Бацькамі сталі іх сыны...
Паездзілі, павандравалі —
І вось прывал каля Дзвіны.

Зірнеш назад, а шлях кароткі.
Калі б ізноў усё прайсці:
Баракі першай пяцігодкі,
Трывогі першыя ў жыцці,

Другога не хацеў бы шчасця,
Другіх бы не шукаў дарог,
І так пачаў бы сцены класці,
І так бы любую бярог,

І так бы радавала стома,
І мары светлыя, і сны,
І стаў бы самым родным домам
Зялёны горад ля Дзвіны.

На стол парэпаныя рукі
Паклаў руплівы брыгадзір.
Пытаюцца пацiху ўнукі:
«А мы
паедзем у Сібір?»

*1961 г.*

## ПАРТОРГ

*Мікалаю Чэчату*

Адзін ён не мае кароткай суботы:
Як толькі развіднее — зноў за парог.
Рыпяць па дарозе гумовыя боты —
Ідзе на работу парторг.

Ён першы садзіцца у мулкі аўтобус,
Упалі на вокны расінкі з галля.
Пад коламі, быццам раскручаны глобус,
Насустрач світанню імчыцца зямля.

То ўлева, то ўправа нахіляцца сосны,
То кружацца ў шыбах густыя гаі,
І чутна, як побач пра раннія вёсны
Пяюць нафтабудаўскія салаўі.

Парторг па характару трошачкі лірык
(Без лірыкі кожнаму цяжка пражыць),
Прарабы — рамантыкі,
                                а брыгадзіры
Гатовы найлепшую песню зляжыць.

І вось яна, вось яна — гэтая песня:
Укладзены сцены, нібыта радкі,
Як самыя поўныя рыфмы,
                                        на ўзлессі
І рана і ноччу звіняць цягнікі.

Падумаў парторг: каб праз дзвесце ці трыста
Гадоў зазірнуць выпадкова сюды,
Адразу пазнаў бы, што тут камуністы
Дамы будавалі, саджалі сады

І слухалі часам пагрозы і ноты,
Ды толькі адзіным жаданнем жылі —
Зрабіць як найболей патрэбнай работы,
Паспець як найболей стварыць на зямлі.

У майцы і ў форменнай шанцы танкіста
Вядзе экскаватар нядаўні маёр.
Куды ні паглядзіш,— ідуць камуністы —
Бетоншчык, маляр, трубаклад і шафёр.

У ботах гумовых і сіняй спяцоўцы
Для радасцей новых і новых трывог
На самай адказнай, ударнай пляцоўцы
Ад рання да ночы працуе парторг.

*1961 г.*

## СУПРАЦІЎЛЕННЕ МАТЭРЫЯЛУ

Аўтобус «Полацк — Нафтабуд»
Заўсёды поўны пасажыраў:
І муляры, і цеслі тут,
І капітаны без мундзіраў,

І маладыя лейтэнанты.
Ад службы толькі засталіся канты
І звычка добрая, старая —
Быць першым на пярэднім краі.

Ідзе аўтобус поўным ходам,
Туман курыцца на Дзвіне.
Жартуе хтось: «Замест узвода
Цяпер брыгада у мяне».

Гартаюць ля акна дзяўчаты
Падручнікі па сапрамату,
Складаныя вядуць разлікі —
Сягоння ім здаваць залікі,

І новы дом, і цэх здаваць
У лік наступнага квартала,
І кожным рухам адчуваць
Супраціўленне матэрыялу:

Бетонныя укладваць пліты
І заліваць гарачы бітум,
Вучыць механіку ўначы
І ўсё
          самім
                    перамагчы.

А заўтра зноў усё пачаць,
І скрозь паспець, хоць часу мала.
Нашчадкі будуць вывучаць,
З якога вы матэрыялу.

*1961 г.*

## ДЫСПЕТЧАР

Усыпаны зорамі вечар,
Ля клуба іграе баян.
Танцуюць усе,
                    а дыспетчар
Глядзіць на блакітны экран,

Глядзіць на сігналы на пульце,
А пальцы, нібыта на пульсе,—
Пад імі гудуць правады:
«Канчаем адкачку вады»,
«Гатова другая калона»,
«Чаму не падвозяць бетону?»

Дыспетчар хвалюецца, кліча
То Оршу, то Віцебск, то Крычаў,
А ў вокнах, нібы на экране,
Ужо занімаецца ранне.

Туман за ракою густы
Паслаўся на буйныя травы,
Грукочуць на станцыі Кеты
З цэментам і шчэбнем саставы.

«Бетон адпраўляем і трубы»,—
Пачуўся ў селектары свіст.
Дыспетчар не спіць. А ля клуба
Чакае яе баяніст.

*1964 г.*

## ДАЛЬНІ ПРЫПЫНАК

Пры дарозе — толькі слуп,
Бо прыпынак дальні,
Але тут, нібыта клуб,
Школа і чытальня.

Тут і песню запяюць,
Пажартуе майстра,
І пытанні задаюць
Пра Фідэля Кастра.

Тут завочнік на пяску
Піша, піша штосьці,
Тут гавораць, што з Баку
Прыязджаюць госці.

А з-за Новага Двара,
З невялічкай хмары,
Нечакана як з вядра
Цёплы дождж ударыў.

Заскакалі басанож
Хлопцы і дзяўчаты —
Спорны дождж, харошы дождж
Мые, як на свята,

Прабірае да касцей,
Хвошча, як у душы.
Мо таму у іх чысцей,
Чым у іншых, душы.

*1961 г.*

* * *

Ад сцюжы пасівелі вейкі,
І стынуць рукі ад жарствы.
Ты б іх схавала ў рукавы
Сваёй шурпатай целагрэйкі.

Табе здаецца, што не вельмі
Яшчэ лютуюць халады.
Вятры ж гудуць на ўсе лады,
І прыстае к далоні кельма.

Ты мне гаворыш з вышыні,
Што праз гадзіну кончыш змену.
Цябе я, любая, сустрэну,
Калі запаляцца агні.

А ноччу зноў гудзе завея
У нашым ціхім гарадку.
Ты змерзла?.. Я тваю руку
Сваімі вуснамі сагрэю.

Ад шчасця і ад хвалявання
На вейках знікне сівізна,
І чыстай кропляй на світанні
Да нас пастукае вясна.

*1961 г.*

## НАСЦЯ

Ледзь не задыхаецца ад шчасця
Беленькая, як бярозка, Насця.
Вось ужо і прозвішча змяніла,
І пры людзях кажа: «Пойдзем, мілы,
Мы з табою ў Маладзёжным садзе
Побач дуб з бярозкаю пасадзім.
Хай растуць, няхай сплятаюць вецце,
Хай ніколі іх не зломіць вецер.
А калі шырэй раскінуць голле,
Будзе побач клёнік ці таполя».
І стаяць заўсёды, як пад шлюбам,
Белая бярозка разам з дубам,
Іх у спёку палівае Насця.
І расце, расце «Алея шчасця».

*1961 г.*

## ГОРНАЯ ДАРОГА

Аўтобус нырае то з хмары, то ў хмару,
То ў пырскі вясёлак, то ў лівень і гром,
Мінае Ай-Петры, мінае Байдары,
Ляціць і пятляе над безданню стром.

Маўклівыя сосны стаяць на каменні
Ад нізу да самай вяршыні гары.
І як іх трымаюць на скалах карэнні?
І як іх не зваляць у бездань вятры?

Круты паварот, і насустрач — трохтонка
Мільгнула у шыбах, і зноў — паварот.
Успомняцца кожнаму дзеці і жонка
На гэтай пятлі ля Байдарскіх варот.

Над самаю кручай віецца дарога,
І мы на шафёра глядзім, як на бога.

1958 г.

* * *

*Прощай, свободная стихия.*
А. Пушкін

Я Чорнае мора зялёным назваў бы,
Як толькі заціхнуць і бура і шторм.
Сюды мяне змалку і клікаў і вабіў
Бязмежны, жывы і нястрымны прастор.

Далёкія чайкі мяне прывіталі,
Спыніла на беразе мора мяне,
Дзе хвалі бягуць, уздымаюцца хвалі
І б'юцца, як біліся, пэўна, даўней,

Калі развітацца з марскою стыхіяй
Прыходзіў паэт да крутых берагоў...
Хвалюецца мора, і стогне, і вые,
Нібыта шукае і кліча яго.

*1956 г.*

## САМШЫТ

На галышах, ля стромкай кручы,
Расце самшыт з каравым суччам.
Зялёны мох звісае з веццяі,
Бо сонца толькі часам свеціць
І зноў хаваецца за горы.
А ён без скаргаў і дакораў
Расце у засені халоднай
На глебе цвёрдай, але роднай.
Граніт і голае каменне
Свідруюць тонкія карэнні,
Шукаючы жывой крыніцы,
Каб чыстае вады напіцца.
Каб перад бураю не гнуцца,
Самшыту трэба дацягнуцца
Да самай стромкае вяршыні,
Дзе столькі сонца, столькі сіні.
Ён на скале расце вякамі,
І сам — нібыта горны камень.

*1956 г.*

## ГРАНАТЫ

Як песню юнацтва,
Як словы «Грэнады»
Мы ўсе паўтаралі: «Гранаты, гранаты».
Былы падрыўнік і ў запасе салдат
Прыпомнілі звязкі гарачых гранат…

Гранатамі пахне ў Гісарскай даліне.
Гранаты даспелі на кожнай галіне —
Чырвоныя сонцы наўкол узышлі,
І грэюць, і свецяць, і ззяюць высока,
А лопнуць — шыпшыннік апырскаюць сокам
І спелыя зерні вяртаюць зямлі.

Куды ні зірнеш — каля кожнае хаты,
На кожным узгорку — гранаты, гранаты.
Пагодную восень прыносяць далінам
Гарачага сонца і хмар пасланцы,
І ўжо не гранаты нясуць мудрацы,
А добрыя сэрцы яны аддалі нам.

Гаворыць у белай чалме Абдуло:
— Каб цёпла і светла на свеце было,
Каб пелі рубобы, ігралі барбаты,
Каб вусны ірдзелі ад соку ў дзяўчат,
Каб людзі забылі пра попел і чад,
Хай падаюць толькі жывыя гранаты
З рубінавым сокам і жменяй зярнят.

*1964 г.*

## АРЛЫ

Сышліся горы ушчыльную
Каля замшэлае скалы,
І, як дазорныя, пільнуюць
Спакой магутныя арлы —

Плывуць шырокімі кругамі
У сіні сонечны прастор,
Пад імі чыстымі снягамі
Гарацъ хрыбты Каўказскіх гор,

А хмары паплывуць над імі,
Віхор сагне вярхі чынар,—
Здаецца, крыламі тугімі
Маланку выкрасаюць з хмар.

Арлы з маланкай, як блізняты,
Пад чорнай хмарай зіхацяць.
І ў першы вылет арляняты
Услед за імі паляцяць.

*1956 г.*

## НАРОДНАЯ НАСТАЎНІЦА

Дакошаны лугі, адшапацела жыта,
На сцежкі падаюць пажоўклыя лісты,
Пра што ты думаеш і марыш, раскажы ты,
Куды ідзеш, каго шукаеш ты?

Ці мо сяброў сваіх успамінаеш
І думаеш, што тут зусім адна?
Чаму начамі роснымі блукаеш,
Чаму не спіш да самага відна?

Усе заснуць, а ты святла не гасіш,
У шыбу стукае асенні матылёк,
Ты доўга думаеш, які́м у першым класе
Твой будзе першы у жыцці урок,

Які́м святлом, які́м гарачым словам
Дарогу к сэрцу кожнаму знайсці,
Каб гэтым хлапчукам белагаловым
Патрэбнай быць заўсёды у жыцці,

Каб кожны стаў і мужны і шчаслівы,
Каб з імі ты шчаслівая была...
За вокнамі шумяць у садзе слівы,
І месяц стаў над стрэхамі сяла.

А раніцаю ясна сонца свеціць,
Сланечнікі даспелі на градзе,
І ціха шэпчуць за парканам дзеці:
«Вунь новая настаўніца ідзе».

Настаўніца! А ці даўно самую
Вяла у школу маці за руку?
Яна і сёння па табе сумуе
У ціхім прыдняпроўскім гарадку,

Яна штодня лістоў тваіх чакае
І журыцца: «Ну як яна адна?»
Але цябе, як маці, сустракае

Ласкавая лясная старана —

Шумлівыя бары, рачныя кручы
І белыя лілеі на вадзе,
І хлапчукі бягуць табе насустрач
І соты раз гавораць: «Добры дзень!

Ты узышла на ганак новай школы,
Ты гэтым дзецям блізкая, свая,
І ўжо сябе не лічыш навасёлам,
Бо тут твой дом і тут твая сям'я.

Тут будуць слёзы, тут і шчасце будзе
І — першыя маршчынкі на ілбе.
А ўжо і сёння называюць людзі
Народнаю настаўніцай цябе.

*1957 г.*

## ДВАЦЦАТЫ ГОД

Усе мы бачым, як піжон
Часамі лезе на ражон,
Як з тонкай модніцай у пары
Яны шліфуюць тратуары,
Як сноўдаюцца у абдымках,
Нібы на галівудскіх здымках,
Ад вечара і да світання,
Даўно не верачы ў каханне.

Нібыта аплявухай звонкай,
Мы ахрысцілі іх — «падонкі»
І адхрысціліся ад іх,
Хоць шум на вуліцы не сціх,
Хоць пазнаём мы іх здалёку.
Яны — нібы бяльмо на воку,
Што засланіць ужо гатова
І ясны дзень, і ранак новы.

Ды сонца нельга засланіць —
Яно палае і звініць,
Яно ў рабочыя кварталы
Плыве расплаўленым металам.
І па шырокім тратуары
Ужо сланяюцца не пары,
А хлопцы крочаць на завод,
І кожнаму — дваццаты год.

Ідуць шафёры і шахцёры,
Геолагі свідруюць горы,
Гідролагі шукаюць брод,
І кожнаму — па дваццаць год.
А нашы дочкі і сыны
Нам пішуць пісьмы з цаліны,
Частуюць самым смачным хлебам
І ўсё часцей глядзяць у неба.

Саджаюць кветкі, быццам дома,
Дзяўчаты каля касмадрома.

І дзень у дзень ідуць упарта
Ад баракамеры да старта
Вясёлыя зямныя зоры —
Дублёраў верныя дублёры,
Даўно гатовыя ў палёт,
І кожнай з іх — па дваццаць год.

А ў дождж, у спёку, ў навальніцу
Каля дзяржаўнае граніцы,
Ад Брэста і да Сахаліна,
Не спяць бязвусыя мужчыны,
І ў акіяне маракі
Глядзяць удалеч з-пад рукі,
У першы ідучы паход,
І кожнаму — па дваццаць год.

Такія нашыя сыны.
На нас падобныя яны,
Патрэбна толькі сёння бачыць,
Што кожны будзе заўтра значыць.

*1963 г.*

## ЖНІВЕНЬ

Адшумелі ліпеньскія ліўні,
Навальніцы ў полі адгулі.
Толькі ледзьве чутна,
як у жніўні
Стукаюць зярняты па зямлі.

Шапаціць сухімі каласамі
Сонечны празрысты летні дзень,
І ляжыць з калючымі вусамі
На загонах ядраны ячмень.

Пахне хмелем і дарожным пылам,
Пахне цёплай вільгаццю раллі,
Бусляняты ўжо спрабуюць крылы,
Што у іх за лета адраслі.

Выбіраюць зорную дарогу
Да чужой далёкае зямлі,
І,
нібыта чуючы трывогу,
З крыкам пралятаюць жураўлі.

А мяне заўсёды цешыць восень,
Радуе грыбоў і яблык пах,
І тугое спелае калоссе,
І абед у полі на снапах,

Вабяць ледзь прыкметныя сцяжынкі,
Радуюць жытнёвыя вянкі,
Што плятуць заўсёды на дажынкі
Самыя дасціпныя жанкі.

Хай іржэўнік пасівеў на ніве,
Верасень стаіць каля двара —
У маім жыцці пачаўся жнівень
Самая багатая пара.

*1959 г.*

## МОЙ ЧЫТАЧ

Не помню я, даўно ці не,
Сябрамі мы такімі сталі.
Мяне з табою на вайне
Адны дарогі пабраталі.

Мы па адной паўзлі раллі,
Аднымі грэліся кастрамі
І пераможцамі прайшлі
Пад аркай Брандэнбургскай брамы.

Мы разам разбіралі друз,
У новым доме клалі печы —
Усіх турбот вялікі груз
Лажыўся нам з табой на плечы.

З табой хаджу я кожны дзень
І кожны дзень вяду гаворку,
Плыву па нёманскай вадзе,
Куру бабруйскую махорку;

Жыву з табою, мой чытач:
Хаджу ў кіно, дзяцей гадую,
Ад цеснаты і ад нястач
І я ніколі не бядую.

Са мной ты, мой чытач, заўжды.
І ў цішыню майго пакоя
Апоўначы прыходзіш ты,
Каб не даваць і тут спакою.

Я чую голас твой і смех,
Гляджу, як легка колеш камень,
Як раніцой ідзеш у цэх,
Як ты купляеш кветкі маме.

Ты мне спакою не дасі,
Я гэта ведаю і рады,

Калі мне скажаш: «Не хлусі,
Свае складаючы балады»,

Калі ты кажаш: «Адтачы
Радкі і рыфмы, як са сталі,
Каб іх любілі чытачы,
Каб іх сябры тваe чыталі».

З табой рвануліся ў пакой
Вятры. Пад імі сосны гнуцца,
І ад стала да іх рукой,
Здаецца, можна дацягнуцца.

Запахла вільгаццю бароў —
Знікае столь, знікаюць сцены,
Са свістам напаўняе кроў
Мае артэрыі і вены.

Таму цябе я палюбіў,
Мой лепшы друг, мой сябра першы.
Калі б са мною ты не быў,
Дык не было б і гэтых вершаў.

*1959 г.*

## НЯМА ЧАСУ

І я аб смерці часам думаю,
Хоць і не хочу паміраць.
З мяне рабіць не варта мумію,
Не варта дужа дакараць.

У крывадушшы ці ў няшчырасці
Мяне мой друг не папракне,
А скажа: «Не паспеўшы вырасці,
Зваліў работу на мяне».

Дык вось таму цяпер да ночы я
За трох адзін усё варочаю,
Каб, ворагам усім на зло,
Памерці часу не было.

*1960 г.*

* * *

Іх доўга сэрца няньчыла, насіла,
Яны то стукаліся, то сціхалі зноў,
То нечакана з адзічэлай сілай
Ад іх у жылах бушавала кроў.

І вось, нібы зубцы кардыяграмы,
На чыстым аркушы пабеглі з-пад рукі
І адарылі сціплымі дарамі
Маю душу няхітрыя радкі.

І боль прайшоў, нібыта дождж у маі,
І гэтак стала лёгка на душы,
Што песню, быццам голуба, трымаю,
А сэрца просіць: новую пішы.

*1964 г.*

# ЗМЕСТ

**II**

Дваццаты год
Жнівень
Мой чытач .
Няма часу .
*** Іх доўга сэрца няньчыла, насіла.

**Грахоўскі Сяргей.**
Тры вымярэнні. Выбраная лірыка. Мінск. «Беларусь». 1967.
296 с. 8000 экз. 59 к.

Многа і плённа працуе ў беларускай паэзіі Сяргей Грахоўскі. У свой час наш чытач прыязна сустрэў яго зборнікі вершаў «Дзень нараджэння» (1957 г.), «Чаканне» (1960 г.), «Табе зайздросціць сонца» (1963 г.), «Памяць» (1965 г.). Творчасць паэта адметная тэматычнай шырынёй, разнастайнасцю паэтычных фарбаў, пафасам высокай грамадзянскасці.
У гэтай кніжцы сабрана лепшае з напісанага С. Грахоўскім.

**7-4-3**
**94-67**

**Бел2**
**Г 78**

На белорусском языке. Сергей Иванович Граховский. Три измерения. Издательство «Беларусь»« Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар А. Марціновіч. Мастак Ул. Басалыга. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар Г. Аніскевіч. Карэктар С. Кісялевіч.

АТ 02740. Здадзена ў набор 10/1 1967 г. Падп. да друку 5/IV 1967 г. Тыраж 8 000 экз. Фармат 70х108 1/32. Лапера друк. мелав. Ум. друк. арк. 12,95. Уч.-выд. арк. 8,3. Зак. 48. Цана 59 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.